А.К.Краўцэвіч

# Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.

(планіроўка, культурны слой)



А.К.Краўцэвіч

# Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.

(планіроўка, культурны слой)



А.К.Краўцэвіч

# Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV–XVIII стст.

планіроўка, культурны слой



Мінск
«Навука і тэхніка»
1991

ББК 63.4
К78

На основе материалов археологических раскопок автор рассматривает проблемы и закономерности развития исторической планировки, формирование культурного слоя городов и местечек Белорусского Понеманья. Книга иллюстрирована.

Рассчитана на археологов, историков, искусствоведов, реставраторов, всех, кто интересуется историей Белоруссии.

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук М. А. Ткачоў

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Г. В. Штыхаў,
кандыдат гістарычных навук Я. Г. Звяруга

К $\frac{0504000000-105}{M316(03)-91}$ 139—91

ISBN 5-343-00615-9

## УСТУП

Гэтая праца абагульняе вынікі першага этапа археалагічнага даследавання гарадскіх паселішчаў і замкаў 14—18 стст. у Беларускім Панямонні. Пытанні гістарычнай тапаграфіі, праблемы аховы і вывучэння культурнага слою разглядаюцца на прыкладзе гарадоў Гродна, Навагрудка, Слоніма, Ваўкавыска, Ліды, Ашмянаў, гарадскога пасёлка Мір, вёсак (былыя мястэчкі) Гальшаны і Любча. З мноства мястэчак (у сярэдзіне 17 ст. на Панямонні было 158 гарадскіх паселішчаў [1]) увага засяроджваецца на двух — Гальшанах і Любчы. Абраныя яны таму, што ўяўляюць сабой дастаткова тыповыя прыклады мястэчак і, акрамя таго, тут праводзіліся археалагічныя раскопкі.

Праца выканана галоўным чынам на матэрыялах раскопак аўтара ў 1982—1988 гг., вывучэнні картаграфічных матэрыялаў з Цэнтральнага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве, Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Ленінградзе.

Выказваю шчырую ўдзячнасць супрацоўнікам Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута А. А. Трусаву, І. М. Чарняўскаму, прафесару М. А. Ткачову, супрацоўніку Інстытута гісторыі АН БССР А. М. Кушнярэвічу за магчымасць карыстацца матэрыяламі раскопак Лідскага, Крэўскага, Гродзенскага, Гальшанскага, Любчанскага замкаў, дамініканскага кляштара ў Навагрудку і Мікалаеўскага касцёла ў Міры.

[1] Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в. Мн., 1966. С. 25.

## АГЛЯД ДАСЛЕДАВАННЯЎ І КРЫНІЦ

Планамернае археалагічнае вывучэнне гарадоў, а таксама замкаў 14—18 стст. на Беларускім Панямонні пачалося ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў 20 ст., але цікавасць да познесярэднявечных старажытнасцяў




1. Гарадскія паселішчы Беларускага Панямоння ў 14 ст.: А — замкі; В — сучасная мяжа БССР; С — мяжа Вялікага княства Літоўскага

узнікла значна раней. Ужо ў 18 — 19 стст. некаторыя познесярэднявечныя рэчы трапляюць у прыватныя зборы і музеі. Буйнейшым на Беларусі быў збор князёў Радзівілаў. У Нясвіжы пры іх рэзідэнцыі з 16 ст. існаваў архіў, у якім захоўваліся дзяржаўныя дакументы Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, а таксама фамільны архіў. У нясвіжскай бібліятэцы ў 18 ст. было зарэгістравана больш як 2 тыс. старых кніг, у тым ліку і 16 — 17 стст. Нумізматычная калекцыя ўключала медалі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, разначасовыя манеты: дукаты, талеры і інш. Радзівілы сабралі рэдкую калекцыю карцін і сярэднявечнай зброі, дзе было рыцарскае, паляўнічае ўзбраенне і рыштунак, гарматы, кожная з якіх мела сваю назву: «Хімера», «Гідра», «Папугай» і інш [2]. Меншыя зборы, якія таксама належалі Радзівілам, знаходзіліся ў Міры і Карэлічах.

У 18 ст. вялікую калекцыю рэдкіх кніг, каштоўных рукапісаў, археалагічных матэрыялаў сабраў у сваім маёнтку Шчорсы канцлер Вялікага княства Літоўскага І. Храптовіч [3]. Зборам рэдкіх рэчаў, у першую чаргу карцін, займаліся таксама Сапегі, Тызенгаўзы і іншыя магнацкія і шляхецкія роды.

У 1856 г. быў адкрыты Віленскі музей старажытнасцяў. Пры ім утварылася Віленская археалагічная камісія. Спачатку фонды музея фарміраваліся выключна праз перадачу прыватных збораў, у тым ліку і з Беларускага Панямоння. У Віленскім музеі старажытнасцяў захоўваліся ўзоры галаснікоў, кафлі і цэглы гродзенскай царквы Барыса і Глеба (Каложскай), дзесяць старых ключоў з Гродзенскага замка[4].

Першыя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Беларускага Панямоння звязаны з імем вядомага гісторыка Вялікага княства Літоўскага Т. Нарбута (1784 — 1864 г.), які ў пачатку 19 ст. праводзіў даследаванні могільнікаў у Лідскім павеце [5]. Т. Нарбут — аўтар цікавых гістарычных апісанняў Ліды, Крэва, Гродна, Навагрудка. Ён апісваў галоўным чынам падзеі палітычнага

[2] Каханоўскі Г. А. Збіральніцтва і ахова помнікаў у XVIII ст. на Беларусі // ПГКБ. 1975. № 4. С. 44.

[3] Там жа. С. 45.

[4] Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии // Тр. IX археол. съезда в Вильне. М., 1893. Т. 1, приложения. С. 58.

[5] Narbutt T. Pomniejsze pisma historyczne. Wilno, 1856. S. 4—5.

жыцця сярэднявечча, звязаныя з названымі гарадамі і замкамі. Так званай Чорнай Руссю цікавіўся З. Даленга-Хадакоўскі (1784—1825). У свой «Слоўнік назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў» ён уключыў помнікі з-пад Гродна. Крэва даследчык называў «гняздом крывічоў» [6].

Археалагічныя помнікі Беларускага Панямоння, у тым ліку і познесярэднявечныя, у 1-й палове 19 ст. прыцягвалі ўвагу Я. П. і К. П. Тышкевічаў, А. К. Кіркора, У. Сыракомлі, Р. С. Зянькевіча, у 2-й палове 19 ст. — Е. Р. Раманава, Ф. В. Пакроўскага, З. Глогера, М. Федароўскага, В. А. Шукевіча, Е. Ф. Арлоўскага. Даследчыкі займаліся пошукамі, сістэматызацыяй, раскопкамі помнікаў розных археалагічных перыядаў, а разам з тым апісвалі замкі 14 — 17 стст., такія, як Гродзенскі, Навагрудскі, Лідскі, Крэўскі, Гальшанскі, Геранёнскі. Я. К. Тышкевіч вызначыў, што замкі ў Лідзе, Крэве, Гальшанах, Міры па свайму строю блізкія да заходнееўрапейскіх. Варта адзначыць плённую гісторыка-краязнаўчую дзейнасць М. Балінскага і Т. Ліпінскага [7], У. Сыракомлі [8]. У іх працах выкладаюцца цікавыя гістарычныя звесткі аб гарадах, мястэчках і замках Беларускага Панямоння. У «Археалагічнай карце Гродзенскай губерні» Ф. В. Пакроўскага апісаны знаходкі познесярэднявечных манет Вялікага княства Літоўскага, польскіх, прускіх, шведскіх, брабанцкіх [9].

Першыя вядомыя нам раскопкі познесярэднявечнага паселішча ў Беларускім Панямонні былі праведзены З. Глогерам у канцы 19 — пачатку 20 ст. у мястэчку Крошын Навагрудскага павета (зараз Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці). Ён адкрыў кафляную печку 14—15 стст. з плеценым у выглядзе купала і абмазаным глінай каркасам. Вусці гаршковых кафлін з гэтай печкі аформлены ў выглядзе чатырохпялёсткавай разеткі [10].

---

[6] Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі. Мн., 1984. С. 32—33.

[7] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska. Warszawa, 1846. T. 3.

[8] Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853; Ён жа. Wycieczki po Litwe w promieniach od Wilna. Wilno, 1860. T. 2.

[9] Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. С. 28, 41, 43.

[10] Gloger Z. Enciklopedia staropolska ilustrowana. Warszawa, 1978. T. 2. S. 303.

У 1912 г. невялікія раскопкі ў Мірскім замку ажыццявіў Ю. Ядкоўскі. Знайшоўшы фрагменты каляровых шкельцаў і паліхромнай кафлі, ён зрабіў выснову аб наяўнасці ў замку 16 ст. вітражоў і паліхромных печаў [11].

У 20—30-я гады, калі заходнебеларускія землі былі ў складзе Польшчы, археалагічныя даследаванні ў Панямонні вяліся эпізадычна. Імкнучыся абгрунтаваць свае права на «ўсходнія крэсы», правіцелі тагачаснай Польшчы рабілі захады для захавання быццам бы польскіх помнікаў архітэктуры. У Навагрудку, Гродне, Лідзе, Крэве былі праведзены працы па кансервацыі і частковай рэстаўрацыі архітэктурных помнікаў [12]. У 1924 г. у Навагрудку пачаліся працы па ўзвядзенню мемарыяльнага кургана А. Міцкевіча. Зямля для гэтага бралася з пляцоўкі Замкавай гары. Польскія архітэктары Р. Гюртлер, Ю. Рэмер, А. Шышка-Богуш у ходзе прац вывучалі і кансервавалі рэшткі Навагрудскага замка. На Замкавай гары быў зняты слой да 2 м таўшчынёй [13]; знойдзены 24 манеты 14—17 стст., 24 каменныя ядры розных памераў, профільная цэгла [14]. У 1925 г. Ю. Ядкоўскі вывучаў культурны слой старажытнага Ваўкавыска на ўзвышшах Шведская гара і Замчышча. Былі закладзены траншэі шырынёй у 1 м. Разам з матэрыяламі часоў Кіеўскай Русі выяўлены фрагменты познесярэднявечных кафляў і керамічнага посуду [15].

У 20-х гадах пад час земляных прац у Гродне былі прасочаны рэшткі драўляных збудаванняў на тэрыторыі Новага замка, каля Савецкай плошчы, уздоўж Замкавай вуліцы. Датаванне іх невядома [16].

Вялікія земляныя працы ў Гродне, што пачаліся ў 1931—1932 гг., звязаны з дзейнасцю створанай у 1928 г. камісіі для ўмацавання Замкавай гары, якую

---

[11] Иодковский И. И. Замок в Мире // Древности. М., 1915. Т. 6. С. 54—72.

[12] Lorentz S. Konserwacja ruin zamków w wileńszczyźne i nowogródczyzne // Ochrona zabytków sztuki. Warszawa, 1930/31. Z. 1—4. S. 161—179.

[13] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. Л., 1981. С. 4.

[14] Gürtler R. Roboty konserwatorskie na górze Zamkowej w Nowogródku (sprawozdanie ogólne) // Ochrona zabytków sztuki. Warszawa, 1930/31. Z. 1—4. S. 181—188.

[15] Jodkowski J. Grodzisko Wolkowyskie. Grodno, 1925.

[16] Воронин Н. Н. Древнее Гродно // МИА. 1954. № 41. С. 17.


сталічны горад


горад


ваяводскі горад


горад з замкам або земскім судом


княжацкія рэзідэнцыі


рэзідэнцыя каталіцкага біскупа


рэзідэнцыя праваслаўнага епіскапа


мястэчка


вёска са шляхецкім дваром

падмываў Нёман. Глеба бралася з пляцоўкі Замкавай гары. Назіранні за працамі ажыццяўляў Ю. Ядкоўскі. Пад час прац былі адкрыты помнікі мураванага дойлідства 12 ст.: княскі церам, так званая Ніжняя царква, так званая Верхняя царква і будынкі 14—17 стст. За час паміж 1932—1937 гг. на мысе Замкавай гары зняты культурны слой на глыбіню 2,5 м, а месцамі 5—8 м, гэта значыць, амаль усе познесярэднявечныя наслаенні. У 1937 г. Ядкоўскага змяніў З. Дурчэўскі. Ён кіраваў раскопкамі да 1 верасня 1939 г. У працах Ю. Ядкоўскага і З. Дурчэўскага акрамя рэчаў 11—12 стст. апублікаваны і матэрыялы 13—14 стст. (наканечнікі арбалетных стрэл, нажы, сярпы, ключы, замкі, керамічны посуд і г. д. [17]).

Важкі ўклад у вывучэнне старажытных гарадоў Беларускага Панямоння ўнеслі савецкія археолагі ў пасляваенны час. Даследаваліся гарады Гродна, Навагрудак, Слонім, гарадзішча каля вёскі Турэйск Шчучынскага раёна [18]. Аднак познесярэднявечны перыяд жыцця гэтых паселішчаў не вывучаўся, толькі ў асобных выпадках публікаваліся матэрыялы 14 ст. У 1949 г. на Замкавай гары ў Гродне праводзіла даследаванні экспедыцыя ІГМК АН СССР на чале з М. М. Вароніным. Вынікі працы экспедыцыі, а таксама даныя папярэдніх даследчыкаў абагульнены М. М. Вароніным у манаграфіі «Древнее Гродно». Адзін з раздзелаў гэтай працы прысвечаны матэрыяльнай культуры гродзенскага замка сярэдзіны 13—14 ст. [19] М. М. Варонін удакладніў стратыграфію культурнага слою Замкавай гары, якую раней прапанаваў З. Дурчэўскі. [20] Сярэдзіну 13 ст. М. М. Варонін лічыў пачаткам «...літоўскага перыяду ў жыцці Гродна». Тут маецца на ўвазе палітычная падзея — уваход горада ў склад Вялікага княства Літоўскага. Важным з'яўляец-

---

[17] Jodkowski J. Grodno wczesnośredniowieczne w świetle prac wykopaliskowych, dokonanych na Królewskim Zamku Starym w Grodne w latach 1932 i 1933 // Przegląd historycznowojskowy. Warszawa, 1934. T. 7. Z. 1. S. 99—115; Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie w świetle wykopalisk, dokonanych w latach 1937—1938. Grodno, 1939.

[18] Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972. С. 133—149.

[19] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 149—195.

[20] Воронин Н. Н. Раскопки в Гродно // КСИИМК, 1951. Вып. 27. С. 138—148.

ца вывад даследчыка аб захаванні ў матэрыяльнай культуры традыцый эпохі Кіеўскай Русі. Адрывачнасць і беднасць матэрыялу гэтага часу М. М. Воронін тлумачыць цяжкімі ваеннымі абставінамі (барацьба з тэўтонамі) і звязаным з імі ўпадкам культуры. Акрамя рэчаў сярэдзіны 13—14 ст. у працы апублікаваны і больш познія знаходкі. Гэта фрагменты кафлі 15 ст. (гаршковай) і плоскай дахоўкі таго ж часу [21].

Вялікую працу па даследаванню старажытнага Навагрудка правяла экспедыцыя ЛАІА АН СССР пад кіраўніцтвам Ф. Д. Гурэвіч. Раскопкі пачаліся ў 1956 г. і амаль без перапынкаў працягваліся да 80-х гадоў [22]. М. У. Малеўская вывучала познесярэднявечныя архітэктурныя помнікі: мураваныя цэрквы 14 і 17 стст., грамадзянскую пабудову 14 ст. Даследчыкі адзначаюць насычанасць слою 15—17 стст. будаўнічым смеццем, знаходкі ў ім гаршковых і каробкавых кафлін, манет 16—18 стст.[23]

Вынікі даследавання старажытнага Ваўкавыска за перыяд з 1948 па 1970 г. абагульніў Я. Г. Зверуга ў манаграфіі «Древний Волковыск». Матэрыялы 14 ст. у працы прадстаўлены наканечнікамі арбалетных стрэлаў, замкамі, ключамі, нажамі, красаламі, касцянымі накладкамі, грабеньчыкамі, глінянымі гаршкамі. У працах Г. І. Пеха і Я. Г. Зверугі, прысвечаных раскопкам старажытнага Слоніма, упамінаюцца познесярэднявечныя знаходкі: керамічны посуд, кафля, драўляныя пабудовы і маставыя [24].

У канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў аб'ектам археалагічнага даследавання сталі помнікі архітэктуры 14—18 стст. М. А. Ткачоў у 1969—1970 і 1973 гг. праводзіў даследаванні ў Навагрудскім замку. Ім вывучаны рэшткі трох абарончых вежаў, падмуркі замка і распрацавана яго рэканструкцыя. М. А. Ткачоў

[21] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 91 (унізе), 102 : 1.

[22] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. Л., 1981.

[23] Гл. артыкулы у АО з 1967 па 1978 г.

[24] Пех Г. И. Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. Мн., 1966. С. 275 — 279; Зверуго Я. Г. Раскопки в Слониме // АО 1968 г. М., 1969. С. 350 — 351; Ён жа. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. С. 248—289.

вывучаў таксама ўмацаванні Малога Навагрудскага замка [25].

Шурфоўка М. А. Ткачовым у 1970 г. тэрыторыі Лідскага замка паказала, што ён збудаваны на штучнай падсыпцы з пяску, жвіру, камянёў і напачатку меў адну вежу. Другая была збудавана ў канцы 14— пачатку 15 ст. У Крэве з дапамогай шурфоў даследчыкам вызначана глыбіня залягання падмуркаў вялікай вежы і таўшчыня культурнага слою [26]. 12 шурфоў, закладзеных у 1974 годзе Я. Г. Звяругам па перыметру двара Лідскага замка, зафіксавалі толькі перамешаны культурны слой [27].

У 1971 г. М. А. Ткачоў вывучаў замак 16 ст. магнатаў Гаштольдаў у вёсцы Геранёны Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці [28]. У гэтым жа годзе ён сумесна з Я. Г. Звяругам заклаў некалькі шурфоў каля сцен Старога замка ў Гродне. Была ўстаноўлена глыбіня падмуркаў і знойдзены праём пад паўднёвай сцяной. Адначасова Я. Г. Звяруга пачаў раскопкі на Каложскім плато, якое размешчана на поўнач ад Старога замка [29]. Гэтыя даследаванні працягваліся ў 1972 і 1973 гадах. У адным з раскапаных жылых збудаванняў канца 13—14 ст. знойдзены скарб, які складаўся з чатырох сашнікоў, трох сярпоў і аднаго гаршка [30].

М. А. Ткачоў праводзіў даследаванні ў Мірскім замку ў 1972 г. Перад брамай ён раскапаў рэшткі дадатковага ўмацавання ў выглядзе падкавападобнага цаглянага мура, які прымыкаў да сцен брамнай вежы звонку [31].

---

[25] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. Мн., 1978. С. 44—45.

[26] Ткачев М. А. Исследования памятников оборонного зодчества Белоруссии // АО 1970 г. М., 1971. С. 307—308.

[27] Зверуго Я. Г. Исследования в Верхнем Понеманье // АО 1974 г. М., 1975. С.386.

[28] Ткачев М. А. Исследование памятников оборонного зодчества Белоруссии // АО 1971 г. М., 1972. С. 408—409.

[29] Зверуго Я. Г., Ткачев М. А. Археологические исследования в Гродно // АО 1971 г. С. 407—408.

[30] Зверуго Я. Г. Работы Верхненеманского отряда // АО 1972 г. М., 1973. С. 360—361; Ен жа. Работы в Верхнем Понеманье // АО 1973 г. М., 1974. С. 372—373.

[31] Ткачев М. А. Исследования в Гродненской и Витебской областях // АО 1972 г. С. 369.

Галоўным аб'ектам навуковых інтарэсаў М. А. Ткачова з'яўляюцца помнікі ваеннага дойлідства: іх гісторыя, характар абарончых сістэм. У асобных яго працах згадваюцца катэгорыі знаходак 14—17 стст., але фотаздымкі ці малюнкі рэчаў з раскопак на тэрыторыі Панямоння не публікаваліся.

У 1977 г. невялікія раскопкі на тэрыторыі Старога замка ў Гродне правёў А. А. Трусаў. Пад паўночна-заходняй сцяной былі знойдзены рэшткі драўляных канструкцый [32]. У 1977—1978, 1980, 1985 гг. пад яго ж кіраўніцтвам праведзены буйныя раскопкі ў Лідскім замку [33] (у 1986—1987 гг. іх прадоўжыў А. К. Краўцэвіч). Даследаваннямі адкрыты рэшткі абедзвюх вежаў, вывучаны падмуркі сцен і значная плошча культурнага слою на замкавым двары, сабрана вялікая археалагічная калекцыя керамічных (посуд, кафля, грузілы, дахоўка, цэгла), металічных (нажы, замкі, ключы, наканечнікі стрэл, падковы, абутковыя падкоўкі, шпоры, цвікі, спражкі, нажніцы, крэсівы), шкляных (стопкі, чаркі, келіхі, шкляніцы, кварты), касцяных (накладкі, грабеньчыкі, шахматныя і шашачныя фігуры), каменных (ядры, тачыльныя брускі) вырабаў.

На працягу 1980—1984 гг. вялікія раскопкі вяліся А. А. Трусавым у Мірскім замку 16 ст. Устаноўлена, што замак збудаваны на падсыпцы з гліны, пяску і камянёў. З дапамогай шурфоў і раскопаў, размешчаных па знешняму і ўнутранаму перыметру замкавых сцен, а таксама ў цэнтры двара і на бастыёнах, вывучаны падмуркі сценаў і вежаў, гаспадарчыя і жылыя пабудовы, абарончая сістэма замка і сабрана вялікая колькасць археалагічных знаходак [34].

---

[32] Трусов О. А. Раскопки в Лидском и Гродненском замках // АО 1977 г. М., 1978. С. 425—426.

[33] Трусаў А. А. Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Лідскага замка // ПГКБ. 1979. № 4. С. 16—19; Багласов С. Г., Трусов О. А. Историко-архитектурные исследования и реставрация Лидского замка // Lietuwos TSR architektūros klausimai. Vilnius, 1981. N. 7. S. 28—39.

[34] Трусаў А. А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка // ПГКБ. 1980. № 4. С. 33—34; Ён жа. Археологическое изучение архитектурных помятников Белоруссии // АО 1981 г. М., 1982. С. 362—363; Ён жа. Работы архитектурно-археологической экспедиции // АО 1982 г. М., 1984. С. 371—373.

Цікавы закрыты комплекс канца 15—пачатку 16 ст. выяўлены пад замкавай падсыпкай. Гэта развал глінабітнай печы з гаршковымі кафлінамі, які належаў паселішчу, загінуўшаму пад час пажару. Аб гандлёвых сувязях сведчаць знаходкі рэйнскай керамікі, галандскіх люлек, рыжскіх манет. Вялікая калекцыя будаўнічых матэрыялаў уключае кафлю, пліткі падлогі, рэшткі вапняковых і мармуровых ваконных і дзвярных аблямовак і г. д.

У 1981 г. А. А. Трусаў сумесна з П. А. Рапапортам даследаваў архітэктурныя збудаванні на Старым замку ў Гродне, а таксама правёў раскопкі на Каложскім плато [35]. Апошнія працягнуты ім у 1983—1984 гг. Тут знойдзены матэрыялы канца 11—18 ст.

На працягу 1985—1987 гг. А. А. Трусаў і М. А. Ткачоў вялі раскопкі на Старым замку, прадоўжаныя А. А. Трусавым у 1988—1989 гг. Яны завяршыліся шэрагам адкрыццяў, у тым ліку рэшткаў мураванай сцяны 12 ст. Выяўлена значная колькасць матэрыялаў канца 10—18 ст., ускрытыя рэшткі драўляных насцілаў вуліц, жылых і гаспадарчых пабудоў, замкавых збудаванняў 15—16 стст. [36]

У 1985 г. А. А. Трусаў і М. А. Ткачоў правялі буйныя даследаванні ў Крэўскім замку. Вывучаліся падмуркі сцен, рэшткі драўляных пабудоў 16—17 стст. Сабрана вялікая колькасць матэрыялаў 14—18 стст.: керамічны паліваны і непаліваны посуд, гліняныя рыбалоўныя грузілы, люлькі, кафля гаршковая і каробкавая, шкляны посуд і ваконнае шкло, металічныя вырабы (замкі, ключы, нажы, падковы, абутковыя падкоўкі, шпоры, скабянка, манеты, спражкі, наканечнікі стрэл і г. д.), вырабы з косці (люлька, праколкі, накладкі) [37]. Вывучэнне замка прадоўжыў І. М. Чарняўскі ў 1988—1989 гг.

Раскопкі І. М. Чарняўскага ў Гродне (1980) завяршыліся адкрыццём новага помніка гродзенскай

---

[35] Трусов О. А. Археологическое изучение архитектурных памятников Белоруссии // АО 1981 г. С.362—363.

[36] Трусов О. А. Изучение Старого замка в Гродно // АО 1985 г. М., 1987. С. 468—469; Трусов О. А., Ткачев М. А., Кравцевич А. К. Исследования в Гродно // АО 1986 г. М., 1988. С. 381—382.

[37] Трусов О. А. Изучение замка в Гродненской области // АО 1985 г. С. 466—468.

архітэктурнай школы 12 ст. — Прачысценскай царквы [38]. Раскопкі на двары базылянскага кляштара, дзе была знойдзена царква, прадоўжаны ў 1981 г. Сабраны археалагічны матэрыял 12—19 стст.: кераміка, кафля, металічныя і шкляныя вырабы [39] (у 1983 г. раскопкі тут працягваў А. К. Краўцэвіч).

У 1981—1983 гг. І. М. Чарняўскі праводзіў даследаванні ў Гальшанскім замку канца 16— пачатку 17 ст., а ў 1983—1985 гг. вывучаў замак 16—17 стст. у Любчы. У працэсе раскопак сабраны цікавыя калекцыі кафлі, керамічнага шклянога посуду, металічных вырабаў, галоўным чынам 16—17 стст. [40] У 1984—1985 гг. невялікія раскопкі Чарняўскі правёў у Нясвіжы і Нясвіжскім замку. Высветлена структура культурнага слою, даследаваны насыпы замкавых бастыёнаў і курцін [41].

Даследаванні на тэрыторыі былога мястэчка Жыровічы Слонімскага раёна ажыццявіла Н. І. Здановіч (1982). Былі закладзены шуфры каля манастыра, заснаванага ў 17 ст., і на тэрыторыі пасёлка. Гэта першае даследаванне так званага манастырскага мястэчка. У выніку шурфоўкі і назіранняў за землянымі працамі выяўлены культурны слой да двух метраў таўшчынёй і сабраны керамічны і кафляны матэрыял 17—19 стст. [42]

У 1983 г. З. С. Пазняк вывучаў мястэчкі Суботнікі і Іўе Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. У Суботніках ён знайшоў месца першапачатковага паселішча канца 14 ст. Найстаражытныя знаходкі, выяўленыя праз шурфоўку ў Іўі, належаць да 16 ст. [43]

---

[38] Чернявский И. М. Архитектурно-археологические исследования в Гродно и Могилеве // АО 1980 г. М., 1981. С. 346—347; Чарняўскі І. М., Жаровіна Г. П. Нечаканае адкрыццё // ПГКБ. 1982. № 4. С. 34—36; Чернявский И. М. Пречистенская церковь XII в. в Гродно // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 119—121.

[39] Чернявский И. М. Архитектурно-археологические исследования в Гомельской и Гродненской областях // АО 1981 г. С. 363—364.

[40] Чарняўскі І. М. Замак у Гальшанах // ПГКБ. 1983. № 3. С. 41—43; Чарняўскі І. М. Саітгарэева С. Ф., Замак у Любчы // ПГКБ. 1984. № 4. С. 30—32.

[41] Чарняўская Л., Чарняўскі І. Нясвіж. З мінулага // ПГКБ. 1988. № 1. С. 21—24.

[42] Зданович Н. И., Средневековое поселение Жировицы // АО 1982 г. С. 357.

[43] Позняк З. С. Раскопки в Гродненской области // АО 1983 г. М., 1985. С. 404—405.

А. М. Кушнярэвіч раскопваў помнікі архітэктуры 15—17 стст.: цэрквы абарончага тыпу ў вёсках Мураванка (Шчучынскі раён) і Сынкавічы (Зэльвенскі раён), кляштар у Гальшанах (Ашмянскі раён), касцёлы ў Міры, Навагрудку, Гнезна [44] (усе раскопкі 1985—1988 гг.).

У 1982 г. на базе архітэктурна-археалагічнай экспедыцыі навукова-вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР створаны атрад пад кіраўніцтвам аўтара, які пачаў даследаванне познесярэднявечных гарадскіх паселішчаў Беларускага Панямоння. Раскопкі праводзіліся ў гарадах Гродна (1983, 1985—1988), Навагрудку (1987—1988), Слоніме (1983 г., сумесна з Н. І. Здановіч), Лідзе (1983, 1986—1987), Ашмянах (1984—1985), Нясвіжы (1989), у гарадскіх пасёлках Міры (1982—1984, 1988—1989) і Любчы (1983), вёсках Гальшаны (1982) і Крэва (1985) [45]. У познім сярэднявеччы Любча, Гальшаны і Крэва былі мястэчкамі; Мір, Нясвіж — прыватнаўласніцкімі, а Гродна, Навагрудак, Слонім, Ліда і Ашмяны — дзяржаўнымі гарадамі. Асноўная задача першых гадоў працы — разведка культурнага слою 14—18 стст.: стратыграфіі, захаванасці, межаў распаўсюджання, наяўнасці і характару археалагічнага матэрыялу, высвятленне перспектыўнасці для разгортвання шырокіх археалагічных даследаванняў.

Абагульняючых прац па матэрыяльнай культуры гарадоў і замкаў Беларускага Панямоння 14—18 стст.

---

[44] Кушнеревич А. Н. Исследования в Гродненской и Гомельской областях // АО 1985 г. М., 1987. С. 458—460; Квятковская А. В., Кушнеревич А. Н., Чернявский И. М. Работы объединения «Белреставрация» // АО 1986 г. М., 1988. С. 363—366.

[45] Кравцевич А. К. Исследование позднесредневековых поселений городского типа // АО 1982 г. М., 1984. С. 362—363; Ён жа. Исследования в Гродненской области // АО 1983 г. М., С. 396—397; Кравцевич А. К., Зданович Н. И. Исследования в Слониме // АО 1983 г. М., С. 397; Кравцевич А. К. Исследования в Гродненской области // АО 1984 г. М., 1986. С. 345—346; Здановіч Н. І., Краўцэвіч А. К. Старажытны цэнтр Гродна // ПГКБ. 1985. № 1. С. 38—39; Краўцэвіч А. К. З гісторыі Ашмян // ПГКБ. 1985. № 3. С. 38—39; Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологическое изучение Мирского замка и г. п. Мир // СА. 1986. № 4. С. 216—235; Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 141—144; Ён жа. Археалагічнае даследаванне мястэчак Гальшаны і Любча // ПГКБ. 1987. № 4. С. 26—27.

няма, і наша манаграфія спрабуе запоўніць гэты прабел. На сучасны момант маецца каля двух дзесяткаў артыкулаў па розных аспектах матэрыяльнай культуры, галоўным чынам па кафлі і керамічнаму посуду. Як мы ўжо ўпаміналі, некаторыя рэчы 14 ст. разглядаліся ў працах М. М. Вароніна, З. Дурчэўскага, Ю. Ядкоўскага, Ф. Д. Гурэвіч, Я. Г. Звяругі, Г. І. Пеха.

З усіх познесярэднявечных матэрыялаў найбольшую ўвагу даследчыкаў прыцягвае кафля. Гэта інтарэс абумоўлены масавасцю, добрымі датуючымі ўласцівасцямі і каштоўнасцю кафлі як твора дэкаратыўнага мастацтва.

Найбольш поўна сярэднявечная кафля з археалагічных раскопак прадстаўлена ў спецыяльным альбоме [46]. Частка вырабаў 16—17 стст., што захоўваецца ў Гродзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі, апісваецца ў артыкуле Кароткай энцыклапедыі Беларускай ССР і буклеце Р. Ф. Валадзько «Белорусские изразцы» [47].

У артыкуле, прысвечаным кафлі 16—17 стст. з Навагрудка, А. У. Аўсяннікаў у выніку вывучэння каля 200 адзінак (цэлых і фрагментаў) зрабіў выснову аб іх, верагодней за ўсё, мясцовай вытворчасці. Даследчык адзначыў выдатную якасць вырабаў, ідэнтычнасць сюжэтаў паліванай і непаліванай кафлі, наяўнасць у больш ранніх экземплярах рамкі па краях вонкавай пласціны [48].

Беларускі кафляны матэрыял 16—17 стст., у тым ліку і навагрудскі, вывучаў Р. Л. Розенфельдт. Для датавання ён прыцягнуў чэшскія і польскія аналагі, так як храналогія верхніх пластоў культурнага слою, у якіх знойдзена кафля, не распрацавана. Даследчык апісаў найбольш распаўсюджаныя сюжэты арнаменту [49].

М. С. Кацэр зрабіў спробу мастацтвазнаўчага аналізу кафлі з гродзенскага музея. У сваёй працы ён называе кафлю «керамічнымі плітамі», «пячнымі аблямовачнымі плітамі» і датуе іх 14—16 стст.[50] Мяркуючы па малюнках

---

[46] Беларуская кафля. Мн., 1989.

[47] Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Мн., 1981. Т. 4. С. 187; Володько Р. Ф. Белорусские изразцы. Мн., 1978.

[48] Овсянников О. В. Архитектурно-декоративная керамика XVI—XVII вв. из Новогрудка // КСИА. 1969. Вып. 120. С. 122—125.

[49] Розенфельдт Р. Л. Белорусские изразцы // Древности Восточной Европы. М., 1969. С. 178—183.

[50] Кацер М. С. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972. С. 52—53.

і апісанні кафлін у кнізе, больш правільна датаваць іх 17—18 стст.

З кафляным матэрыялам з Навагрудка, Ліды і Гродна працавала Л. Р. Панічава [51]. Самую раннюю кафлю яна датуе 14—15 стст., а аналагі ёй знаходзіць на тэрыторыі Германіі, Польшчы, Прыбалтыкі, Чэха-Славакіі, Венгрыі. Л. Р. Панічава выдзеліла тры віды арнаменту: геаметрычны, раслінны і геральдычны. Аб мясцовай вытворчасці кафлі сведчылі знаходкі бракаваных фрагментаў. Даследчыца прыйшла да высновы, што навагрудская кафля вельмі падобна да архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі Літвы і Польшчы. Л. Р. Панічава распрацавала храналагічную і тыпалагічную класіфікацыю беларускай кафлі 14—17 стст., якая ў агульных рысах падыходзіць і да заходніх раёнаў Беларусі [52]. Магчымасць больш дэталёвай распрацоўкі храналогіі кафлянага матэрыялу Беларускага Панямоння паказалі даследаванні апошніх гадоў [53].

Калекцыі паліхромнай кафлі з Мірскага замка прысвечаны артыкул А. А. Трусава і У. В. Угрыновіча. Даследчыкі выдзелілі восем тыпаў паліхромнай кафлі з рознымі варыянтамі, прасачылі іх эвалюцыю. У артыкуле апісваецца тэхналогія вытворчасці кафлі, аналізуецца арнамент і кампазіцыя **вонкавай** паверхні печаў. На думку даследчыкаў, паліхромныя кафляныя печы былі галоўным кампазіцыйным цэнтрам памяшкання. Вызначыць час бытавання першых паліхромных печаў дапамаглі знаходкі кафлі-каронкі з датай 1583 г.[54] У артыкуле аб паліхромнай кафлі Беларусі А. А. Трусаў і У. В. Угрыновіч выкарысталі матэрыялы мірскай, гальшанскай і гродзенскай калекцый. З'яўленне на Беларусі паліхромнай кафлі даследчыкі звязваюць з эпохай Адраджэння [55]. А. А. Трусаў і У. В. Угрыновіч апублікавалі таксама некаторыя тыпы кафлі і кераміч-

---

[51] Панічa Л. Р. Навагрудская кафля//ПГКБ. 1980. № 2. С. 33—35; Яна ж. Белорусские изразцы XIV—XVII вв. как исторический источник//Автореф. дис... канд. ист. наук. Л., 1980. С. 16.

[52] Паничева Л. Г. Хронология белорусских изразцов XIV—XVII вв. //КСИА. 1984. Вып. 179. С. 70—75.

[53] Трусаў А. А. Кафля Мірскага замка // Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1984. С. 157—162; Собаль В. Я., Угрыновіч У. В. Кафля Мінска XV—XVIII стст. Там жа. С. 162—168.

[54] Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Паліхромная кафля Мірскага замка // Мастацтва Беларусі. 1983. № 3. С. 38—39.

[55] Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Беларуская паліхромная кафля//ПГКБ. 1983. № 4. С. 21—22.

ны посуд з раскопак Лідскага, а Д. С. Бубноўскі, А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі — Мірскага замкаў [56].

Паліхромная кафля 1-й паловы 17 ст. з гербам і абрэвіятурай імя і тытула Паўла Сапегі знойдзена І. М. Чарняўскім у Гальшанскім замку разам з іншым кафляным матэрыялам.

Знаходкі кафлі ўпамінаюцца ў працах амаль усіх даследчыкаў, якія працавалі ў гарадах і замках Беларускага Панямоння: Ю. Ядкоўскага, М. М. Вароніна, Г. І. Пеха, Я. Г. Звяругі, Ф. Д. Гурэвіч, М. У. Малеўскай, М. А. Ткачова.

Некаторыя матэрыялы 14 ст. з раскопак 1937—1938 гг. у Гродне апублікаваны З. Дурчэўскім і Ю. Ядкоўскім. Гэта наканечнікі арбалетных стрэл, сякера, нажы, кераміка, касцяныя вырабы [57]. Вынікі тыпалагічнага і храналагічнага аналізу металічных вырабаў з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў прыведзены ў артыкуле А. А. Трусава, А. К. Краўцэвіча, Г. М. Сагановіча [58]. Зброі з Лідскага замка прысвечаны артыкул А. А. Трусава. Ён апублікаваў каменныя ядры, арбалетныя і лучковыя наканечнікі стрэл, унікальныя ўзоры халоднай зброі 14—15 стст., а таксама касцяную шахматную туру [59], ключы, замкі, дзвярную завесу з Крэўскага замка [60].

А. А. Трусаў распрацаваў храналогію беларускай дахоўкі. Асновай для гэтай распрацоўкі сталі ў асноўным знаходкі на тэрыторыі Беларускага Панямоння: Ліда, Навагрудак, Крэва, Мір [61]. Асобны артыкул даследчыка

[56] Бубноўскі Д., Трусаў А., Чарняўскі І. Каб ажылі сівыя муры // Літ. і мастацтва. 1982. 23 кастр. С. 14—15; Трусаў А., Угрыновіч У. Посуд Лідскага замка // Літ. і мастацтва. 1981. 13 лістап. С. 15; Яны ж. Кафля Лідскага замка // Літ. і мастацтва. 1980. 10 кастр. С. 16; Яны ж. Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989. С. 194—202.

[57] Durczewski Z. Stary zamek w Grodnie... S. 7—8.

[58] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 4. С. 73—83.

[59] Трусов О. А., Паничева Л. Г. Раскопки в Лидском замке // АО 1978 г. М., 1979. С. 446—447; Трусаў А. А. Зброя Лідскага замка // ПГКБ. 1980. № 2. С. 26—27.

[60] Трусов О. А. Двери и их атрибуты // Строительство и архитектура Белоруссии. 1988. № 3. С. 34.

[61] Трусаў А. А. Беларуская чарапіца // ПГКБ. 1983. № 1. С. 30—31; Ён жа. Белорусская черепица XIV—XVIII вв. // СА. 1986. № 3. С. 186—191.

прысвечаны беларускай вялікапамернай цэгле[62]. Падрабязная характарыстыка беларускіх керамічных будаўнічых матэрыялаў, у тым ліку і з Панямоння, прыведзена ў манаграфіі А. А. Трусава [63].

Керамічны посуд гарадскіх пасяленняў і замкаў Беларускага Панямоння з'яўляецца аб'ектам спецыяльнага даследавання Н. І. Здановіч. У яе артыкулах аб кераміцы Мірскага і Лідскага замкаў прыводзіцца класіфікацыя бытавога посуду па функцыянальнаму прызначэнню і па тыпах венцаў [64]. Па якасці апрацоўкі, знешняму выгляду і складу керамічнай масы Н. І. Здановіч падзяляе керамічны матэрыял на тры асноўныя групы: непаліваная, паліваная і мораная (дымлёная) кераміка. Маёліка і парцэляна — аб'ект даследавання І. У. Ганецкай [65].

Калекцыю шкляных вырабаў, сабраную пад час раскопак Лідскага замка ў 1977—1978 гг., вывучала М. М. Яніцкая [66]. На падставе аналізу шматлікіх фрагментаў шклянога посуду яна выдзеліла шэсць відаў шкляніц, два віды флаконаў, тры віды бакалаў, а таксама чаркі, кварты, стопкі.

Выклікае сумненне датаванне многіх рэчаў. З'яўленне беларускага шклянога посуду адбылося не ў 14 ст., а значна пазней у 16, магчыма, у канцы 15 ст.

Па колеру шкла, якое ўжывалася для вытворчасці аднатыпнага посуду, М. М. Яніцкая зрабіла выснову, што шкляныя вырабы паступалі ў замак з дзвюх майстэрняў. Даследчыца прапанавала рэканструкцыі некаторых відаў шклянога посуду з Лідскага і Гродзенскага замкаў. Шкляныя вырабы з Мірскага замка разглядаюцца ў артыкуле А. А. Трусава і А. Б. Ляшкевіч. Разнастайная калекцыя

---

[62] Трусаў А. А. Вялікапамерная цэгла//ПГКБ. 1984. № 1. С. 33—34.

[63] Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Мн., 1988. С. 92—150.

[64] Зданович Н. И. О некоторых видах неполивной посуды окислительного обжига Лидского замка // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 98—99; Яна ж. Мірская бытавая кераміка//ПГКБ. 1983. № 3. С. 43—44; Яна ж. Неполивная посуда Мирского замка//Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 145—149.

[65] Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988. № 6. С. 58—61.

[66] Яніцкая М. М. Вытокі шклaробства Беларусі. Мн., 1980. С. 111—121.

шклянога посуду складаецца са шкляніц, квартаў, бакалаў, чарак, бутэлек і датуецца 16—17 стст.[67]

Для паспяховага вырашэння навуковых задач археолагу позняга сярэднявечча неабходна выкарыстоўваць метады сваёй навукі ў комплексе з пісьмовымі крыніцамі. У нашым распараджэнні невялікая колькасць помнікаў пісьменства 14—15 стст. і значна больш дакументаў 16—17 стст. Асноўная пісьмовая крыніца па гісторыі матэрыяльнай культуры — інвентары. Яны з'яўляюцца ў 16 ст. і першапачаткова называюцца попісамі, рэестрамі, пісцовымі кнігамі. Тэрмін «інвентар» канчаткова сфарміраваўся ў 17 ст. Аб'ектамі інвентарных вопісаў выступалі маёнткі, вёскі, фальваркі, гарады, эканоміі, староствы, воласці. Поўных звестак па гісторыі матэрыяльнай культуры яны даць не могуць. Прынцып складання інвентароў быў простым — апісвалася ўсё, што траплялася на вочы, пачынаючы ад увахода і да сутарэнняў. Часцей за ўсё падобнае апісанне зводзілася да пераліку маёмасці. Вельмі не проста атаясамліваць рэальныя рэчы, здабытыя пад час археалагічных раскопак з апісанымі ў інвентарах. Матэрыялы інвентарных вопісаў знаходзяцца ў архівах Беларусі, Літвы, Украіны, Масквы, Ленінграда. Частка інвентароў апублікавана[68]. Апісанні рэчаў сустракаюцца ў судовых справах, мытных кнігах, тэстаментах, прашэннях, кнігах гарадскіх магістратаў.

У якасці крыніц па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі 15—18 стст. можна выкарыстоўваць мініяцюры, гравюры, творы жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сярэднявечныя мастакі і граверы часта ўводзілі ў свае творы выявы рэчаў з сучаснага ім побыту, архітэктурных збудаванняў. Багата ілюстраваны Тураўскае (15 ст.), Жыровіцкае, Мелішэўскае, Жухавіцкае евангеллі (16 ст.), Радзівілаўскі летапіс (15 ст.) і інш. Вялікую цікавасць выклікаюць гравюры з кніг Францыска Скарыны, Пятра Мсціслаўца (16 ст.), працы

---

[67] Трусаў А., Ляшкевіч А. Шкло Мірскага замка // ПГКБ. 1984. № 3. С. 42—43.

[68] Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Писцовая книга Гродненской экономии с прибавлениями, изданная Виленскою комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1881—1882. Ч. 1—2; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв. Владение Сморгонь. Мн., 1977.

Т. Макоўскага, А. Тарасевіча, Л. Тарасевіча (17 ст.) і інш.[69] Малюнкі розных рэчаў з вопраткі, упрыгожанняў, побытавых рэчаў, узбраення, нярэдкія на сярэднявечных беларускіх фрэсках, іконах, партрэтах[70], разьбе, ляпніне, мемарыяльнай пластыцы [71]. Усё ж аперыраваць названымі крыніцамі патрэбна з асцярогай, паколькі невядома ў якой ступені мясцовыя творы адрозніваюцца ад заходнееўрапейскіх, якія служылі першым узорам. Для высвятлення гэтага пытання неабходна спецыяльнае даследаванне з прыцягненнем даных археалогіі.

Каштоўная крыніца па гістарычнай тапаграфіі гарадоў Беларускага Панямоння — старыя гравюры, планы, малюнкі. Самая старажытная графічная выява горада не толькі Беларускага Панямоння, але і ўсёй Беларусі — гравюра г. Гродна 1568 г. М. Цюндта (г. Нюрнберг) па малюнку Г. Адэльгаўзера. Яна паслужыла ўзорам для іншых больш позніх выданняў 1572, 1659 гг. і інш [72]. Паступова з кожным выданнем малюнак станавіўся ўсё больш спрошчаным, зніклі многія дэталі, што паніжае каштоўнасць гравюр як гістарычнай крыніцы. Цікавая калекцыя, якая складаецца з копіі гравюры М. Цюндта і некалькіх пазнейшых яе варыянтаў знаходзіцца ў бібліятэцы АН УССР у г. Львове[73]. Т. Макоўскі — прыдворны гравёр, картограф, друкар Радзівілаў — аўтар гравюры Гродна 1-й чвэрці 17 ст.[74]. Ён жа выканаў план-аксанаметрыю г. Нясвіжа пачатку 17 ст.[85] Да 1-й паловы 17 ст. належыць малюнак-план мястэчка Любчы, выкананы Ю. Нарановічам-Наронскім па заданню Я. Радзівіла[76].

Навуковую каштоўнасць маюць малюнкі мастакоў канца 18 — пачатку 20 ст. з выявамі помнікаў архітэктуры, выглядаў гарадоў. Мастакі М. Кулеша, І. Пешка, Н. Орда,

---

[69] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984.

[70] Жывапіс Беларусі XII—XVIII стст.//Склад. Высоцкая Н. Ф., Карповіч Т. А. Мн., 1980.

[71] Высоцкая Н. Ф. Пластыка Беларусі XII—XVIII стст. Мн., 1983.

[72] Кішык Ю. М. Гродна сярэдневяковы // ПГКБ. 1974. № 4. С. 24.

[73] Там жа.

[74] Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1964. № 17. С. 31.

[75] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Мн., 1977. С. 38—39.

[76] Alexandrowicz S. Opis zabudowy miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1644 r.//Kwartalnik Historii kultury materialnej. Warszawa, 1962. R. 10. N. 3—4. S. 617—636.

Я. Драздовіч і іншыя пакінулі нам малюнкі Ліды, Навагрудка, Гродна, Крэва, Міра, Любчы, Гальшанаў і інш.

Захавалася адносна невялікая колькасць планаў (галоўным чынам у архівах Масквы, Вільнюса, Ленінграда) гарадоў Беларускага Панямоння 18—19 стст., па якіх можна прасачыць планіровачную сітуацію, якая склалася пад канец позняга сярэднявечча.

Выкарыстоўванне старых планаў дапамагае археолагам вызначыць найбольш перспектыўныя для раскопак месцы. Па даўніх назвах вуліц часта можна меркаваць аб характары заняткаў іх жыхароў. Па старых планах гарадоў Беларускага Панямоння даволі дакладна вызначаецца месцазнаходжанне помнікаў архітэктуры, якія зараз на паверхні зямлі не захаваліся.

Пытанні гістарычнай тапаграфіі гарадоў Беларускага Панямоння асвятляліся ў працах А. Д. Квітніцкай, Ю. А. Ягорава, У. А. Чантурыі, Ю. Ядкоўскага, С. Александровіча, С. Шыманьскага, В. Рэвіньскай, Г. Я. Макеева, І. Ю. Меркулавай [77]. У асноўным вывучаўся перыяд 16—18 стст. Амаль не даследавалася планіроўка гарадоў 14—15 стст. Больш за ўсё ўвагі даследчыкі ўдзялілі Гродна. Цікавы вопыт вывучэння планіроўкі Гродна на 1560 г. А. Д. Квітніцкай. Гэта найбольш ранняя рэканструкцыя для гарадоў Панямоння 14—18 стст. [78] Квітніцкая выканала таксама план-рэканструкцыю Слоніма 17 ст.[79]

План-рэканструкцыя Навагрудка 15 ст., апублікаваны архітэктарам Э. Н. Кляўко, хутчэй за ўсё належыць да разраду дрэнна абгрунтаваных гіпотэз, чым да гістарычных рэканструкцый[80].

---

[77] Jodkowski J. Ulice grodzieńskie w świetle historyi i topologii. Grodno, 1931; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. М., 1954. С. 44—46; Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. // Архитектурное наследство. 1964. № 17. С. 11—38; Яна ж. Центры городов Белоруссии в XVI— первой пол. XIX в. // Архитектурное наследство. 1982. № 31. С. 28—50; Мокеев Г. Я. Черты своеобразия в структуре городов восточных и западных славян // Архитектурное наследство. 1973. № 23. С. 9—13; Меркулова И. Ю., Мокеев Г. Я. Трансформация древнерусских городов // Архитектурное наследство. 1986. № 34. С. 8—16.

[78] Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. С. 12.

[79] Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6. С. 470.

[80] Клевко Э. Н. Тенденции и проблемы архитектурно-пространственного формирования малых городов Белоруссии // Строительство и архитектура Белоруссии. 1984. № 3. С. 6—7.

Праз аналіз існуючай літаратуры па гістарычнай тапаграфіі і іншых пытаннях гісторыі матэрыяльнай культуры гарадоў і замкаў 14—18 стст. Беларускага Панямоння становіцца зразумелым, што ступень вывучанасці іх не адпавядае сучаснаму ўзроўню гістарычнай навукі. Адносна невялікі вопыт археалагічных раскопак паказвае, што дасягненне прагрэсу ў вырашэнні праблемы магчыма толькі ў выпадку шырокага ўжывання метадаў археалогіі ў комплексе з пісьмовымі крыніцамі.

# *КУЛЬТУРНЫ СЛОЙ ЯК АБ'ЕКТ АРХЕАЛОГІІ*

## АСНОЎНЫЯ ФАКТАРЫ ЎТВАРЭННЯ КУЛЬТУРНАГА СЛОЮ

Асноўнымі фактарамі, якія ўплываюць на ўтварэнне культурнага слою, з'яўляюцца інтэнсіўнасць жыцця і род дзейнасці людзей. Інтэнсіўнасць жыцця на канкрэтным паселішчы залежыць ад колькасці жыхароў, ступені іх канцэнтрацыі на пэўнай плошчы. На жыццё паселішча ўплываюць узровень развіцця вытворчых сіл і вытворчых адносін, а таксама больш вузкія надбудовачныя фактары, у прыватнасці, палітычная абстаноўка ў дзяржаве, знешнепалітычная сітуацыя і г. д. Вірлівае, поўнае надзвычайных падзей жыццё абумовіла нераўнамернасць працэсу ўтварэння культурнага слою ў гарадах і замках Беларускага Панямоння.

У замках прасачыць дзеянне розных фактараў на фарміраванне культурнага слою значна лягчэй, чым у гарадах, у першую чаргу з-за розніцы ў плошчы. Невялікія замкавыя комплексы (не больш за 1 га) адносна лёгка паддаюцца вывучэнню. Важныя падзеі ў жыцці замка, напрыклад захоп ворагам, перабудова, пажар і т.п, даволі яскрава адбіваюцца на фарміраванні культурнага слою. Выкарыстоўваючы археалагічныя метады ў комплексе з пісьмовымі крыніцамі, часам удаецца прывязаць разнастайныя слаі да канкрэтнай падзеі і нават даты. У якасці прыкладу можна прывесці замак у Мсціслаўе. Слой разбурэння і пажару замка датуецца з дакладнасцю да аднаго дня — 22 ліпеня 1654 г. ён узяты штурмам маскоўскім войскам пад началам А. Н. Трубяцкога [81].

У гарадах сітуацыя іншая. Са значна меншай ступенню верагоднасці можна звязаць пэўныя адкладанні з канкрэтнымі падзеямі, якія знайшлі адлюстраванне ў пісьмовых крыніцах. Познесярэднявечныя гарады Беларусі займалі значную плошчу. Падзеі, якія пакідаюць след у культурным слаі, такія, як будаўніцтва, пажары і г. д., часцей за ўсё тычыліся толькі часткі горада.

Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага не адлюстраваўся ў матэрыяльнай культуры і ў культурным

[81] Алексеев Л. В. Смоленская земля в IX—XIII вв. М., 1980. С. 170—171.

слоі гарадоў Панямоння. Няма ніякіх з'яваў ці слядоў, якія маглі б сведчыць аб заваяванні ці з'яўленні новай пануючай культуры. Матэрыяльная культура захоўвала даўнейшыя традыцыі. У той жа час дзяржава акрэсліла сваю арыентацыю на заходнееўрапейскі гісторыка-культурны арэал. Гэта праявілася праз з'яўленне архітэктурных збудаванняў у гатычным стылі, заходнееўрапейскай будаўнічай тэхнікі, новых катэгорыяў матэрыяльнай культуры: дахоўкі, кафлі, вялікапамернай цэглы.

На адкладанне культурнага слою ў гарадах і замках Беларускага Панямоння аказала ўплыў зацятая барацьба з крыжакамі. У замках размяшчаліся ўзмоцненыя залогі, абарончыя збудаванні падтрымліваліся ў стане баявой гатоўнасці. Калі крыжакі бралі замак, то адразу пасля іх адыходу пачыналіся працы па аднаўленню збудавання. Часта рыцарскаму войску ўдавалася абрабаваць і спаліць толькі ваколіцы. Пагроза з боку крыжакоў была найбольш небяспечнай для парубежнай часткі беларускіх земляў — Панямоння. Яна стрымлівала рост гарадоў і адпаведна распаўсюджванне культурнага слою. Адначасова неабходнасць абароны выклікала да жыцця інтэнсіўнае замкавае будаўніцтва[82] — рамонт старых і збудаванне новых цытадэляў, што ў сваю чаргу паскорыла нарастанне ў іх культурнага слою.

Малюнак змяніўся пасля разгрому крыжакоў пад Грунвальдам. Гарады свабодна разрастаюцца, дабіваюцца Магдэбургскага права. Значна павялічваецца плошча культурнага слою. Фарміруецца новы гарадскі цэнтр — плошча з ратушай, вакол якога разрастаецца гандлёва-рамесны пасад. Узнікае вялікая колькасць новых паселішчаў — мястэчак.

На фарміраванні культурнага слою адлюстравалася развіццё мураванага дойлідства. Павялічыліся праслойкі гліны, пяску, вапны, бітай цэглы і дахоўкі — неад'емных атрыбутаў культурных наслаенняў 16—18 стст. Уплыў на фарміраванне слою аказалі мерапрыемствы па нівеліроўцы гарадской тэрыторыі ў 15—16 стст.

У гэты перыяд актыўна праводзіцца будаўніцтва прыватных замкаў, якія спалучалі функцыі абароны і рэзідэнцыі феадала. У іх інтэнсіўна нарастае культурны слой, накопліваюцца рэчы і сярод іх тыя, што сведчаць аб

[82] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі. С. 41.

шыкоўным жыцці гаспадароў-магнатаў і майстэрстве мясцовых рамеснікаў.

Асноўныя фактары, якія ўплываюць на фарміраванне культурнага слою, былі агульнымі для гарадоў і замкаў. Аднак уздзеянне іх на абодва аб'екты было розным у залежнасці ад гістарычнай сітуацыі. Вайна рэзка павялічвала інтэнсіўнасць жыцця ў замках і паніжала ў гарадах. Наадварот, перыяд мірнага жыцця стымуляваў рост гарадоў і выклікаў упадак жыцця ў замках. У гарадах слой накопліваўся ў асноўным у нізінах, на ўзвышшах яго таўшчыня меншая. Тут маюць значэнне кліматычныя фактары. Культурныя наслаенні паступова змываліся дажджамі і талымі водамі. У Гродне, напрыклад, на абрывах рэчышча Гараднічанкі відныя палосы змытага цёмнага слою. Магутнасць культурнага слою не заўжды ў такіх выпадках сведчыць аб яго старажытнасці, хоць у цэлым такая залежнасць праяўляецца.

Пад час археалагічных раскопак на тэрыторыі гарадоў Беларускага Панямоння намі заўважана адна дзіўная з'ява. Яна заключаецца ў тым, што на пасадах часта адразу пад наслаеннямі 12—13 стст. залягаюць слаі канца 15—16 ст. Напрошваецца меркаванне, што тэрыторыя гарадоў у 14— пачатку 15 ст. была меншай, чым у 12—13 стст. Відавочна, гэты ўпадак можна ў нейкай ступені вытлумачыць войнамі з крыжакамі, якія працягваліся ўсё стагоддзе. Аднак галоўнай прычынай з'яўляецца шэраг эпідэмій, павялічаных вайной. Страшнейшая з іх — «чорная смерць» — бубонная чума, якая ў сярэдзіне 14 ст. прынесла велізарныя спусташэнні ўсёй Еўропе. З-за «чорнай смерці» і яе вынікаў насельніцтва еўрапейскага кантыненту страціла па меньшай меры адну пятую частку сваёй колькасці [83] (па іншых крыніцах каля адной трэці).

Праз археалагічныя даследаванні застой у жыцці ў 14— пачатку 15 ст. (нязначны рост тэрыторыі і тонкія адкладанні слою на дзядзінцы) выяўлены таксама ў Мінску [84].

Фарміраванне культурнага слою мястэчак абумоўлена своеасаблівасцю ўзнікнення і развіцця гэтага тыпу паселішчаў. Слой амаль раўнамерна адкладаўся вакол цэнтра

[83] Бродель Ф. Структуры повседневности: возможное и невозможное. М., 1986. Т. I. С. 58.

[84] Соболь В. Е. Основные этапы заселения территории феодального Минска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 117.

мястэчка і найбольшай таўшчыні дасягае па краях плошчы, дзе была густая забудова. Такая заканамернасць выяўлена ў выніку раскопак у мястэчку Любча і Гальшаны. Плошчу рэгулярна падмяталі і таму нарастанне культурнага слою тут ішло павольней, чым на астатняй тэрыторыі. Назіраюцца перапады таўшчыні наслаенняў і на падворку местачкоўца. Найбольш вялікі слой — на двары, найменшы — на агародзе.

Горад у 15—18 стст. займаў плошчу намнога большую, чым у 11—13 стст., таму для паспяховага яго вывучэння неабходна значна пашырыць тэрыторыю, ахопленую раскопкамі. У прыватнасці, важны аб'ект — новы цэнтр — гандлёвая плошча з ратушай.

Найбольш перспектыўнае месца для раскопак гарадоў і мястэчак 14—18 стст. — паласа шырынёй каля 20 м, размешчаная паралельна вуліцы ў 10—15 м ад яе. Тут знаходзіліся двары сярэднявечных гараджан з гаспадарчымі пабудовамі, адклаўся найбольш інтэнсіўны і часта непатрывожаны культурны слой. Участак, які прылягае да вуліцы, нават калі ён свабодны ад забудовы, нязручны для раскопак, таму што культурны слой тут перамешаны і насычаны рэшткамі пабудоў 19— пачатку 20 ст., якія стаялі шчыльна адна да другой. Аднак у гэтым месцы можна здабыць інфармацыю аб жылых сярэднявечных будынках. На задворках, дзе былі агароды, культурны слой мае нязначную таўшчыню і бедны на рэчы. Неперспектыўныя для археолагаў участкі, якія прылягаюць да культавых збудаванняў. Тэрыторыя вакол касцёла або царквы выкарыстоўвалася пад могілкі. Слой тут насычаны розначасовымі пахаваннямі, сляды якіх на паверхні не захаваліся.

Назіраецца пэўная заканамернасць у афарбоўцы напластаванняў. На непарушаных участках познесярэднявечнага культурнага слою верхні пласт мае светла-шэры, а ніжні — цёмна-шэры колер. Мяжа паміж імі можа значна вагацца ад глыбіні ў 0,5 да 2 м, у залежнасці ад характару мясцовасці. На нізкіх участках яна праходзіць вышэй, на ўзвышшах — ніжэй. Відавочна, такая заканамернасць тлумачыцца рознай вільготнасцю «сухога» верхняга і больш «мокрага» ніжняга пласта.

Як правіла, на познесярэднявечных пасадах дрэнна захоўваюцца арганічныя матэрыялы. Слой тут нарастаў павольна і пакуль яго таўшчыня станавілася дастатковай,

каб забяспечыць неабходную для кансервацыі стабільнасць фізіка-хімічнага асяроддзя (для чаго патрэбна каля 2 і больш метраў слою), арганічныя рэчы разбураліся. Неабходная хуткасць росту слою забяспечвалася на гарадскіх замках, дзе на невялікай плошчы існавала высокая інтэнсіўнасць жыцця.

Як правіла, за мінуўшы час не адбылося значных змен у планіроўцы гарадоў і мястэчак Беларускага Панямоння, што аблягчае археолагам выбар месцаў для раскопак.

## МАТЭРЫЯЛЫ ІНЖЫНЕРНА-ГЕАЛАГІЧНАГА БУРЭННЯ

Археолагу познесярэднявечнага горада часта даводзіцца мець справу з вялікімі па плошчы аб'ектамі і рэзкімі перападамі таўшчыні культурных наслаенняў. У такіх умовах значна ўзрастае колькасць шурфоў, неабходных для разведкі слою на плошчы ў некалькі дзесяткаў гектараў. Разведка ў такім выпадку патрабуе вялікай траты часу і сродкаў. Істотную дапамогу ў вырашэнні праблемы могуць аказаць матэрыялы інжынерна-геалагічных даследаванняў (бурэнняў) у гістарычнай частцы горада. У гэтым мы можам пераканацца ў першую чаргу на прыкладзе Ноўгарада [85], а таксама Полацка [86], Віцебска [87].

Праз апісанні свідравін і іх чарцяжы можна атрымаць звесткі аб магутнасці, часткова аб складзе культурнага слою і рэльефе мясцовасці да яе засялення. Пад час апісання свідравін і вычэрчванні іх вертыкальных разрэзаў культурны слой трактуецца як «насыпная глеба з забруджанага пяску і будаўнічага смецця». Указваецца «даўнасць адсыпкі» глебы (больш або менш як пяць гадоў). Бываюць выпадкі, калі ў апісанні ў якасці аднаго з кампанентаў «насыпной глебы» выступаюць «бітая цэгла», «друз», «драўніна». У дакументах бурэнняў прыводзяцца геалагічныя адзнакі ў балтыйскай сістэме вусцяў свідравін (дзённая паверхня) і ўзроўню мацерыка. Эфектыўнасць выкарыстання матэрыялаў бурэння ў кожным канкрэтным выпадку розная і залежыць ад шэрагу ўзаемазвязаных фактараў. Галоўны з іх — інтэнсіўнасць

[85] Кушнир И. И. О культурном слое Новгорода // СА. 1960. № 3. С. 217—224; Ён жа. О культурном слое Новгорода // СА. 1964. № 4. С. 227—228.
[86] Тарасаў С., Чарняўская Л. У культурным слоі Полацка // ПГКБ. 1986. № 3. С. 15—16.
[87] Левко О. Н. Витебск XIV—XVIII вв. Мн., 1984. С. 31—32.

будаўнічых праў у раёне, які нас цікавіць. Аб'ём будаўніцтва ў сваю чаргу залежыць ад ролі старых раёнаў у жыцці горада, памераў і значнасці горада, захаванасці гістарычнай забудовы, адносін да яе мясцовых улад і г. д. Як правіла, гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў захоўваюць сваё значэнне і ў наш час. У іх вядуцца інтэнсіўныя працы па добраўпарадкаванню, будаўніцтву новых будынкаў, капітальнаму рамонту старой забудовы і адпаведна праводзяцца інжынерна-геалагічныя даследаванні. Выключэнні складаюць за́мкі. Яны звычайна размешчаны на ўзвышшах, займаюць абмежаваную тэрыторыю і знаходзяцца пад аховай дзяржавы як помнікі археалогіі. Матэрыялы бурэнняў захоўваюцца ў архівах арганізацый, якія праводзяць інжынерна-геалагічныя даследаванні. Не заўсёды ўдаецца скарыстаць дакументацыю даследаванняў, што праводзіліся ў 40—50-я гады і нават часткова ў 60-я гады. Большая частка яе знішчана па заканчэнні тэрміну захоўвання. Застаюцца толькі матэрыялы па найбольш важных аб'ектах. Усё ж праз выкарыстанне матэрыялаў за апошнія 20—25 гадоў можна ў большасці выпадкаў скласці ўяўленне ў першую чаргу аб магутнасці культурнага слою познесярэднявечнага горада.

Такія матэрыялы прыдатныя і для вызначэння старажытнага рэльефу мясцовасці. Тут іх магчымасці меншыя. Калі на план горада нанесці прабураныя свідравіны, то атрымаюцца нераўнамерна размешчаныя групы кропак, з белымі плямамі нявывучанай тэрыторыі паміж імі. З дастатковай дакладнасцю мы можам меркаваць аб магутнасці слою і характары рэльефу толькі на плошчы, якую займаюць кампактныя групы кропак. Таму на падставе даных бурэнняў нельга выдзяляць участкі культурнага слою рознай магутнасці, значна большыя па плошчы за тыя, што разведаны групамі свідравін. На наш погляд, не зусім абгрунтаваным з'яўляецца выдзяленне такіх «плям» слою разнастайнай канфігурацыі ў Віцебску, горадзе, які размешчаны на мясцовасці са складаным рэльефам [88] (выключэнне складаюць участкі, вывучаныя археалагічна).

Калі з дапамогай матэрыялаў бурэння можна вывучыць магутнасць і характар слою, то значна складаней зафіксаваць свідравінамі адзіночны невялікі **аб'ект. На-**

---

[88] Левко О. Н. Витебск XIV—XVIII вв. Мн., 1984. С. 32.

прыклад, абарончы роў. У такім выпадку рэзкі перапад таўшчыні культурнага слою ў суседніх свідравінах можа быць толькі падставай для гіпотэз, не болей. Высвятленне характару выяўленага паглыблення магчыма толькі з выкарыстаннем археалагічных раскопак, старых планаў, назіранняў за землянымі працамі. Праўда, бываюць выпадкі, калі прычыну рэзкага **павелічэння** таўшчыні слою лёгка знайсці, напрыклад, свідравіны трапілі на часткова засыпанае рэчышча або яр, вядомыя па старых планах.

Для атрымання максімуму інфармацыі пад час работы з матэрыяламі бурэнняў неабходна выкарыстоўваць магчыма большую колькасць свідравін. Апрацоўка матэрыялаў усіх свідравін, прабураных пад адзін аб'ект (у асобных выпадках яны налічваюць больш як два дзесяткі і размяшчаюцца з нязначнымі прамежкамі), дае гарантыю дакладнасці вынікаў.

Надзейны метад праверкі — супастаўленне матэрыялаў бурэнняў, праведзеных рознымі ўстановамі. У той жа час даныя асобна размешчаных свідравін патрабуюць удакладнення. Неабходна ўлічваць магчымасць атрымання няправільнай інфармацыі праз нядобрасумленнасць выканаўцаў бурэнняў.

**Каб атрымаць надзейны вынік, важна выкарыстоўваць** бурэнні ў комплексе з данымі папярэдніх археалагічных даследаванняў, картаграфічнымі матэрыяламі, метадамі археалагічнай разведкі. Для вызначэння месцазнаходжання і межаў познесярэднявечных гарадоў прыгодны планы 18—1-й паловы 19 ст. У гэтыя часы гарады Беларускага Панямоння амаль цалкам захоўвалі познесярэднявечную планіроўку. Намі апрацаваны матэрыялы інжынерна-геалагічных даследаванняў у галоўных гарадах Беларускага Панямоння: Гродне, Лідзе, Навагрудку, Слоніме, Ваўкавыску, Нясвіжы, Ашмянах, гарадскім пасёлку Мір.

Выкарыстаны даныя звыш 1000 свідравін, большая частка якіх зроблена за апошнія 20 гадоў. Ранейшыя матэрыялы амаль не захаваліся. Яны знішчаны па заканчэнню тэрміна захоўвання. Даныя бурэнняў ляглі ў аснову карт магутнасці культурнага слою гарадоў Беларускага Панямоння.

Такім чынам, матэрыялы інжынерна-геалагічных даследаванняў (бурэнняў) гістарычных цэнтраў гарадоў

з’яўляюцца важнай крыніцай па вывучэнню магутнасці, межаў распаўсюджання культурнага слою, а таксама ў значна **меншай** ступені па вывучэнню рэльефу мясцовасці перад засяленнем.

Выкарыстоўванне метаду бурэнняў для разведкі культурных наслаенняў патрабуе ўліку спецыфічных асаблівасцей кожнага аб’екта.




3. Карта культурнага слою г. Гродна: A — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; B — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстарыжытных знаходак; *I* — Стары замак (дзядзінец); *II* — Новы замак (вакольны горад); *III* — Барысаглебская (Каложская) царква; *IV* — Прачысценская царква і манастыр базылянак; *V* — езуіцкі кляштар; *VI* — бернардзінскі кляштар; *VII* — кляштар брыгітак

**Гродна** (мал. 3). З вялікай колькасці матэрыялаў прыгоднымі аказаліся 250 свідравін. У найстаражытным цэнтры горада — Старым замку — бурэнні не праводзіліся, тэрыторыя яго аб'яўлена гісторыка-археалагічным запаведнікам. Бурэнне не вялося таксама і каля Барысаглебскай царквы. Удалося выкарыстаць 6 свідравін на тэрыторыі Новага замка. Яны паказалі, што слой тут (насыпная глеба — чорны пясок і будаўнічае смецце) мае таўшчыню ад 1,9 да 3,3 м. Даныя раскопак 1987—1988 гг. укладваюцца ў гэты дыяпазон. Ля падножжа Старога і Новага замкаў слой складае ад 3,2 да 3,8 м. Можна меркаваць, што ён тут утварыўся пры ўдзеле наслаенняў, змытых у выніку воднай эрозіі са Старога і Новага замкаў. На тэрыторыі, якая прылягае да Старога замка з поўначы, у раёне вуліцы Қашавога, зафіксаваны слой 2,7—4,8 м. Свідравіны дапамаглі вызначыць месцазнаходжанне яра, які агінаў Новы замак з усходу і поўначы (з поўначы, відавочна, быў ужо не яр, а як працяг яго — абарончы роў). Зараз гэты яр амаль поўнасцю засыпаны. Пяць свідравін паказалі тут насыпны слой ад 6 да 15 м таўшчынёй. У той жа час у суседніх свідравінах побач з ярам таўшчыня яго складае 1,1—2,8 м.

У раёне Савецкай плошчы зафіксаваны слой 2,7—5,2 м, а ў скверы побач з плошчай — ад 2,1 да 3,45 м.

У квартале паміж вуліцамі Крупскай і Сацыялістычнай магутнасць слою 1,3—3,2 м, а ў квартале паміж вуліцай Падольнай і ракой Нёманам — 0,9—4,9 м.

Не ахоплены сеткай бурэнняў раён каля езуіцкага касцёла і паміж вуліцамі Савецкай і Урыцкага.

У квартале, межамі якога з'яўляюцца вуліцы Савецкая, Қ. Цэткін, А. Қашавога і Қастрычніцкая, выяўлены слой ад 1,3 да 4,3 м. Вялікая колькасць свідравін прабурана каля плошчы Леніна па абодвух берагах р. Гараднічанкі, а таксама ўздоўж вуліцы Э. Ажэшка. Гэта звязана з інтэнсіўнымі будаўнічымі работамі ў акрэсленым раёне горада. Қаля р. Гараднічанкі слой мае таўшчыню ад 0,6 да 5,5 м. Наслаенні ў 5 м таўшчынёй, відавочна, узніклі ў выніку запаўнення рэчышча ракі.

**Навагрудак** (мал. 4). Для складання карты-схемы культурнага слою горада выкарыстана 119 свідравін. Навагрудак размешчаны на пагорках, таму прынцып «чым таўсцей слой, тым ён старажытнейшы» дзейнічае не заўсёды. Разведачныя раскопкі на тэрыторыі горада ў 1987—

1988 гг. пацвердзілі даныя бурэнняў. Асобна стаіць Замкавая гара і Малы замак, дзе археалагічнымі раскопкамі зафіксаваны слой да 5 м таўшчынёй (бурэнні тут не вяліся).

4. Карта культурнага слою г. Навагрудка: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — Замкавая гара (дзядзінец); *II* — Малы замак (вакольны горад); *III* — Барысаглебская царква; *IV* — фарны касцёл; *V* — дамініканскі кляштар; *VI* — францысканскі кляштар

У цэнтры Навагрудка ў даволі добрым стане знаходзіцца забудова канца 19—1-й паловы 20 ст., таму тут будаўніцтва, а значыць, і бурэнні не праводзяцца. У выніку значныя ўчасткі горада не ахоплены сеткай свідравін.

Самая вялікая колькасць свідравін (39) прыйшлася на квартал паміж вуліцамі Леніна, Садовая, Камунальная. Таўшчыня культурнага слою («насыпны грунт з забруджанай супесі, бітай цэглы, камянёў») тут моцна вагаецца — ад 0,3 да 3 м. Магутны слой назіраецца на ўчастках, што прылягаюць да цэнтральнай плошчы і на самой плошчы (2 м). Шурф 1987 г., закладзены ў скверыку каля плошчы, паказаў 4,45 м.

Выразна прасочваецца тэндэнцыя да памяншэння таўшчыні слою ад цэнтра на поўдзень. З поўначы да самых замкавых узвышшаў прылягае ўчастак, на якім культурны слой адсутнічае.

**Ліда** (мал. 5). Другі па велічыні горад Гродзенскай вобласці. Тут вядзецца інтэнсіўнае будаўніцтва, у тым ліку ў гістарычнай частцы горада. Таму праз вывучэнне матэрыялаў бурэнняў удалося атрымаць даволі яскравае ўяўленне аб магутнасці культурнага слою на тэрыторыі, якую займаў горад у 19 ст. Выкарыстаны матэрыялы 97 свідравін. За аснову ўзяты планы горада 18—19 стст. У гэты час ён не выходзіў за рубяжы, акрэсленыя рэкамі Лідзейкай і Каменкай (рэчышча Каменкі засыпана ў 70-я гады 20 ст.). Выпісаны даныя свідравін, што трапілі ў межы старога горада.

Слой найбольшай магутнасці з бітай цэглай (4,8—5,2 м) зафіксаваны непадалёк ад перакрыжавання вуліц Ленінскай і Перамогі ў 300 м на паўночны захад ад замка. Хутчэй за ўсё ён утварыўся пад час засыпкі рэчышча Каменкі. Слой болей за два метры таўшчынёй выяўлены каля паўночнай мяжы цэнтральнай плошчы, а таксама ў 50 м на захад ад паўночна-заходняга кута замка (ён складаецца з торфу, перагною з дамешкам будаўнічага і бытавога смецця). Каля Музычнай школы (вуліца Савецкая) у шурфе 1978 г., закладзеным А. А. Трусавым, слой мае магутнасць 2,5 м; у раёне, які прылягае да Лідзейкі, таўшчыня яго складае ў сярэднім трохі болей за 1 м. На поўдзень і паўднёвы захад ад замка выяўлены тарфяны грунт (раней было балота), пясок і месцамі культурны слой магутнасцю каля 1 м. Такую ж велічыню слою даў і раскоп, закладзены на захад ад вуліцы Перамогі. У чатырох




5. Карта культурнага слою г. Ліды: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — замак; *II* — фарны касцёл; *III* — кляштар піараў

свідравінах на поўнач ад вуліцы Міцкевіча культурны пласт мае таўшчыню ў сярэднім 1,5 м. Адна свідравіна размешчана непадалёку ад шурфа 1983 г. каля вуліцы Таўлая. Іх вынікі супадаюць.

**Слонім** (мал. 6). У горадзе добра захавалася мураваная забудова цэнтра канца 19 — пачатку 20 ст. Таму інжынерна-геалагічныя даследаванні не вядуцца. Удалося выкарыстаць даныя 73 свідравін, размешчаных на захад




6. Карта культурнага слою г. Слоніма: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — Замчышча; *II* — касцёл св. Андрэя; *III* — бернардзінскі кляштар; *IV* — кляштар бернардзінак; *V* — сінагога

і поўдзень ад цэнтра ў раёне вуліц Пушкіна і Чырвонаармейскай. Каля першай зафіксаваны слой таўшчынёй ад 0,5 да 3,2 м (каля сквера) і 1,5—1,6 м (далей на захад). У раёне вуліцы Чырвонаармейскай слой складае ад 0,3 да 4,5 м, прычым такая магутнасць захоўваецца на даволі вялікім аддаленні ад цэнтра (500 м). Адзін з кампанентаў наслаення — бітая цэгла, будаўнічае смецце.

Даныя бурэнняў дапоўнены археалагічнымі раскопкамі. Даследаванні на Замчышчы [89] паказалі тут слой да 5 м таўшчынёй. Пад час шурфоўкі пасадаў у 1983 г. на схіле берагавой тэрасы р. Шчары (уверх па цячэнню ад Замчышча) выяўлены слой 1,2 м. Непадалёку ад берага ракі зафіксаваны наслаенні ў 2,2 м. У раёне былога кляштара бернардзінцаў магутнасць слою 0,8 м, каля плошчы Леніна — 1,5—2,8 м, сінагогі — 0,9—2,1 м. У шурфах, закладзеных на правым беразе Шчары каля касцёла св. Андрэя, зафіксаваны слой 0,5—0,6 м.

Выкарыстоўванне даных бурэнняў у комплексе з метадамі археалагічнай разведкі дазволіла скласці даволі яснае ўяўленне аб культурным слоі г. Слоніма.

**Ваўкавыск** (мал. 7). Пад час вывучэння культурнага слою горада па матэрыялах інжынерна-геалагічных бурэнняў (выкарыстана 107 свідравін) за аснову быў узяты план горада 1808 г.

На тэрыторыі горада эпохі Кіеўскай Русі (Шведская гара, Замчышча, Муравельнік) археалагічнымі даследаваннямі выяўлены культурны слой магутнасцю: на Шведскай гары 0,6—3,5 м, на Замчышчы — 0,3—2,1 м, Муравельніку — да 2 м [90]. На астатняй тэрыторыі раскопкі не праводзіліся.

Большасць свідравін прыйшлася на тэрыторыю, размешчаную на поўнач ад рэчышча р. Ваўкавыі, дзе ў асноўным і вядзецца будаўніцтва. Вялікі ўчастак на поўдзень ад ракі застаецца для даследчыкаў белай плямай.

Слой найбольшай таўшчыні (2,8 м) зафіксаваны вакол плошчы Леніна і сквера. Па меры аддалення ад цэнтра таўшчыня слою паступова памяншаецца. На 500 м

---

[89] Пех Г. И. Раскопки древнего Слонима. С. 275—279; Зверуго Я. Г. Раскопки в Слониме. С. 350—351.
[90] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. С. 143, 11, 15, 18.

7. Карта культурнага слою г. Ваўкавыска: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — Шведская гара (дзядзінец); *II* — Замчышча (вакольны горад)

на захад і ўсход ад цэнтра магутнасць слою складае ў сярэднім 1,5—2 м.

Даныя, атрыманыя ў выніку вывучэння інжынерна-геалагічных бурэнняў, недастатковыя для складання падрабязнай карты-схемы культурнага слою Ваўкавыска. Тут патрэбны археалагічныя даследаванні.

**Ашмяны** (мал. 8). Невялікі горад, раённы цэнтр у Гродзенскай вобласці. Удалося скарыстаць 29 свідравін, размешчаных у гістарычнай частцы горада. Слой магутнасцю 2 м і больш (да 2,3 м) выяўлены на поўнач і на ўсход ад цэнтральнага сквера. Пад час апісання свідравін упамінаецца бітая цэгла, шлак, будаўнічае смецце. Свідравіны па лініі поўдзень — поўнач зафіксавалі паступовае патанчэнне слою на поўнач ад вуліц Савецкай і А. Міцкевіча. Чатыры свідравіны пад будынак ашчаднай касы (вуліца Першамайская) паказалі слой 1,3—1,8 м. На захад ад




8. Карта культурнага слою г. Ашмяны: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — езуіцкі касцёл; *II* — францысканскі касцёл (Старыя Ашмяны)

цэнтральнага сквера і на вуліцы Першамайскай у 1984—1985 гг. праведзены раскопкі. Выяўлены слой 1,2—1,3 м (у 50 м на захад ад сквера) і 0,8 м на поўдзень і захад ад касцёла; каля будынка Дзяржбанка магутнасць слою 0,8 м. Археалагічная разведка ў раёне францысканскага касцёла (Старыя Ашмяны) паказала слой 0,7—1,8 м таўшчынёй.

**Мір** (мал. 9). Прыгоднымі аказаліся толькі пяць свідравін, прабураных ва ўсходняй частцы пасёлка. Тут зафіксаваны слой 1,8—2,4 м. Пад час вызначэння ахоўнай зоны культурнага слою выкарыстаны галоўным чынам матэрыялы нашых раскопак 1982—1984 і 1988—1989 гг.

**Нясвіж** (мал. 10). Асноўная маса свідравін (усяго выкарыстана 49) прыйшлася на раён паміж вуліцамі Ле-




9. Карта культурнага слою г. п. Мір: A — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; B — размяшчэнне шурфоў і раскопаў і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — Мікалаеўскі касцёл; *II* — Траецкая царква; *III* — Віленская брама; *IV* — Мінская брама; *V* — Слонімская брама; *VI* — Нясвіжская брама; *VII* — замак

нінскай, Пушкіна, 1-га Мая і Чкалава. Тут зафіксаваны слой найбольшай магутнасці ад 0,7 да 3,2 м. Даныя бурэнняў дапоўнены раскопкамі.

Бурэннямі на тэрыторыі замка выяўлены слой таўшчынёй да 5 м.




10. Карта культурнага слою г. Нясвіжа: А — таўшчыня слою па матэрыялах бурэнняў; В — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — замак; *II* — ратуша; *III* — фарны касцёл; *IV* — кляштар бенедыктынак

## ХАРАКТАРЫСТЫКА КУЛЬТУРНАГА СЛОЮ

Культурны слой позняга сярэднявечча па свайму складу, афарбоўцы, насычанасці і характару матэрыялу часта адрозніваецца ад наслаенняў 10—13 стст. Познесярэднявечны горад займаў значную тэрыторыю, часам са складаным рэльефам. Паступова мясцовасць нівеліравалася і за некалькі соцень гадоў рэльеф часткова змяніўся.

Характэрная рыса наслаенняў 14—18 стст.— наяўнасць шматлікіх перакопаў, галоўным чынам 18—20 стст. Часта іх цяжка выявіць, асабліва ў вялікіх раскопах, калі ямы не трапляюць у профіль. Таму нельга быць цалкам упэўненым у непатрывожанасці слою. Важнай statноўчай акалічнасцю ў такой сітуацыі з'яўляецца насычанасць наслаенняў 16—18 стст. шматлікімі праслойкамі гліны, пяску, вапны, бітай цэглы, дахоўкі. Падобная заканамернасць назіраецца і ў гарадах іншых частак Беларусі [91]. Гэта звязана з развіццём мураванага будаўніцтва. Непатрывожанасць такой праслойкі сведчыць аб адсутнасці ў слаях 14—18 стст. пазнейшых перакопаў. Пяройдзем да характарыстыкі асобных помнікаў.

**Гродна** (мал. 3). Для вывучэння культурнага слою выкарыстаны матэрыялы раскопак, інжынерна-геалагічных бурэнняў, назіранняў за землянымі працамі. Да 1989 г. у горадзе археолагамі раскапана каля 4000 кв. м культурнага слою, з іх каля 2540 кв. м на Старым замку, дзе яго таўшчыня дасягае 9,8 м. Верхняя частка слою ў раёне Ніжняй царквы (да 3—3,5 м) складаецца з развала будаўнічых матэрыялаў. Яна датуецца 16—20 стст. У цэнтральнай частцы пляцоўкі Замкавай гары верхнія 1,8—2 м складаюць пясок і гліна, ніжэй ідзе цёмна-шэры і чорны слой 10—18 стст., у якім выдатна захоўваюцца арганічныя матэрыялы.

З. Дурчэўскі, які пачаў раскопкі ў раёне Ніжняй царквы з узроўню 3—3,5 м падзяліў напластаванні на слаі (галоўны крытэрый выдзялення слою — наяўнасць дрэва). Мяжой паміж «старажытнарускім» і «літоўскім»

---

[91] Соболь В. Е. О хронологии культурного слоя Минска поздне-средневекового периода // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 75—76.

перыядамі жыцця ён лічыў слаі дрэва VI [92] (адзнакі 6,25—6,53 м).

М. М. Варонін праз статыстычны аналіз знаходак шкляных бранзалетаў і шыферных праселак, прыйшоў да высновы, што слой часоў Кіеўскай Русі пачынаўся са слою дрэва IV (узровень 5,6—5,9 м) [93].

У паўночна-заходняй частцы пляцоўкі часта сустракаюцца праслойкі будаўніцтва і развала мураваных пабудоў 12—18 стст.

**У раскопе (40 кв. м)**, заложаным аўтарам на паўднёва-заходнім ускрайку Новага **замка**, выяўлены культурны слой таўшчынёй 3,3 м. Наслаенні тут маюць светла-шэры колер. У верхніх 0,6 м знойдзены рэчы 17—18 і 20 стст. Далей да глыбіні 1,3—1,4 м прасочаны светла-шэры слой з бітай цэглай і вапнай, знаходкі з якога адносяцца да 16—18 стст. Ніжэй праслойкі бітай цэглы 17 ст. (яна на глыбіні 1,15—1,35 м) залягае сыпучы светла-шэры слой (таўшчыня 1,2 м). У ім знойдзена кераміка 12—13 стст. У перадмацерыковым пласце выяўлена кераміка 11—12 стст. і значная колькасць фрагментаў плінфы, якая была ў карыстанні.

Культурны слой на падворку кляштара базылянак у многіх месцах перамешаны розначасовымі пахаваннямі. Усё ж за тры гады даследаванняў удалося адшукаць некранутыя ўчасткі і прасачыць стратыграфію ў гэтым раёне. Таўшчыня слою тут каля 2 м.

Верхнія 0,1—0,15 м складае баласт 20 ст. Затым ідзе светла-шэры слой таўшчынёй 0,7 м. У ім знойдзены матэрыялы 17—18 стст. Ніжэй да мацерыка знаходзіцца цёмна-шэры слой таўшчынёй 0,35—0,8 м са знаходкамі 12—16 стст. На мяжы паміж светлым і цёмным слаямі прасочаны фрагментарныя праслойкі гліны, пяску, суглінка.

На поўнач ад галоўнага корпуса манастыра і зімовай царквы на адлегласці 12 м ад іх І. М. Чарняўскім у двух месцах выяўлена рэзкае паніжэнне мацерыка, нябачнае на паверхні. Магчыма тут праходзіў абарончы роў гродзенскіх замкаў. Пад рэшткамі маёлікавай падлогі і сценамі царквы 12 ст. выяўлены цёмна-шэры культурны слой, які ўтрымлівае фрагменты керамікі 11—12 стст. [94]

---

[92] Голубович В. И., Цегак-Голубович Е. Я. Новыя материалы по истории Гродно в раннефеодальную эпоху. (Рукапіс захоўваецца ў архіве Інстытута гісторыі АН БССР). С. 21.
[93] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 139—141.
[94] Чарняўскі І. М., Жаровіна Г. П. Нечаканае адкрыццё. С. 34—36.

На плато каля Каложскай царквы даследаваннямі Я. Г. Звяругі і А. А. Трусава выяўлены аднародны светла-шэры культурны слой. У некаторых месцах перад мацерыком прасочаны праслойкі цёмна-шэрай зямлі (мал. 13, *1*). Даволі рэдка ў слоі сустракаюцца праслойкі гліны і пяску. Таўшчыня наслаенняў вагаецца ад 0,4 да 2,2 м (на паўночны ўсход ад Каложскай царквы). На ўсход і паўночны захад ад царквы зафіксавана падсыпка схілаў узвышша, якая (паводле знаходак) зроблена ў 1-й палове 20 ст. Найбольш старажытныя матэрыялы выяўлены побач з царквой і датуюцца яны 11 ст. На паўднёвай частцы плато бліжэй да берага Гараднічанкі зафіксаваны слой найбольшай магутнасці ў 2,2 м са знаходкамі 13—16 стст.

У 1987—1988 гг. пад час шурфоўкі пасадаў з мэтай стварэння ахоўнай зоны культурнага слою знойдзены матэрыялы 12—13 стст. на Падоле (вуліца Падольная); каля перакрыжавання вуліц Замкавай і А. Кашавога і побач з пажарным дэпо. Культурны слой на пасадзе светла- і цёмна-шэры, у наслаеннях 17—19 стст. шмат праслоек будаўнічых матэрыялаў.

**Навагрудак** (мал. 4). Раскапана археолагамі каля 3000 кв. м на замках і каля 540 кв. м на пасадах. На дзядзінцы (Замкавая гара) раскопкамі Ф. Д. Гурэвіч выяўлены культурны слой таўшчынёй 4,8 м. Верхні гарызонт складаецца з камянёў, шчабёнкі, цэглы і іншага будаўнічага смецця з развалу познесярэднявечнага замка. У ім знойдзена вялікая колькасць керамікі 14—16 стст. (гаршкі, міскі і інш.), каменныя ядры, цвікі, цэгла. З глыбіні 1,5 м пачаліся наземныя жылыя пабудовы 12—13 стст. Яны ляжалі на слоі пяску магутнасцю каля 1 м, відавочна, насыпу першапачатковага валу дзядзінца. Пад пяском прасочаны культурны слой да 0,6 м таўшчынёй са знаходкамі 10—11 стст. [95]

Таўшчыня культурнага слою пасада — вакольнага горада — вагаецца ад 1—1,2 м у цэнтры пляцоўкі да больш чым 3 м па краях. У ім выдзяляюцца тры асноўныя наслаенні. Адразу пад дзірваном да глыбіні ў 1 м залягае пласт светла-шэрай афарбоўкі. У ім знойдзена кафля, кера-

[95] Зильманович И. Д. Раскопки в детинце Новогрудка в 1962 г. // КСИА. 1963. Вып. 104, с. 93—98; Гуревич Ф. Д. Некоторые итоги археологического исследования древнего Новогрудка // КСИА. 1984. Вып. 139. С. 93.

мічны посуд, цэгла (28×13×7 см), манеты пераважна 16—17 стст. Пад верхнім пластом нярэдка сустракаецца слой пяску.

Другое (сярэдняе) напластаванне мае цёмна-карычневы колер. Яго таўшчыня ўзрастае ад цэнтра пляцоўкі да краёў і вагаецца ад 0,3 да 0,8 м, у асобных месцах даходзіць да мацерыка.

Трэцяе напластаванне інтэнсіўнага чорнага колеру залягае звычайна адразу пад сярэднім, але часам аддзелена ад яго праслойкай драўлянай трухі таўшчынёй 0,1 м. Магутнасць чорнага наслаення ў цэнтры пляцоўкі 0,2—0,25 м, а бліжэй да краёў — 0,4—0,6 м. Сярэдняе і ніжняе напластаванне культурнага слою адносіцца да раннесярэднявечнага паселішча [96].

Пад час шурфоўкі сярэднявечных пасадаў горада (для стварэння ахоўнай зоны культурнага слою) выяўлены галоўным чынам светла-шэры слой з разнастайнымі праслойкамі. У шурфах ля фарнага касцёла, каля аптэкі на вуліцы Гродзенскай і ў раскопе на вуліцы Міцкевіча акрамя познесярэднявечных матэрыялаў у перадмацерыковым слоі знойдзены фрагменты керамікі 12—13 стст.

**Ваўкавыск** (мал. 7). Даследавана болей за 3800 кв. м культурнага слою. Яго магутнасць на Шведскай гары складае ад 0,6 да 1,8 м у цэнтры пляцоўкі і ўзрастае да 2,6—3,5 м каля валоў. Пад дзірваном залягае напластаванне светла-шэрага колеру таўшчынёй ад 0,4 да 0,9 м. У ім знойдзены рэчы 2-й паловы 13 — пачатку 14 ст. Ніжэй знаходзіцца праслойка пяску (0,05—0,2 м) або рэшткі пажару (вуглі, попел, кавалкі абпаленай гліны). Затым ідзе слой цёмна-шэрага колеру магутнасцю ад 0,8 да 2,1 м. Гэта наслаенні эпохі Кіеўскай Русі. Умоўнай мяжой, якая аддзяляе іх ад слою познесярэднявечнага часу, застаецца праслойка пяску і пажару [97].

Стратыграфія культурнага слою Замчышча розная ў яго паўночнай і паўднёвай частках. На поўдзень, паўднёвы ўсход і паўднёвы захад ад падмуркаў царквы 12 ст. аднародны культурны слой шэрага колеру мае таўшчыню 0,3—1,2 м. Датуецца ён канцом 10—14 ст. На захад і поўнач ад царквы культурны слой падзяляецца на дзве часткі: зверху шэрае гумусаванае напластаванне, якое

[96] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. С. 8—9.

[97] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. С. 11—12.

залягае да глыбіні 0,3—0,9 м, і больш цёмнае знізу да глыбіні 2,1 м. Паміж імі знаходзіцца праслойка таўшчынёй да 0,4—0,5 м, насычаная фрагментамі плінфы, шчабёнкай, абпаленай глінай, вугалем, кавалкамі абгарэлага дрэва [98]. Па знойдзеных матэрыялах верхні слой датуецца 2-й паловай 13—1-й паловай 14 ст. [99]

На Муравельніку ў культурным слоі да 2 м таўшчынёй (каля валоў) знойдзены матэрыялы толькі эпохі Кіеўскай Русі.

**Слонім** (мал. 6). Раскапана каля 232 кв. м на Замчышчы і каля 134 кв. м на пасадзе. На Замчышчы магутнасць культурнага слою больш за 5 м. Асаблівасць тутэйшых наслаенняў — вельмі добрая захаванасць у іх арганічных рэчываў. Да глыбіні 1,5 м залягаюць напластаванні 18—19 стст. Пад імі знаходзіцца слой жоўтага пяску, затым слой 11—15 стст. [100] Пад час разведачнай шурфоўкі пасадаў на схіле берагавой тэрасы р. Шчары (у 110 м вышэй па плыні ад Замчышча) выяўлены светла-шэры слой ад 0,55 да 1,2 м з керамікай 17—20 стст. На самым мацерыку знойдзены некалькі фрагментаў керамікі 13 ст. Слой такога ж характару выяўлены каля касцёла бернардынцаў. Яго таўшчыня 0,8 м. Матэрыял (кераміка, кафля, фрагменты кварты) датуецца 16—19 стст. У перадмацерыковым пласце знойдзена кераміка 12—13 стст. У шурфе, закладзеным на нізкім беразе ракі, матэрыялаў старэй за 17 ст. не было. Паміж касцёлам бернардынцаў і плошчай Леніна зафіксаваны слой найбольшай магутнасці (2,8 м). Светла- і цёмна-шэрыя наслаенні з праслойкамі пяску і будаўнічых матэрыялаў таўшчынёй 1,6—2 м утрымліваюць знаходкі 16—20 стст.

На правым беразе р. Шчары каля касцёла св. Андрэя выяўлены культурны слой светла-шэрага колеру з матэрыяламі 16—19 стст.

**Ліда** (мал. 5). Даследавана каля 3260 кв. м на замку і каля 34 кв. м на пасадзе. У раёне цэнтральнай плошчы культурны слой складаецца з двух асноўных пластоў: светла- і цёмна-шэрага. Светла-шэры — з бітай цэглай і вапнай, таўшчынёй 0,4—0,5 м. Ён датуецца керамікай 18—20 стст. Цёмна-шэры слой магутнасцю 1—1,2 м ідзе да

[98] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. С. 15.
[99] Там жа. С. 18.
[100] Зверуго Я. Г. Раскопки в Слониме. С. 350.

самага мацерыка. У гэтым пласце на глыбіні 1 м выяўлена каменная брукоўка. Адразу пад ёй знойдзены фрагменты керамікі і кафлі 17 ст. Ніжняя частка цёмна-шэрага слою магутнасцю 0,15—0,2 м датуецца керамікай 16 ст.

Каля Іосіфаўскага касцёла зафіксаваны слой цёмна-шэрага колеру таўшчынёй 0,7—0,9 м з матэрыялам 18—19 стст.

У шурфах на паўночны захад ад замка ў светла- і цёмна-шэрым слоі таўшчынёй 1,2—2,5 м выяўлены матэрыялы 14—19 стст.

Магутнасць культурнага слою Лідскага замка вагаецца ад 0,2—0,4 м у сярэдзіне двара да 1,5—2 м ля сцен. У паўночна-ўсходнім куце развал вежы дасягаў вышыні ў 5—6 м. Неабходна адзначыць, што ў многіх месцах наслаенні перамешаны познімі перакопамі. У ямах знойдзена вялікая колькасць (болей за тысячу) мін і снарадаў.

Амаль поўнасцю адсутнічаюць наслаенні 18—19 стст., так як у гэтыя часы замак не выкарыстоўваўся. Два раскопы былі закладзены з мэтай ускрыцця рэштkaў замкавых вежаў. Культурны слой у іх перамешаны і складаецца ў асноўным з будаўнічага развалу.

У раскопах, закладзеных пасярэдзіне замкавага двара і на адлегласці каля 20 м ад сцен, культурны слой аднастайны, цёмна-шэрага колеру, сустракаюцца нязначныя праслойкі пяску, вапны, даволі многа камянёў. У раскопах каля ўсходняй сцяны верхнія два-тры пласты перамешаны. Тут разам з рэчамі 19—20 стст. сустракаюцца знаходкі 17 ст. Ніжэй залягае слой 15—17 стст. цёмна-шэрага колеру з праслойкамі вугалю, вапны, пяску, бітай цэглы. Адну з іх, размешчаную на глыбіні 0,6—0,8 м і аналагічную па складу і глыбіні залягання праслойкам ў раскопах каля паўночнай і заходняй сцен, можна датаваць 1-й паловай 17 ст. На самым мацерыку[101] прасочваецца амаль суцэльны пласт вугалю таўшчынёй каля 0,1—0,15 м. Месцамі пад ім маецца вапна. Каля сцен праслойкі будаўнічых матэрыялаў сустракаюцца часцей.

На тэрыторыі замкавага двара бліжэй да ўсходняй сцяны знойдзены сляды двух калодзежаў. Яны былі засыпаны ў сярэдзіне — 2-й палове 17 ст. Каля заходняй, паўночнай і ўсходняй сцен выяўлены падмуркі будынкаў.

[101] Мацерыком тут лічыцца пясчаная насыпная «падушка», на якой стаіць замак.

У многіх з іх былі кафляныя печы. Каля паўднёвай сцяны будынкаў, відавочна, не было, бо там адсутнічаюць праслойкі пажару і амаль не знойдзена кафлі.

На падставе раскопак можна сцвярджаць, што культурны слой Лідскага замка сфарміраваўся галоўным чынам на працягу трохсот гадоў з 14 па 17 ст. У 18 ст. замак быў закінуты, рэчаў гэтага часу, як і 19 ст., амаль няма. Ужо пад час будаўніцтва абарончых сцен і першапачатковай паўднёва-заходняй вежы ўтварыліся значныя наслаенні. Яны складаюцца з пясчана-глінянай падсыпкі, па верху якой адкладаліся пласты будаўнічага смецця (цэглы, дахоўкі, вапны). Праслойка такога ж характару ўтварылася ў працэсе збудавання паўночна-ўсходняй вежы ў канцы 14—пачатку 15 ст. Праз адносна невялікую колькасць часу пасля збудавання замак перанёс моцны пажар. Праслойка вугалю прасочана амаль па ўсяму двару. У некаторых месцах, галоўным чынам каля ўсходняй сцяны, вугаль ляжыць прама на слоі будаўніцтва замка. Гэты моцны пажар, які адбыўся яшчэ да таго, як па ўсяму двару ўтварылася праслойка цёмна-шэрага культурнага слою, відавочна, можна звязаць з падзеямі 1384 г. У гэтым годзе замак запалілі і ўзялі штурмам пасля працяглай аблогі крыжакі [102].

У 16—17 стст. Лідскі замак страціў ваенна-стратэгічнае значэнне, але жыццё ў ім працягвалася. Тут адбываліся суды, павятовыя сеймікі, захоўваўся архіў Лідскага земскага суда [103]. Як ужо ўпаміналася, у цёмна-шэрых наслаеннях гэтага часу часта сустракаюцца вуглі, вапна, пясок, бітая цэгла. На глыбіні 0,6—0,8 м прасочана праслойка гліны, вапна, якая праз знаходкі датуецца 17 ст. Магчыма, гэта след войнаў Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Летам 1659 г. замак узяло прыступам войска князя Хаванскага [104]. У 18 ст., калі паўразбураны замак быў закінуты, нарастанне культурнага слою рэзка запаволілася.

**Мір** (мал. 9). Археолагі ўскрылі каля 5000 кв. м на замку і 316 кв. м у пасёлку. Стратыграфія культурнага слою гарадскога пасёлка Мір і Мірскага замка апублікавана [105].

[102] Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии. С. 24—25.

[103] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. С. 33.

[104] Там жа.

[105] Трусов О. А., Чернявский И. М., Кравцевич А. К. Архитектурно-археологическое изучение Мирского замка и г. п. Мир.

Таму няма патрэбы гаварыць аб ёй падрабязна. Скажам толькі, што на тэрыторыі пасёлка культурны слой магутнасцю ад 1 да 3,5 м складаецца з трох асноўных пластоў. Верхні, светла-шэры, таўшчынёй 0,6—1,45 м, утрымлівае знаходкі 2-й паловы 17—20 ст. Сярэдні пласт цёмна-шэрага колеру адносіцца да 16—17 стст. (таўшчыня яго ад 0,15 да 1 м). Ніжні пласт чорнага колеру, таўшчынёй 0,4—0,9 м, выяўлены толькі ў заходняй частцы пасёлка; датуецца канцом 14—15 ст.

Культурны слой Мірскага замка складаецца ў асноўным з наслаенняў светла-шэрага колеру, насычаных будаўнічым смеццем. Таўшчыня слою вагаецца ад 0,2—0,3 м каля валоў да 2 м звонку каля сцен. Пад час раскопак удалося выявіць праслойку першапачатковага пасялення 2-й паловы 15 ст. пад замкавай падсыпкай, праслойкі будаўніцтва, рамонту, перабудоў замка ў пачатку 16 ст., канцы 16 — пачатку 17 ст., 2-й палове 17 ст.

**Гальшаны** (мал. 11). Раскапана на замку каля 156 кв. м, у мястэчку 25 кв. м, кляштары францысканцаў — 400 кв. м. Пад час раскопак у вёсцы Гальшаны зафіксаваны культурны слой магутнасцю ад 0,4—0,6 м на паўднёва-заходняй ускраіне да 1,4 м каля гандлёвай плошчы. Ён складаецца галоўным чынам з наслаенняў светла-шэрага колеру.

Культурны слой Гальшанскага замка мае таўшчыню да 1,6 м і складаецца з шэрай глебы і шматлікіх праслоек пяску, будаўнічага смецця — рэшткаў будаўніцтва, разбурэнняў і перабудоў. У паўднёва-ўсходняй частцы двара слой моцна перамешаны познімі перакопамі. Магчыма, пад час далейшых даследаванняў будуць выяўлены некранутыя ўчасткі. Значна лепей захаваўся слой звонку, за ўсходнім корпусам. Тут удалося прасачыць стратыграфію: 1) цёмна-шэры слой таўшчынёй каля 0,2 м; 2) слой гравію 0,5 м. У ім сустракаецца бітая цэгла і дахоўка. На глыбіні 0,4 м у гэтым слоі прасочана праслойка вугалю (0,05 м). Пад час раскопак сабраны матэрыялы 16—20 стст.[106] (кераміка, кафля, шкляныя і металічныя вырабы).

---

[106] Чарняўскі І. М. Замак у Гальшанах//ПГКБ. 1983. № 3. С. 41—43; Ён жа. Археологические отчеты о проведении раскопок в д. Гольшаны в июне и августе 1982 г. и июле — августе 1983 г.//Архіў НВА «Белрэстаўрацыя». Аб'ект 198/81. Інв. № 11, 13.




11. Карта культурнага слою в. Гальшаны: А — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — замак; *II* — кляштар францысканцаў

**Любча** (мал. 12). Даследавана ў замку каля 267 кв. м, у мястэчку 10,5 кв. м. Слой найбольшай магутнасці (1,5 м) зафіксаваны ў цэнтры мястэчка каля сквера (былая гандлёвая плошча). Ён складаецца галоўным чынам са светла-шэрай глебы са шматлікімі праслойкамі гліны, пяску, вуглёў, цёмна-шэрага слою. Тут знойдзены матэрыялы 15—19 стст. (кераміка, кафля, шкляны посуд). Прычым да глыбіні 0,5 м знаходкі датуюцца 18—19 стст., далей да глыбіні 0,7—0,75 м сустракаліся матэрыялы 17—18 стст. (кафля, кераміка). У светла-шэрым слоі таўшчынёй каля 0,3 м, які залягае на мацерыку, знойдзены фрагменты керамікі 15—17 стст. Шурф у скверы на месцы былой гандлёвай плошчы выявіў светла-




12. Карта культурнага слою г. п. Любча: А — таўшчыня слою па даных раскопак і датаванне найстаражытных знаходак; *I* — замак

шэры слой таўшчынёй 0,7 м з праслойкай гліны і пяску (0,1—0,15 м). У перадмацерыковым пласце знойдзена кераміка 16—17 стст. На пагорку на паўночны захад ад замка зафіксаваны светла-шэры слой (0,7 м) з керамікай 17—19 стст. [107]

У выніку даследаванняў устаноўлена, што замак пабудаваны на штучнай пясчанай падсыпцы. У паўднёвай частцы двара пад падсыпкай на мацерыку выяўлены цёмна-шэры слой з керамікай 15 ст. Сама падсыпка раздзелена на дзве часткі праслойкай цёмна-шэрай зямлі таўшчынёй каля 0,05—0,15 м. Ніжняя частка складаецца з белага пяску, верхняя — з жоўтага. І. М. Чарняўскі — аўтар даследаванняў — прыйшоў да высновы, што падсыпку рабілі ў два прыёмы. Прычым прамежак паміж працамі быў дастатковым для ўтварэння лінзы цёмнага слою таўшчынёй да 0,15 м. Першы слой падсыпкі мае таўшчыню каля 0,5 м, другі — каля 2,3 м. Вышэй падсыпкі залягае слой гравію 0,2—0,25 м, а пад ім пласт цёмна-шэрай зямлі (0,2—0,25 м) са знаходкамі 19—20 стст. (кераміка, кафля, парцэлянавыя люлькі) [108].

**Ашмяны** (мал. 8). Раскапана 148 кв. м культурнага слою. У Старых Ашмянах у раёне францысканскага касцёла таўшчыня культурнага слою вагаецца ад 0,8 да 1,8 м. Побач з касцёлам ён перамешаны пахаваннямі. Колер пераважна светла-шэры, сустракаюцца праслойкі пяску, будаўнічых матэрыялаў. Некалькі фрагментаў непаліваных гаршкоў 14 ст. знойдзены ў такім перамешаным слоі ў шурфе на поўдзень ад касцёла.

Самыя магутныя напластаванні (у 1,4—1,5 м) выяўлены ў шурфе 7 непадалёк ад цэнтральнай плошчы (па матэрыялах бурэнняў у раёне вуліцы Міцкевіча зафіксаваны слой у 2 м) (мал. 13, II).

У наслаеннях аднастайнага светла-шэрага колеру сустракаюцца праслойкі пяску, бітай цэглы, вапны, а таксама каменныя вымасткі. У перадмацерыковым пласце сабраны матэрыялы 15 ст.

**Нясвіж** (мал. 10). Даследавана на замку 24 кв. м і 24,25 кв. м у горадзе. На тэрыторыі замка (раскопкі

---

[107] Краўцэвіч А. К. Археалагічнае даследаванне мястэчак Гальшаны і Любча.

[108] Чарняўскі І. М., Саітгарэева С. Ф. Замак у Любчы.




13. I — паўночны і ўсходні профілі шурфа 8 на Каложскім плато ў г. Гродне; II — паўночны і ўсходні профілі шурфа 7 у г. Ашмяны

вёў І. М. Чарняўскі) непатрывожанага культурнага слою не выяўлена. Бастыёны і курціны ўзведзены з гліны, гравію і пяску і часткова падсыпаны зямлёй культурнага слою.

У горадзе выяўлены культурны слой, які ўтрымлівае знаходкі 15—19 стст. [109]

**Крэва.** Пад час разведачнай шурфоўкі (20 кв. м) паселішча на ўсход і поўнач ад замка выяўлены светла-шэры культурны слой да 2 м таўшчынёй. У адным з шурфоў знойдзена венца непаліванага гаршка 14 ст. Культурны слой Крэўскага замка (раскапана каля 360 кв. м) светла-шэрага колеру, мае таўшчыню ад 0,31 да 2 м, паступова нарастае ад цэнтра двара да заходняй і паўночнай сцен. Прасочаны перадмацерыковы слой, часта цёмнага колеру са знаходкамі 14—15 стст., многа вуглёў. У верхніх наслаеннях часта трапляюцца праслойкі будаўнічых матэрыялаў.

## ПРАБЛЕМЫ ВЫВУЧЭННЯ І АХОВЫ КУЛЬТУРНАГА СЛОЮ ГАРАДОЎ І ЗАМКАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ

Археалагічнае вывучэнне познесярэднявечнага перыяду гісторыі Беларускага Панямоння толькі пачынаецца. Кола праблем, якія стаяць перад археолагамі, досыць шырокае. Абмежаваная колькасць пісьмовых крыніц позняга сярэднявечча, асабліва 14—15 стст.,— асноўная прычына актывізацыі археалагічных даследаванняў.

Інвентары — найбольш каштоўная пісьмовая крыніца па гісторыі матэрыяльнай культуры — не могуць забяспечыць паўнату звестак. Для атаясамлення рэальных рэчаў з данымі інвентароў патрэбна археалогія. Толькі з дапамогай навуковых раскопак можна запоўніць лакуну памерам у пяць стагоддзяў — з 14 па 18 ст. паміж так званымі археалагічным і этнаграфічным этапамі вывучэння матэрыяльнай культуры. Неабходна папоўніць калекцыі беларускіх музеяў, якія моцна парадзелі за гады апошняй вайны. Мы на ўласным

---

[109] Чарняўская Л., Чарняўскі І. Нясвіж. З мінулага // ПГКБ. 1988. № 1. С. 21—24.

вопыце пераканаліся, што нават радавыя матэрыялы 19 — пачатку 20 ст. карыстаюцца попытам у раённых і гарадскіх музеях. Археалогія патрэбна для высвятлення міжнародных гандлёвых сувязей у познім сярэднявеччы і вырашэння многіх іншых гістарычных праблем.

Не можа абысціся без археалогіі і вывучэнне працэсу развіцця сярэднявечнага горада як матэрыяльнага аб'екта. Каб вызначыць час узнікнення асобных пасадаў, акрэсліць межы горада, месцазнаходжанне помнікаў архітэктуры, якія не захаваліся на паверхні зямлі, неабходны шырокія археалагічныя раскопкі.

Амаль не вывучаны цікавейшыя помнікі позняга сярэднявечча — мястэчкі. У апошнія гады попыт на археалагічныя даследаванні пастаянна расце ў сувязі з інтэнсіўнымі працамі па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры [110]. Метад комплекснай рэстаўрацыі, калі разам са знешнім воблікам аднаўляецца інтэр'ер архітэктурнага помніка, патрабуе дасканалага археалагічнага вывучэння аб'ектаў. Для аднаўлення такіх каштоўных архітэктурных помнікаў, як Лідскі і Мірскі замкі, спатрэбіліся інтэнсіўныя стацыянарныя раскопкі. Неабходна было ўскрыць значныя плошчы культурнага слою, якія інакш былі б знішчаны ў працэсе рэстаўрацыйна-рамонтных работ. Матэрыялы археалагічных даследаванняў шырока выкарыстаны пад час складання праектаў рэстаўрацыі названых замкаў [111]. Археалагічныя калекцыі стануць асновай экспазіцый музеяў, размешчаных у гэтых помніках пасля рэстаўрацыі. Аналагічныя задачы мелі даследаванні, што праводзіліся на тэрыторыі кляштара базылянак у Гродне, а таксама Іосіфаўскага касцёла ў Лідзе, у Гальшанскім, Любчанскім і Нясвіжскім замках.

Вывучэнне познесярэднявечнага культурнага слою гарадскіх паселішчаў Беларускага Панямоння ўскладнена шэрагам абставін. Усе яны зводзяцца да таго, што сярэднявечныя цэнтры гарадоў і мястэчак захавалі сваё значэнне да нашых дзён. Напрыклад, гістарычны цэнтр Гродна працягвае выконваць функцыі агульнагарадскога, хоць паводле генплана развіцця горада су-

[110] Дружчыц С. А. Адраджэнне культурнай спадчыны // ПГКБ. 1983. № 3. С. 9—12.

[111] Багласов С. Г., Трусов О. А. Историко-архитектурные исследования и реставрация Лидского замка. С. 28—29; Трусаў А. А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка. С. 33—34.

часны цэнтр павінен быць вынесены за межы гістарычнага ядра [112]. Тут праводзіцца добраўпарадкаванне тэрыторыі, будуюцца новыя дамы. У выніку земляныя работы парушаюць каштоўныя культурныя наслаенні. Шчыльная забудова, густая сетка падземных камунікацый ускладняюць працу археолагам. Інтэнсіўная горадабудаўнічая дзейнасць разгортваецца і ў малых гарадах Панямоння [113].

Таму актуальнай з'яўляецца задача распрацоўкі і зацвярджэння органамі ўлады ахоўных зон культурнага слою старажытных гарадоў Беларускага Панямоння. З сакавіка 1977 г. увайшоў у сілу закон СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». У ім гаворыцца, што з мэтай забеспячэння аховы помнікаў гісторыі, археалогіі, горадабудаўніцтва і архітэктуры ўстанаўліваюцца ахоўныя зоны рэгулявання забудовы ў парадку, вызначаным заканадаўствам СССР і саюзных рэспублік. Сярод помнікаў, што падлягаюць да аховы, названы культурны слой.

Па заказу Упраўлення па будаўніцтву і архітэктуры Гродзенскага аблвыканкама аўтарам распрацаваны схемы ахоўных зон культурнага слою гарадоў Гродна і Навагрудка. Па заказу Карэліцкага райвыканкама Гродзенскай вобласці складзена схема ахоўнай зоны культурнага слою гарадскога пасёлка Мір. За аснову было ўзята кіраўніцтва па планіроўцы і забудове гарадоў з помнікамі гісторыі і культуры [114]. Адпаведна гэтаму кіраўніцтву, зона культурнага слою ўстанаўліваецца на тэрыторыі, дзе верхні слой зямлі ад паверхні да мацерыка ўтрымлівае рэшткі матэрыяльнай культуры помніка. Зона ўключае ўсе тэрыторыі з каштоўным культурным слоем. Мяжа тэрыторыі, якая ахоўваецца, вызначаецца незалежна ад іншых ахоўных зон пры абавязковым удзеле спецыялістаў-археолагаў. Перад пачаткам будаўніцтва на тэрыторыі, якая ахоўваецца, неабходны папярэднія археалагічныя даследа-

[112] Смирнова С. Л. Генеральный план Гродно и вопросы государственной охраны его исторического центра // Строительство и архитектура Белоруссии. 1983. № 2. С. 12—14.

[113] Глинка Ю. И., Лысенко А. В. Развитие малых городов — основная проблема белорусского градостроительства // Строительство и архитектура Белоруссии. 1984. № 3. С. 3—5.

[114] Руководство по планировке и застройке городов с памятниками истории и культуры. М., 1980. С. 95—119.

ванні. Яны выконваюцца за кошт арганізацыі-забудоўшчыка. Раздзяленне зоны на ўчасткі слою ў залежнасці ад яго магутнасці выклікана разлікам часу, неабходнага для археалагічнага даследавання. Так, у межах распаўсюджвання слою з магутнасцю да двух метраў даследаванне ўчастка забудовы магчыма ажыццявіць на працягу аднаго палявога сезона, пры слоі таўшчынёй больш за 2—3 м часу на вывучэнне патрабуецца больш [115].

Для распрацоўкі зоны ў Гродне і Навагрудку намі выкарыстаны даныя інжынерна-геалагічных бурэнняў, планы гарадоў 18—19 стст., матэрыялы археалагічных раскопак, назіранняў за землянымі працамі. У прадбачанні падобных заказаў распрацоўваюцца схемы ахоўных зон культурнага слою гарадоў Слоніма, Ваўкавыска, Ліды, Ашмян.

Вынікі працы па разведцы культурнага слою гарадскіх паселішчаў Беларускага Панямоння і складанне ахоўных зон культурнага слою неабходны для арганізацыі іх далейшага паспяховага вывучэння.

---

[115] Руководство по планировке и застройке городов... С. 109.

## РАЗВІЦЦЁ ПЛАНІРОЎКІ ПОЗНЕСЯРЭДНЯВЕЧНЫХ ГАРАДСКІХ ПАСЕЛІШЧАЎ БЕЛАРУСКАГА ПАНЯМОННЯ

### АГУЛЬНЫ ХОД ПЛАНІРОВАЧНАГА РАЗВІЦЦЯ

Гарадскія паселішчы Беларускага Панямоння ўзніклі і развіваліся ў складаных тапаграфічных умовах. Даследчыкі адзначаюць тэндэнцыю да размяшчэння іх на рачных тэрасах, паміж сухімі і вільготнымі ўчасткамі [116]. Акрамя таго, гарады і мястэчкі знаходзяцца на краях рачных далін, берагах азёраў. Значна радзей сустракаюцца пасяленні на вяршынях узвышшаў, што звязана з ускладненым доступам да вады.

На Лідскім і Шчучынскім плато дамінуюць пасяленні, размешчаныя на краі рачной даліны, на заходнім схіле Навагрудскага ўзвышша найчасцей сустракаюцца тэрасныя. У сярэднім цячэнні буйнейшага прытоку Нёмана — Віліі таксама пераважаюць пасяленні, размешчаныя на тэрасах.

На плато каля краю даліны р. Нёман узнік горад Гродна. Акрамя плато тут з даўніх часоў для жылля выкарыстоўвалі вузкую тэрасу ў паўднёвай частцы горада, а таксама штучна павялічаныя пляцоўкі на схілах каля замка і р. Гараднічанкі. На рачных тэрасах размясціліся гістарычныя раёны Слоніма (р. Шчара), Ашмянаў (р. Ашмянка), Міра (р. Міранка), Любчы (р. Нёман) і г. д. На маляўнічых пагорках Навагрудскага ўзвышша ўзнік і разросся Навагрудак. Старажытны цэнтр паселішча размяшчаўся на гары, са схіла якой выцякае крыніца. Самы стары раён Ліды сфарміраваўся на нізкай раўніне паміж балоцістымі рэчышчамі Лідзеі і Каменкі.

Старажытнейшыя гарады Беларускага Панямоння: Навагрудак, Гродна, Ваўкавыск, Слонім і іншыя ўзніклі ў выніку пранікнення ўсходніх славян на землі балтаў.

[116] Rewеńska W. Miasta i miasteczka w pólnocno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938.

Існуюць розныя думкі пра вытокі славянскай каланізацыі Верхняга і Сярэдняга Панямоння. У. І. Пічэта прыйшоў да высновы, што тут сустрэліся полацкія крывічы, прыпяцкія дрыгавічы і літоўскія плямёны [117]. З Полацкім княствам звязвалі так званую «Чорную Русь» М. Қ. Любаўскі, І. Д. Бяляеў [118]. Аб прыярытэце дрыгавічоў у каланізацыі Панямоння пісалі А. М. Андрыяшаў, Я. Ф. Қарскі [119]. Існуе думка аб удзеле ў асваенні Панямоння выхадцаў з галіцка-валынскіх зямель. Да яе схіляюцца некаторыя археолагі [120].

Прыток славянскага насельніцтва ў Панямонне быў даволі інтэнсіўным. Іначай цяжка вытлумачыць, напрыклад, узнікненне ў 12 ст. самабытнай усходнеславянскай архітэктурнай школы.

Праз археалагічныя даследаванні вядома, што найстаражытнейшыя гарады ў Панямонні, такія, як Навагрудак, Ваўкавыск, Гродна, узніклі ў канцы 10 ст. Уяўляецца магчымым казаць аб прытоку ў гэты час у Панямонне значнай колькасці ўсходніх славян ці, інакш кажучы, наяўнасці каланізацыйнай хвалі. Нашы продкі пачалі засвойваць гэтыя землі яшчэ ў 8—9 стст.[121], і, відавочна, было некалькі хваляў прытоку сюды славян, як да 10 ст., так і пасля. Але яны пакуль не вылучаныя так яскрава. Қалі разглядаць магчымыя прычыны міграцыйнага руху ў канцы 10 ст., то адна са значных падзей, якая магла прымусіць частку насельніцтва ўсходнеславянскага арэалу перасяліцца — гвалтоўная хрысціянізацыя якраз у канцы 10 ст. Летапісы данеслі да нас не толькі факт замены рэлігіі, але і сродкі, якімі яна ажыццяўлялася. Па сутнасці, імкнуліся змяніць увесь развіты і складаны светапогляд чалавека позняродавага ладу. Цалкам магчыма, што гвалт мог прымусіць частку насельніцтва да

---

[117] Пичета В. И. Образование белорусского народа // Вопросы истории. 1946. № 5—6. С. 17.

[118] Любавский М. Қ. Очерк истории Литовского государства. М., 1915. С. 18; Беляев И. Д. История Полоцка или северо-западной Руси от древнейших времен до Люблинской унии. М., 1872. Ч. І. С. 12.

[119] Андрияшев А. М. Очерк истории Волынской земли до конца XIV в. Киев, 1887. С. 41; Қарский Е. Ф. Белорусы. Вильно, 1904. С. 66.

[120] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 197; Гуревич Ф. Д. Древние города Белорусского Понеманья. С. 5, 8.

[121] Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понемонья. М.; Л., 1962. С. 144.

адтоку ва ўжо разведаную лясістую вобласць. І прыйшлі на Панямонне ў першую чаргу людзі з суседніх тэрыторый, даўно заселеных усходнімі славянамі.

Да 14 ст. гарады Беларускага Панямоння мелі даўно ўжо створаную планіроўку, тыповую для ўсходнеславянскага арэалу. Яна ўключала наступную структуру: дзядзінец — вакольны горад — пасад (выключэнне Слонім — няма вакольнага гораду).

Развіццё планіроўкі гарадоў Беларускага Панямоння ў 14—18 стст. прайшло ў два асноўныя этапы. Першы ўключае 14—пачатак 15 ст.[122], другі—15—18стст. У якасці крытэрыю выдзялення перыядаў выступае наяўнасць карэнных змен у планіроўцы гарадскіх пасяленняў. У межах названых двух этапаў можна выдзеліць меншыя прамежкі, пад'этапы. Так, напрыклад, пэўныя змены ў планіроўцы адбыліся пад час правядзення валочнай памеры ў 16 — пачатку 17 ст., пад час будаўніцтва каталіцкіх касцёлаў і манастыроў у 2-й палове 17 ст. Але гэтыя змены не прывялі да стварэння нейкай іншай планіровачнай структуры, як гэта адбылося ў 15—16 стст.

Канцом першага этапа можна прыняць 1410 г. У гэтым годзе адбылася бітва пад Грунвальдам. Перамога ў ёй аб'яднанага славянскага войска мела вялікі ўплыў на гістарычныя лёсы ўсёй Еўропы і, у прыватнасці, Беларускага Панямоння.

**На працягу 14 і пачатку 15 ст. гарады Беларускага** Панямоння ў асноўным захоўвалі планіроўку, што склалася ў 12—13 стст. У іх існавалі магутныя замкі, якія сканцэнтравалі ў сабе функцыі цэнтра горада. Па сваіх памерах пасады 14 — пачатку 15 ст. ненамнога перавышалі ранейшыя, а магчыма, былі і меншымі. Яны групаваліся вакол замкаў, на якія былі з'арыентаваны вуліцы пасадаў [123]. Замкі знаходзіліся на месцах былога дзядзінца і вакольнага горада.

У канцы 13 — пачатку 15 ст. значны ўплыў на жыццё, у тым ліку і развіццё планіроўкі гарадоў Беларускага Панямоння, аказвала зацятая барацьба Вялікага княства

---

[122] Фактычна храналагічныя межы першага этапа развіцця планіроўкі не супадаюць з прынятай перыядызацыяй гісторыі, ён пачаўся не ў 14, а ў 11—12 стст.

[123] Гэтая з'ява добра заметна на планах 17—18 стст.— выразна прасочваецца розніца ў планіроўцы пасадаў 13, 14 і 15, 17 стст.

Літоўскага з крыжакамі. Як адзначаў К. Маркс: «... У першай палове 14 ст. Тэўтонскі ордэн стаў сур'ёзнай пагрозай для Польшчы, Літвы і іншых краін Усходу» [124].

Толькі ў 2-й палове 14 ст. крыжакі правялі 97 спусташальных паходаў на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага. Больш за ўсіх цярпела Панямонне. Ворагі даходзілі да Ліды, Навагрудка і далей да Карэліч і Міра. З 1380 па 1410 г. было зроблена яшчэ 14 набегаў [125]. Цяжкія ваенныя абставіны разам з эпідэміяй і голадам тармазілі развіццё гарадоў Беларускага Панямоння. Інтэнсіўна будаваліся толькі замкі. Відавочна, у 2-й палове 13—14 ст. гарады, у першую чаргу такія, як Гродна і Навагрудак, акрамя замкаў мелі ўмацаванні і вакол пасадаў.

1410 г. прапаноўваецца прыняць верхняй храналагічнай мяжой першага этапу планіровачнага развіцця таму, што пасля паражэння ордэна напады крыжакоў спыніліся назаўсёды і такім чынам быў зліквідаваны адзін з фактараў, якія тармазілі развіццё гарадскіх паселішчаў. Зразумела, гэтая веха ўмоўная, як і ўсе падобныя храналагічныя рубяжы.

На другім этапе — пачатку 15 (1410 г.) — 17 ст. адбываецца перанос цэнтра горада з замка на гандлёвую плошчу з ратушай. Вакол гэтага ядра фарміруецца новы пасад з планіроўкай іншай, чым у старым. Ад плошчы з ратушай, якая выдзялялася сярод вакольных пабудоў памерамі і архітэктурнымі формамі, у розныя бакі разыходзіліся вуліцы. Галоўнымі ў планіроўцы былі тыя з іх, што адпавядалі найважнейшым гандлёвым шляхам. Яны вызначалі размяшчэнне астатніх вуліц, якія часцей за ўсё ішлі паралельна або перпендыкулярна галоўным. Такая планіровачная структура захоўваецца ў асноўных рысах да нашых дзён. Дзяржаўныя гарады, размешчаныя ў Беларускім Панямонні, у 15—18 стст. не мелі ўмацаванняў акрамя замкаў. Развіццё горада ішло эвалюцыйным шляхам і ў значнай ступені вызначалася асаблівасцямі мясцовага рэльефу. Аб прычынах адсутнасці ўмацаваных пасадаў — з'яве выключнай для сярэднявечча — скажам ніжэй.

У Беларускім Панямонні ёсць шэраг пасяленняў,

---

[124] Архив Маркса и Энгельса. М., 1938. Т. 5. С. 347.

[125] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. С. 40—41.

якія да 15 ст. (на першым этапе) праз пісьмовыя крыніцы вядомыя як гарады, а на другім этапе развіцця (15—18 стст.) гарадамі ўжо не былі. Да іх належаць Турэйск, Здзітаў[126], Вевярэск, Астрыя, Мсцібогаў, Збочна[127]. І наадварот, такія паселішчы, як Ліда, Ашмяны, Нясвіж, гарадамі становяцца на другім этапе ў 15—17 стст. Усе этапы развіцця ў якасці гарадоў прайшлі толькі найзначныя цэнтры: Гродна, Навагрудак, Ваўкавыск, Слонім.

У 15 ст. колькасць жыхароў у такіх гарадах, як Гродна і Навагрудак, ацэньваецца прыблізна ў 3—4 тысячы чалавек. З канца 14 ст. пачынаецца працэс набыцця гарадамі Магдэбурскага права: Гродна ў 1391 г., Ваўкавыск у 1503 г., Навагрудак у 1511 г., Слонім у 1531 г., Мір у 1579 г., Нясвіж у 1586 г., Ліда у 1587 г.[128] і г. д.

Амаль у кожным горадзе і мястэчку Беларускага Панямоння мелася вуліца Віленская, якая выводзіла ад плошчы на дарогу да сталіцы. Акрамя таго, былі вуліцы Слонімскія, Мінскія, Слуцкія, Клецкія, Барунскія і г. д., у залежнасці ад геаграфічнага палажэння населенага пункта. Вуліцы атрымлівалі назвы таксама па характару заняткаў жыхароў. У Гродне, напрыклад, у 16 ст. вядомы вуліцы Рэзніцкая (мяснікі), Златарская (ювеліры) і інш. Былі вуліцы, названыя па прозвішчу ўладальніка зямельнага ўчастка на іх і агульнапрынятыя, такія, як Цесная, Нагорная, Нізкая і г. д. У 17 ст., калі ў беларускіх гарадах інтэнсіўна будуюцца кляштары і касцёлы розных каталіцкіх ордэнаў, з'яўляюцца вуліцы Дамініканскія, Бернардзінскія, Францысканскія, Кармеліцкія і інш. У некаторых выпадках захоўваліся назвы яшчэ з 12—13 стст. Так, у Гродне да гэтага часу існуюць вуліцы Падольная і Маставая (яшчэ ў 16 ст. апошняя называлася Вялікай).

Новым тыпам паселішчаў, які шырока распаўсюдзіўся ў 16—17 стст., сталі мястэчкі. Яны па гаспадарчай

---

[126] Размешчаны ў басейне Прыпяці, але традыцыйна адносіцца да гарадоў Беларускага Панямоння.

[127] Сярод даследчыкаў не склалася адзінай думкі пра характар паселішчаў Мсцібогаў, Збочна ў 12—14 стст. Адны лічаць, што яны былі гарадамі (В. В. Сядоў), іншыя — замкамі (Ф. Д. Гурэвіч, П. А. Раппапорт).

[128] Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Мн., 1978. Т. 1. С. 224, 139, 429, 649, 423, 443, 362, 371.

і сацыяльнай структуры займалі прамежкавае становішча паміж горадам і вёскай [129]. Хоць галоўным заняткам жыхароў мястэчак была сельская гападарка, частка з іх стала займалася рамяствам і гандлем. Масавае ўзнікненне паселішчаў новага тыпу з'явілася следствам развіцця вытворчых сіл і таварна-грашовых адносін феадальнага грамадства. Шляхі ўтварэння мястэчак былі рознымі: воля гаспадара (вялікага князя, або магната), стыхійнае ўзнікненне каля манастыроў, феадальных замкаў, валок, грэбляў, перакрыжаванняў гандлёвых дарог. Працэс пераходу сельскіх паселішчаў да мястэчак адбываўся часцей за ўсё пры спрыяльнай камунікацыйнай сітуацыі. Першы элемент урбанізацыі — з'яўленне гандлёвай плошчы [130]. Яна ўтваралася за кошт пашырэння дарогі ў цэнтры паселішча. Тут жа каля плошчы знаходзілася царква або касцёл. Планіроўка мястэчак Беларускага Панямоння амаль без змен захавалася да нашага часу, што пацвярджаецца археалагічнымі даследаваннямі.

У 14—17 стст. на Беларускім Панямонні ажыццяўлялася актыўнае будаўніцтва замкаў. У ім таксама выдзяляюцца два этапы: 14—15 стст. і 15—17 стст. Але спачатку пра сам тэрмін «замак». На Беларусі 14—18 стст. ён замяніў старажытную назву «дзядзінец». Замкамі пачалі называцца ўсе віды ўмацаванняў, у тым ліку і ўмацаванае жыллё феадала [131]. Аўтар падзяляе меркаванне М. А. Ткачова аб неправамернасці ўжывання тэрміну «крэпасць» у адносінах да беларускіх замкаў [132].

У 14 — пачатку 15 ст. на Беларускім Панямонні актыўна функцыяніравалі дзяржаўныя замкі, у першую чаргу ў старэйшых гарадах, такіх, як Гродна, Навагрудак, Ваўкавыск, Слонім. Яны размяшчаліся на месцы старажытных дзядзінцаў, на вакольным горадзе і акрамя абарончай функцыі выконвалі яшчэ і адміністратыўную. Задачы абароны выклікалі неабходнасць узвядзення новых умацаванняў. У першай палове 14 ст. збудаваны Лідскі і Крэўскі замкі. Яны прызначаліся спецыяльна для абароны ад крыжакоў і зроблены па ўзору ордэнскіх

[129] Гісторыя Беларускай ССР. Мн., 1978. Т. 1. С. 221.
[130] Reweńska W. Miasta i miasteczka... S. 43.
[131] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. С. 43.
[132] Там жа.

замкаў-кастэляў з каменняў і цэглы. Каменнымі паступова сталі Гродзенскі і Навагрудскі замкі. Калі цытадэлі старажытных гарадоў размяшчаліся, як правіла, на ўзвышаных месцах, то замкі ў Лідзе і Крэве, наадварот, збудаваны ў балоцістай мясцовасці.

Разам з аналагічнымі пабудовамі ў Медніках, Вільні, Троках (зараз Літоўская ССР) замкі Беларускага Панямоння ўваходзілі ў магутны абарончы комплекс на заходніх рубяжах дзяржавы.

У 15—17 стст. шырока распаўсюджваецца прыватнае замкавае будаўніцтва. Прычынамі пабудовы замкаў-рэзідэнцыяў феадалаў былі: пагроза знешняй агрэсіі, міжусобныя звады, народныя хваляванні; адчувальнае развіццё эканомікі (нягледзячы на неспрыяльныя палітычныя фактары) дазваляла сабраць неабходныя сродкі. Замкі-рэзідэнцыі ўзводзіліся з дрэва або цэглы непадалёк ад паселішчаў. Часта з'яўленне такога замка давала штуршок да хутчэйшага развіцця паселішча. Так як тут было месца пастаяннага жылля феадала, за замкавымі сценамі будавалі шыкоўныя палацы. У 18 ст. прыватныя рэзідэнцыі ўжо не маюць яскрава выражанага абарончага характару.

**Надзвычай цікавая адна асаблівасць тапаграфіі дзяржаўных гарадоў Вялікага княства Літоўскага,** размешчаных у Беларускім Панямонні. Гаворка ідзе аб адсутнасці ў 15—18 стст. умацаванняў вакол асноўнай тэрыторыі горада — гандлёва-рамесных пасадаў [133]. Гэтая асаблівасць вылучае Навагрудак, Гродна, Слонім, Ваўкавыск, Ліду з шэрагу іншых еўрапейскіх гарадоў. Такая з'ява настолькі рэдкая, што будзе не лішнім праверыць наш вывад на трываласць. Можна ж выказаць гіпотэзу, што ўмацаванні ўсё ж былі, але ні яны самыя, ні звесткі аб іх не захаваліся. Нам уяўляецца — познесярэднявечныя абарончыя збудаванні, такія, як валы, равы, наўрад ці маглі быць поўнасцю знішчаны ва ўсіх гарадах у 18 — 19 стст. Вялікіх горадабудаўнічых прац у гэты час на Беларускім Панямонні не было. Генеральная перапланіроўка гарадоў Расійскай імперыі, якая пачалася з 60-х гадоў 18 ст. [134] і прывяла да раз-

[133] Наяўнасць умацаванняў у папярэдні час — 14 ст. пакуль гіпатэтычная.
[134] Гуляницкий Н. Ф. Русский регулярный город на традиционной основе // Архитектурное наследство. М., 1985. Вып. 33. С. 3.

бурэння сярэднявечных гарадскіх умацаванняў, Беларускага Панямоння амаль не датычыла [135]. Значыць рэшткі абарончых збудаванняў былі б пазначаны на планах 18—19 стст. Аднак нічога падобнага там няма. У пісьмовых крыніцах звестак аб гарадскіх умацаваннях не выяўлена. Не знайшла іх і гісторык архітэктуры і горадабудаўніцтва А. Д. Квітніцкая, якая займалася рэканструкцыяй планіроўкі 16—18 стст. Гродна і Слоніма. Аб тым, што ў Гродне не было ўмацаваных пасадаў у сярэдзіне 16 ст., можна казаць з упэўненасцю, абапіраючыся на такую надзейную крыніцу, як гравюра 1568 г. Няма ўпамінанняў аб гарадскіх умацаваннях і ў «Пісцовай кнізе Гродзенскай эканоміі», складзенай у 1560 г.

На адной з гравюр 18 ст. пад надпісам па-нямецку «Гродна ў Вялікім княстве Літоўскім» змешчана панарама горада, абнесенага ўмацаваннямі з вежамі [136]. Аднак аналіз выявы паказвае, што гэта не Гродна, а, найверагодней, Магілёў. На карысць такога меркавання сведчыць воблік асноўных архітэктурных збудаванняў і характэрны выгін ракі на пярэднім плане.

Добра вядома, якое значэнне ў заходнееўрапейскім горадзе надавалася гарадскім умацаванням. Траціліся значныя сродкі на іх збудаванне, рамонт, дасканала арганізоўвалася варта і абарона пад час нападу. Надзейныя муры, валы і равы былі ва ўмовах феадальнай эпохі гарантыяй свабод і прывілеяў, дадзеных гарадам цэнтральнай уладай. Да гэтага трэба дадаць, што частка гарадскіх паселішчаў па прычыне свайго пагранічнага размяшчэння была пад пагрозай знешняга нападу. Гэта таксама стымулявала абарончае будаўніцтва.

Прычын адсутнасці ўмацаваных пасадаў у дзяржаўных гарадоў, размешчаных у Беларускім Панямонні, на наш погляд, некалькі. Да іх належаць: палітычная сітуацыя, што склалася ў Вялікім княстве Літоўскім у 15—18 стст., становішча, якое гарады займалі ў дзяржаве,

---

[135] У ЦДВГА СССР захоўваецца план горада Ваўкавыска 1808 г., па якому чырвоным алоўкам нанесена сетка новых вуліц. Аднак гэты праект не быў ажыццёўлены гэтак жа, як і перабудова Навагрудка (праект 1809 г. знаходзіцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве ў Ленінградзе).

[136] Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 33.

адсутнасць непасрэднай пагрозы нападу звонку[137].

Як ужо ўпаміналася, гарады так званай Чорнай Русі ў 15—16 стст. атрымалі ад цэнтральнай улады самакіраванне па Магдэбургскаму праву. Гэта з'явілася адным з праяўленняў цэнтралізацыі дзяржавы, немалое значэнне ў ходзе якой меў саюз цэнтральнай улады з гарадамі для барацьбы супраць буйных феадалаў. Аднак далейшага развіцця працэсу цэнтралізацыі не адбылося. Перамогу ў палітычнай барацьбе за першынство ў дзяржаве атрымалі феадалы, і аслабленне вялікакняскай улады адбілася на становішчы дзяржаўных гарадоў. Феадалы дамагаліся права на набыццё зямельных участкаў на тэрыторыі гарадоў, пасялялі там сваіх падданых. Такім шляхам ствараліся юрыдыкі, дзе гаспадарчая дзейнасць не падлягала кампетэнцыі гарадскіх улад, а насельніцтва знаходзілася пад юрысдыкцыяй феадала. Уласнымі юрыдыкамі валодалі таксама святары. У 17 ст. у многіх дзяржаўных гарадах Вялікага княства Літоўскага насельніцтва, якое падпарадкоўвалася магістрату, складала каля паловы агульнай колькасці жыхароў. Каралеўскія ўказы, што прадпісвалі ўсім жыхарам гарадоў пераход пад руку магістрату, рэальнай сілы не мелі. З усяго сказанага становіцца зразумелым, чаму было вельмі цяжка ажыццявіць такое значнае і дарагое мерапрыемства, як стварэнне абарончай сістэмы вакол гарадской тэрыторыі. Неабходны былі важкія прычыны, каб прымусіць жыхароў аб'яднацца для выканання такой задачы. Мы ведаем, што на Беларускім Падзвінні і Падняпроўі, у такіх гарадах, як Віцебск, Полацк, Орша, Магілёў і іншыя, гарадскія ўмацаванні былі ўзведзены і актыўна функцыяніравалі. Прычынай было пагранічнае размяшчэнне названых гарадоў. У выпадку ўзброеных канфліктаў з Маскоўскай дзяржавай яны былі галоўнымі апорнымі цэнтрамі абароны і арганізацыі паходаў у адказ. Іншымі словамі, тут у дзеянне ўступаў знешні фактар і вынікам гэтага дзеяння з'явілася пэўная кансалідацыя розных слаёў гарадскога насельніцтва для арганізацыі абароны.

[137] Будаўніцтва лініі земляных умацаванняў бастыённага тыпу арганізавана ў Гродне камандаваннем рускіх войскаў пад час руска-польскай вайны пасля заняцця імі Гродна ў 1655 г. Факт узвядзення рускімі войскамі ўмацаванняў агульнага малюнку не змяняе. Гэтае будаўніцтва ў пэўнай ступені выпадковае.

Падобная з'ява назіралася на Украіне, дзе не толькі гарады, але многія мястэчкі і нават сёлы былі абнесены сценамі і равамі для абароны ад нападаў татараў [138]. Галоўнай прычынай будаўніцтва ўмацаванняў вакол пасадаў гарадоў Маскоўскай дзяржавы была таксама ваенная пагроза з боку суседніх дзяржаваў.

Тэрыторыя так званай Чорнай Русі, якая паслужыла ядром Вялікага княства Літоўскага, у 15—18 стст. знаходзілася далёка ад усходніх дзяржаўных межаў, побач з саюзным Польскім каралеўствам і не адчувала непасрэднай пагрозы нападу звонку. У выніку разгрому Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам у 1410 г. знікла небяспека на паўночна-заходніх межах княства. Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай Беларускае Панямонне апынулася ў самым цэнтры агромністага дзяржаўнага ўтварэння. Набегі крымскіх татараў на Беларусь прыходзіліся галоўным чынам на яе паўднёвыя і паўднёва-ўсходнія землі. Татарскія атрады часам даходзілі да Сярэдняга Панямоння, але сур'ёзнай пагрозы яго гарадам не стваралі. Землі Беларускага Панямоння засталіся ў баку ад асноўных ваенных дзеянняў пад час паўстання Налівайкі ў канцы 16 ст. і вызваленчай вайны ўкраінскага народа ў 17 ст. Толькі ў 1655 г. яно было занята войскамі Аляксея Міхайлавіча пад час вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай.

Іншы малюнак назіраецца ў гарадах Беларускага Панямоння, якія належалі буйным магнатам. Тое, што не ўдалося ў межах усёй дзяржавы, адбывалася ў прыватных уладаннях. Жыхары прыватнаўласніцкіх гарадоў таксама атрымлівалі Магдэбургскае права. Іх насельніцтва па свайму прававому статуту было аднародным. Таму не дзіўна, што ў Нясвіжы і Міры (належалі Радзівілам), як і ў іншых прыватнаўласніцкіх гарадах Беларусі, у 15—18 стст. было ажыццёўлена збудаванне гарадскіх умацаванняў на ўзроўні лепшых дасягненняў еўрапейскай фартыфікацыі.

Хоць у 16—18 стст. планіроўка гарадоў не мянялася карэнным чынам, пэўная эвалюцыя ўсё ж была. У горадабудаўніцтве нашы продкі кіраваліся традыцыямі, якія складваліся адпаведна пануючаму мастацкаму стылю. Якраз у акрэслены перыяд на беларускіх землях на змену

[138] История Украинской ССР. Киев, 1982. Т. 2. С. 518.

рэнесансу прыйшло барока. Таму структура планіроўкі гарадоў, якая склалася ў рэнесансны перыяд, у 17—18 стст. пэўным чынам змянілася адпаведна стылю барока. Гэтую апошнюю структуру мы і маем зараз у нашых старажытных гарадах. Плаўна скрыўленыя вуліцы выводзяць да архітэктурнай дамінанты — культавага барочнага будынку, ці на плошчу непрамавугольнай формы. Можна казаць, што да нашага часу планіровачная структура гістарычных цэнтраў гарадоў Беларускага Панямоння захавалася толькі ў агульных рысах. Значныя пашкоджанні былі ёй нанесеныя пасля другой сусветнай вайны, прычым большыя, чым у ходзе самой вайны. У Гродне, Навагрудку, Лідзе і іншых гарадах аказаліся знесенымі шматлікія помнікі архітэктуры, у тым ліку некаторыя касцёлы. У аснове гэтых разбурэнняў ляжала, у прыватнасці, атэістычная палітыка ўладаў і ўвогуле зняважлівыя адносіны да гістарычнай спадчыны.

За чатыры дзесяткі гадоў былі моцна парушаныя горадабудаўнічыя комплексы, якія складваліся на працягу некалькіх стагоддзяў. Знішчэнне касцёлаў разбурыла сістэму гарадскіх архітэктурных дамінантаў. Сучасныя будынкі, узведзеныя на месцы разбураных, часта значна саступаюць старым пабудовам па мастацкіх вартасцях. Амаль цалкам знішчаны гістарычныя назвы вуліц.

Несумненна, раней ці пазней нанесеныя страты давядзецца аднаўляць. Буйныя рэстаўрацыйна-будаўнічыя работы патрабуюць значных сродкаў. Практычных вынікаў можна чакаць толькў тады, калі аднаўленне і захаванне гістарычнай спадчыны народа стане адной з праяў дзяржаўнай палітыкі.

На заканчэнне некалькі слоў аб тапоніме «Чорная Русь». Цяжка **сказаць**, наколькі правамерна звязаць яго з Беларускім Панямоннем. Чорная Русь упершыню пазначана на карце венецыянскага манаха Фра Маўра ў 1460 г. Аднак «ROSSIA NEGRA» там змешчана ў Падняпроўі на ўсход ад Літвы [139]. Відавочна, патрэбна спецыяльнае даследаванне, каб высветліць, як у гістарычнай літаратуры назва «Чорная Русь» замацавалася за Беларускім Панямоннем.

[139] Kamal Y. Monumenta cartographica Africae et Aegypti. Leiden, 1951. N. 1496.

## ПЛАНІРОЎКА ГРОДНА Ў 14—18 СТСТ.

Найбольш падрабязна мы спынімся на высвятленні планіроўкі Гродна. Гэта выклікана некалькімі прычынамі. Па-першае, гістарычная тапаграфія горада тыпова для Беларускага Панямоння; па-другое, Гродна — галоўны горад рэгіёну; па-трэцяе, пісьмовых і картаграфічных крыніц па планіроўцы Гродна захавалася значна больш, чым матэрыялаў па гістарычнай тапаграфіі іншых гарадоў Беларускага Панямоння; па-чацвёртае, у горадзе праводзіліся вялікія па аб'ёму археалагічныя даследаванні.

Гродна ўпершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1128 г.[140] Найстаражытнае паселішча канца 10—11 ст. адкрыта на мысе пры ўпадзенні р. Гарадніччанкі ў Нёман (Стары замак, мал. 14). Тут знаходзіўся дзядзінец горада эпохі Кіеўскай Русі. Вакольны горад, па ўсёй верагоднасці, знаходзіўся на суседнім узвышшы Новы замак (у сярэдзіне 18 ст. тут быў пабудаваны каралеўскі палац), на поўдзень ад Старога замка. Найстаражытнейшыя матэрыялы, знойдзеныя пад час раскопак на Новым замку, датуюцца 11—12 стст. Па даных археалогіі, у 11 ст. ужо быў заселены правы бераг Гараднічанкі насупраць дзядзінца, а таксама тэрыторыя, прылягаючая да Старога замка з усходу. У 12 ст. тут пабудавана Прачысценская царква. У 11—12 стст. быў заселены ўчастак, што прылягае да Старога замка з паўночнага ўсходу, і Падол (зараз вуліца Падольная). Горад Гродна знакаміты тым, што ў ім у 12 ст. узнікла надзвычай цікавая і самабытная архітэктурная школа. З усіх помнікаў гэтай школы толькі адна Барысаглебская царква ў паўразбураным выглядзе захавалася да нашых дзён . Яна размешчана на правым беразе Гараднічанкі за межамі асноўнай тэрыторыі горада. Усе астатнія вядомыя нам збудаванні адкрытыя археолагамі. Да іх адносяцца: так званыя Ніжняя царква ў цэнтры дзядзінца (ужо ў 14 ст. ляжала ў руінах), княскі церам на паўднёва-заходнім ускрайку Замкавай гары, сцяна з плінфы (відавочна, уваходзіла ў комплекс з драўлянымі ўмацаваннямі), збудаваная на самым мысе, Прачысценская царква на пасадзе на ўсход ад дзядзінца.

---

[140] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 284.




14. Тапаграфія г. Гродна 11—12 стст.: А — пасады выяўленыя праз археалагічныя раскопкі; В — верагодная тэрыторыя пасадаў; С — верагодны курганны могільнік (па матэрыялах 17 ст.); *I* — дзядзінец; *II* — вакольны горад; *III* — Падол; цэрквы: *1* — Ніжняя, *2* — Прачысценская, *3* — Барысаглебская (Каложская), *4* — Малая (?), *5* — Васкрасенская (?)

Назва апошняй вядома па дакументах 16 ст. Падмурак і рэшткі сцен Прачысценскай царквы знойдзены ў 1980 г. на тым месцы, дзе храм паказаны на гравюры 1568 г.[141] Можна меркаваць аб наяўнасці ў канцы 12 ст. у Гродне яшчэ двух цэркваў: на вакольным горадзе (па дакументах 15—16 стст. тут вядома Васкрасенская царква, а пад час нашых раскопак у 1987—1988 гг. на пасадзе, на паўночны ўсход ад дзядзінца, знойдзены развал плінфы) і так званая Малая царква, вядомая з канца 14 ст. Абодва гэтыя храмы паказаны на гравюры 1568 г.

Па летапісных звестках, якія адносяцца да 13 ст., мы ведаем аб існаванні на гродзенскім дзядзінцы

141 Да гродзенскай архітэктурнай школы акрамя названых помнікаў належала недабудаваная, як мяркуюць даследчыкі, царква на Замчышчы ў Ваўкавыску.

вежы валынскага тыпу. «Столб бе бо камен высок стоя пред вороты города. И бяху в немь заперлися Прузы и не бысть имь мимо нъ паити к городу, пабивахуць бо со столпа того» [142]. Месцазнаходжанне вежы вызначаецца даволі дакладна — каля маста, што злучае вакольны горад з дзядзінцам. Відавочна, вежа ўвайшла ў склад умацаванняў замка Вітаўта, збудаванага ў канцы 14 — пачатку 15 ст., і відна на гравюры.

У выніку археалагічных даследаванняў вывучана планіроўка заходняй часткі Старога замка 14 ст. У 13—14 стст. руіны Ніжняй царквы служылі замкавымі могілкамі. Рэшткі сцен царквы яшчэ ў 14 ст. не былі поўнасцю пахаваны пад культурным слоем. Маставыя на тэрыторыі замка насцілаліся з улікам размяшчэння церама і Ніжняй царквы. Адзін насціл працягнуўся ўздоўж паўднёвага фасада царквы з усходу на захад ад галоўнай брамы ў сярэдзіну замка. З поўначы на поўдзень паўз заходні фасад царквы, відавочна, была накіравана такая ж маставая. Перакрыжаванне размяшчалася каля паўднёва-заходняга кута царквы. Маставыя мелі шырыню да 2,5 м. Яны былі зроблены з дошак на двух-трох прадольных лагах-кругляках або падцясаных бярвеннях. Завулкі паміж пабудовамі масціліся цясінамі. Заходнюю частку тэрыторыі замка займалі гаспадарчыя пабудовы. Амбары і хлявы былі бліжэй да ўсходняй паловы. Усе пабудовы зрубныя, пераважна з сасновых або яловых бярвенняў, зсечаны ў лапу. Сярэднія памеры — 4×4 м, гаспадарчых пабудоў — 3×3 м, 2,8×2,8 м. Апошнія рабіліся з вертыкальных дошак і гарбыля. Печы будаваліся з гліны і каменняў на драўляных платформах. У пабудовах 14 ст. прадольны паз высечаны не на ніжняй, а на верхняй паверхні бярвенняў зрубу. Дрэва для зруба цясалася на чатыры канты [143]. Такая ж забудова з жылымі і гаспадарчымі будынкамі выяўлена і ў цэнтры замкавага двара.

У канцы 14— пачатку 15 ст. на месцы ранейшых умацаванняў дзядзінца будуецца магутны каменны замак (мал. 15). У плане ён паўтараў абрысы дзядзінца і меў форму няправільнага трохвугольніка. Абарончыя збу-

---

[142] ПСРЛ. Т. 2. С. 878.

[143] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 163, 164.




15. Тапаграфія г. Гродна канца 14 — пачатку 15 ст. А — рынак; В — пасады; *I* — Верхні замак; *II* — Ніжні замак; *III* — каталіцкія могілкі; *IV* — праваслаўныя могілкі; *V* — яўрэйскія могілкі; цэрквы: *1* — Верхняя, *2* — Прачысценская, *3* — Барысаглебская, *4* — Малая, *5* — Васкрасенская (?); *6* — касцёл; *7* — сінагога

даванні замка Вітаўта грунтоўна разгледжаны ў працы Я. Вайцэхоўскага [144], таму мы не будзем на іх спыняцца дэталёва. Замак меў пяць вежаў, усе яны, акрамя ўпамянутай круглай, былі ў плане квадратнымі (12×12 м). Гэта ўязная вежа з пад'ёмным мостам і варотамі, паўночна-ўсходняя, вежа на мысе пры ўпадзенні Гараднічанкі ў Нёман і апошняя — з боку Нёмана. Даўжыня сцен па перыметру складала каля 220 м, таўшчыня дасягала 3 м. Палац размяшчаўся ў паўднёва-ўсходняй частцы замка. Ён быў прыбудаваны да абарончай сцяны. Да нашых дзён захаваліся толькі фрагменты сцен.

У 14 ст. над развалінамі Ніжняй царквы збудавана так званая Верхняя царква. Па памерах яна значна саступала сваёй папярэдніцы. У плане Верхняя царква мае

[144] Wojciechowski J. Stary zamek w Grodne. Warszawa, 1938.

квадрат са зрэзанымі вугламі са стараной 8,8 м (памеры Ніжняй царквы — 16×11 м).

У беларуска-літоўскіх летапісах сустракаюцца звесткі аб Ніжнім замку. Так у «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» гаворыцца, што ў 1399 г. «... бо Нижний замок королевские жолнъере на що сам Витолт з жалостью гледьял, взяли были. И так Витолт, переставши нового замку будовати, ланцук великий желъзный през Немен до Вышшого Гродненского замку припровадивши, у брамы казал привязати»[145].

Ніжні замак размяшчаўся на вакольным горадзе. Я. Вайцэхоўскі прыйшоў да высновы, што тут было дапаможнае Верхняму замку ўмацаванне ў выглядзе абарончай сцяны, магчыма, з вежамі[146].

У некаторых дарэвалюцыйных працах упамінаецца замак на левым беразе Нёмана. Яго збудавалі крыжакі ў 1392 г. з дазволу князя Вітаўта і ўвялі туды гарнізон. Відавочна, ордэн дабіўся дазволу на будаўніцтва ў абмен за дапамогу Вітаўту ў вайне з Ягайлам. Аднак у тым жа годзе Вітаўт гэты замак разбурыў[147].

Археалагічныя матэрыялы сведчаць аб упадку гарадскога жыцця ў канцы 13—14 ст. М. М. Воронін адзначае «выключную беднасць і адрывачнасць» рэчавага матэрыялу 13—14 стст. з раскопак на Старым замку[148]. Відавочна, у гэты час прыпыніўся далейшы рост горада.

Асноўная пасадская тэрыторыя горада 14 ст. размяшчалася паміж замкам і рынкам (мал. 15). З поўначы і захаду тэрыторыя Гродна абмяжоўвалася Нёманам і Гараднічанкай. Добра вядомы дакумент — грамата 1389 г., выдадзеная князем Вітаўтам гарадзенскім яўрэям, утрымлівае самыя раннія звесткі аб планіроўцы пасада. У ёй упамінаецца кірмаш, вуліца да рынку, «вуліца з замкавай вуліцы да Падолу», Малая царква каля замка, каталіцкія могілкі, касцёльныя ўчасткі, сінагога на ўчастках над Гарадніцай, яўрэйскія могілкі. Вызначыць прыкладныя межы гарадской тэрыторыі ў канцы 14 — пачатку 15 ст. можна па размяшчэнню

[145] ПСРЛ. Т. 32. С. 67.
[146] Wojcechowski J. Stary zamek w Grodne. S. 134.
[147] Историческое описание города Гродно. Гродно, 1860. С. 10—11.
[148] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 165.

могілак. Праваслаўныя могілкі знаходзіліся на Падоле, каталіцкія — каля касцёла, а яўрэйскія — на беразе Гараднічанкі. Відавочна, у гэты час склалася планіроўка заходняй часткі горада, з'арыентаваная на замак, якая захоўвалася і ў наступныя часы. У горадзе канца 14 — пачатку 15 ст. вядомы наступныя асноўныя збудаванні: замкі Верхні і Ніжні, царква Барыса і Глеба на правым беразе Гараднічанкі, цэрквы Прачысценская і Малая на пасадах, адпаведна на ўсход і паўночны ўсход ад Верхняга замка, Верхняя царква на Верхнім замку, Васкрасенская (?) на Ніжнім замку (усе мураваныя), драўляныя касцёл і сінагога. У гэты час ужо існаваў кірмаш на тым самым месцы, дзе знаходзіўся і пазней (зараз Савецкая плошча), а таксама, магчыма, былі ўмацаванні вакол пасада.

Несумненна, што ў 2-й палове 13—14 ст. вялікі ўплыў на жыццё Гродна аказвала знешняя пагроза з боку крыжакоў. Горад неаднаразова быў аб'ектам нападу, спальваўся і разбураўся. Зразумела, што ў такіх умовах задачы абароны выклікалі неабходнасць умацавання акрамя замку яшчэ пасаду. Тым больш, што асаблівасці рэльефу гэтаму спрыялі. Абрывістыя берагі Нёмана і Гараднічанкі самі па сабе стваралі прыродную абарончую лінію з поўдня і поўначы. Глыбокі яр прыкрываў вакольны горад з усходу. Дастаткова было злучыць лініяй умацаванняў гэты яр з берагам Гараднічанкі, каб атрымалася сістэма кругавой абароны. Адна з вуліц 16 ст., што падыходзіла да яру, называлася «ад рова да перавозу».

У 17 ст. пасля ўзяцця горада войскам Аляксея Міхайлавіча падобнае мерапрыемства было ажыццёўлена, але ў большых маштабах. Лінія ўмацаванняў злучыла берагі Нёмана і Гараднічанкі далей на ўсход.

На планах горада 17—19 стст., а таксама на планерэканструкцыі А. Д. Квітніцкай на 1560 г. (мал. 16) добра заметныя вуліцы, якія плаўнай дугой ідуць ад яру да берага Гараднічанкі якраз у тым месцы, дзе, найверагодней, маглі быць умацаванні 14 ст. На тых жа планах яскрава прасочваецца розніца ў планіроўцы заходняй і ўсходняй частак горада. Першая — больш кампактная, вуліцы ў ёй радыяльна сыходзяцца да замка, другая размешчана свабодна. Прычыну шчыльнасці забудовы заходняй часткі горада мы бачым у вы-




16. г. Гродна. Рэканструкцыя планіроўкі на 1560 г. А. Д. Квітніцкай. *1* — рынак; вуліцы: *2* — Віленская, *3* — Калючынская, *4* — Мірсніцкая, *5* — вуліца, якая ідзе міма дома Яна Хайноўскага да вады, *6* — Азёрская, *7* — Новаікоўская вуліца з той вуліцы Азёрскай, *8* — вуліца, якая ідзе з той вуліцы Азёрскай, *9* — Дзям'янаўская, *10* — Аліскоўская вуліца з той вуліцы Дзям'янаўскай, *11* — з рынка на Падол, *12* — Златарская, *13* — Яўрэйская вуліца з рынка да замка, *14* — Школьная, *15* — Цесная вуліца з вуліцы Вялікай Замкавай, *16* — над ровам Гарадніцы, *17* — Плебанская, *18* — Нямецкі рынак, *19* — вуліца з Нямецкага рынка да рэчкі Гарадніцы, *20* — вуліца з боку Нямецкага рынка да Віленскай вуліцы, *21* — Вялікая да маста на Падоле, *22* — ад рова да перавоза, *23* — вуліца на беразе Нёмана, *24* — вуліца міма двара пана Халецкага да Нёмана, *25* — ад Нёмана да царквы Праўдзівага крыжа, *26* — Плутніцкая, *27* — вуліца за Вараб'ём, *28* — вуліца ад Філімона, *29* — Садоўніцкая, *30* — рынак,. *31* — Горніцкая, *32* — Навадворская, *33* — Лабеньская, *34* — Рабіёўская; *А* — замак; *Б* — Каралеўскі дом; *В* — мост да Каралеўскага дома; цэрквы: *Г* — саборная Прачысценская (Прасвятой Багародзіцы), *Д* — Васкрасенская, *Е* — Малая царква і праваслаўны манастыр, *Ж* — Праўдзівага крыжа; *З* — могілкі і капліца саборнай царквы; цэрквы: *И* — Сямёнаўская (?), *К* — Траецкая, *Л* — Мікалаеўская, *М* — Барысаглебская; *Н* — фарны касцёл і каталіцкія могілкі; *О* — касцёл св. Духа; *П* — сінагога; *Р* — яўрэйскія могілкі; *С* — ратуша; *Т* — лаўкі; *У* — карчма; *Ф* — каралеўскія стайні; *Х* — мост цераз Нёман; *Ц* — перавоз; *Ч* — звярынец; *Ш* — Курган

мушаным размяшчэнні пасада 14 — пачатку 15 ст. на невялікай тэрыторыі, абмежаванай умацаваннямі. У гэты час цэнтрам, вакол якога фарміраваўся Гродна, быў Стары замак.

У горадзе неаднаразова ўзнікалі пажары, часцей за ўсё пад час вайны. У 1398 г. пры вялікім пажары ў замку ледзь не згарэў князь Вітаўт [149]. Відавочна, якраз сляды гэтага пажару выяўлены М. М. Вароніным у слоі канца 14 — пачатку 15 ст. [150]

З 15 ст. пачаўся новы этап развіцця планіроўкі Гродна. Болей за дзвесце гадоў (да сярэдзіны 17 ст.) горад абыходзіўся без знешніх умацаванняў і развіццё вулічнай сеткі вызначалася галоўным чынам горадабудаўнічымі традыцыямі таго часу і асаблівасцямі рэльефу. Горад рос у асноўным ва ўсходнім кірунку паміж рэчышчамі Нёмана і Гараднічанкі. Галоўным фактарам, які вызначаў фарміраванне вулічнай сеткі Гродна ў 15—17 стст., быў накірунак дзвюх гандлёвых дарог з Вільні на Варшаву і з усходу, са Смаленска, на захад. Ва ўсходняй частцы горада размяшчэнне вуліц увязана з напрамкам гэтых шляхоў. Рэгулярная форма галоўнага гарадскога рынку вызначылася, на думку А. Д. Квітніцкай, хутчэй за ўсё ў канцы 15 — сярэдзіне 16 ст., калі былі збудаваны фарны касцёл і карчма [151]. Магістралі падыходзілі да рынку з вуглоў, каб пад час кірмашу не ўскладняўся праезд праз рыначную плошчу [152].

Да канца 15 ст. адносіцца першае дакументальнае сведчанне аб наяўнасці занёманскага пасада. У прывілеі на Магдэбургскае права, выдадзеным у 1496 г., гаворыцца, што гарадское ўпраўленне па Магдэбургскаму праву распаўсюджваецца і на гараджан, якія жывуць за Нёманам, і на падалян, а таксама на людзей, што пражываюць у дварах феадалаў [153]. Прывілей называе гарадскія грамадскія пабудовы, якія гораду дазвалялася ўзводзіць «у падыходзячых месцах». Гэта млын, камяніца для размяшчэння вагаў і васкабойні, лазня

---

149 Орловский Е. К. Гродненская старина. С. 26—33.
150 Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 160.
151 Квитницкая Е. Д. Центры городов Белоруссии в XVI — первой половине XIX в. С. 29—30.
152 Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно. С. 14.
153 АВАК. Т. 7. С. 60.







17. Гравюра г. Гродна 1568 г. (выканаў М. Цюндт у г. Нюрнбергу па малюнку Г. Адэльгаўзера)

і ратуша. Вядома месцазнаходжанне толькі ратушы (на рынку). Аб млыне гаворыцца, што яго можна збудаваць на р. Нёман. У дакуменце ўпамінаюцца тры карчмы (якія на той час ужо існавалі), але іх месцазнаходжанне не выяўлена. У прывілеі згадваецца яшчэ адно грамадскае збудаванне — «месца, дзе караюць злачынцаў, інакш шыбеніца», якая размяшчалася на некаторым аддаленні ад горада, каля гарадскога лугу. На гравюры М. Цюндта, выкананай на 72 гады пазней, шыбеніца паказана на ўзгорку за ўсходняй ускраінай горада [154].

Каля 1480 г. упершыню ў дакументах упамінаецца царква Праўдзівага крыжа на Падоле [155]. Стары раён горада паміж замкам і рынкам у 15—16 стст. заставаўся без істотных змен. Умацаванні 14 ст., відавочна, у гэты час былі знесены і таму не абазначаны на планах 17—18 стст. Пастунова прыходзіць у заняпад і разбураецца Ніжні замак. На гравюры 1568 г.на яго месцы відаць толькі рэшткі сцен.

З дакументаў 16 ст. вядома аб існаванні ў гэты час у горадзе калодзежа і водаправода [156]. У 1579 г. Стэфан Баторый даў прывілей на пабудову карчмы на рынку [157].

Аб планіроўцы Гродна ў 16—18 стст. мы можам гаварыць болей акрэслена дзякуючы значна большай колькасці (у параўнанні з папярэднім перыядам) пісьмовых крыніц. Асноўнай з іх з'яўляецца «Валочная памера горада Гродна з валасцямі, якія да яго належаць», складзеная ў 1560 г.

Крыніцай па планіроўцы можа служыць гравюра Гродна 1568 г. (мал. 17). На ёй паказана частка горада, размешчаная на краі і схіле рачной тэрасы, і занёманскі пасад. Адразу трэба адзначыць недакладнасць малюнка. Нёман на гравюры цячэ ў адваротны бок, Каложская царква змешчана не на тым беразе. Акрамя таго, патрэбна ўлічваць скажэнне перспектывы. Прачысценская царква знаходзіцца амаль на адной лініі з Новым замкам і рату-

[154] Lüneburger Beiträge zur Vedutenforschung. Lüneburg, 1983. S. 103—107.
[155] Вестник Западной России. Вильна, 1866. 4. Кн. 5. Т. 2. Отд. 2. С. 62.
[156] АВАК. Т. 7. С. 75.
[157] Там жа. С. 93.

шай, што не адпавядае рэчаіснасці. Гравюра не можа даць цэласнага ўяўлення аб усёй планіровачнай структуры горада. Меркаваць аб планіроўцы мы можам галоўным чынам па дзвюх вуліцах, што знаходзяцца ў цэнтры выявы. Гэта вуліцы Вялікая (Маставая) і «вуліца на беразе Нёмана» (Падольная). Іх размяшчэнне падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Маставая ад цэнтра горада выходзіць да ракі па найбольш зручнай палогай лагчыне. Мост пастаўлены якраз насупраць гэтай лагчыны. Падольная вуліца цягнецца паралельна лініі берага. Па гравюры можна прасачыць планіроўку сядзібных участкаў. Вельмі цесна размешчаныя жылыя будынкі выходзяць на вуліцу. За імі відаць вольныя ад забудовы ўчасткі. Агароджа сядзіб уяўляе сабой астрог з бярвенняў, шчыльна, адно да другога, убітых у зямлю. Галоўнай архітэктурнай дамінантай з'яўляецца ратуша, што падкрэслівае яе значэнне як цэнтра горада.

Найбольш грунтоўна над вывучэннем планіроўкі Гродна 16—18 стст. працавала А. Д. Квітніцкая. Яе рэканструкцыя на 1560 г. стала магчымай дзякуючы стабільнасці планіровачнай структуры (мал. 16). Назвы вуліц і ўчасткаў супастаўляліся з данымі больш позніх планаў горада, у першую чаргу з планам 1870 г. Выкарыстанне пісьмовых крыніц, вывучэнне дзвюх гравюр з панарамай горада (16 і 17 стст.) дазволіла стварыць даволі пераканаўчы малюнак. Аднак выкарыстанне даных археалогіі, а таксама матэрыялаў тагачасных гарадскіх устаноў дазваляе ўнесці дапаўненні, прапанаваць іншае, на наш погляд, больш дакладнае вытлумачэнне некаторых дэталяў.

Па апісанню ў дакументах валочнай памеры горад у 2-й палове 16 ст. складаўся з дзвюх няроўных частак: Старога горада, размешчанага на правым беразе Нёмана, і Новага горада — левабярэжная частка. У Старым горадзе было 24 вуліцы, у Новым — 4. Усяго налічвалася 712 пляцаў, з іх большая частка належала мяшчанам-хрысціянам, 56 пляцаў былі ў валоданні яўрэяў. У старой частцы горада было два рынкі: галоўны (з ратушай) і Нямецкі. Трэці рынак размяшчаўся ў Новым горадзе. Пад гарадской юрысдыкцыяй знаходзілася 17 вёсак. У пачатку 16 ст. за імі лічылася больш за 418 валок (каля 9 тыс. га) зямлі [158].

[158] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 1. С. VII.

Велікакняскія камісары пачалі апісанне горада з цэнтра — рынку. У А. Д. Квітніцкай ратуша змешчана на вуглу вуліцы Замкавай і гандлёвай плошчы, а лаўкі — у цэнтры рынку. На наш погляд, больш верагодным уяўляецца размяшчэнне ратушы з прыбудаванымі да яе лаўкамі ў цэнтры плошчы, як гэта было, напрыклад, у Нясвіжы або ў тым жа Гродна ў 18 ст. У тэксце мы знаходзім наступнае апісанне: «рынак старадаўні, на каторым ёсць ратуша, крамы мясныя, хлебныя і розных вырабаў»[159]. Плошча яго складала каля 1,5 га. На вуглу рынку і вуліцы Віленскай размяшчалася карчма — гарадская гасцініца. Гэты грамадскі будынак займаў плошчу ў 3 прэнты (71,1 кв. м)[160]. Ад вугла рынку на паўночны ўсход вяла вуліца Віленская (адна з дзвюх галоўных), якая за горадам пераходзіла ў віленскую дарогу. Такое ж значэнне мела вуліца Азёрская, што ад рынку выводзіла на ўсходнюю ўскраіну горада да смаленскай дарогі. Назву яна атрымала ад мястэчка Азёры, размешчанага ў 20 км ад горада. Менавіта такое размяшчэнне вуліц — у адпаведнасці з напрамкам важнейшых гандлёвых шляхоў — вызначыла іх галоўную ролю ў фарміраванні вулічнай сеткі. Астатнія вуліцы ва ўсходняй частцы горада ўтварыліся з улікам накірунку дзвюх галоўных і пралягалі паралельна або перпендыкулярна ім. Вуліцы ва ўсходняй частцы былі забудаваны свабодней, чым у заходняй. Тут намнога больш зямлі адводзілася пад агароды. Напрыклад, на вуліцы Вялікай, размешчанай у заходняй частцы горада, на 16 пляцаў прыходзілася 8,5 прэнтаў (або 201,45 кв. м), а на Дзям'янаўскай (ва ўсходняй частцы) на 20 пляцаў — 69,5 прэнтаў (2587,15 кв. м) агароднай зямлі[161]. Калі параўнанне працягваць, малюнак становіцца яшчэ выразней. Улічыўшы шматгадовую стабільнасць памераў участкаў, можна меркаваць, што ў заходняй частцы горада адчуваўся недахоп свабодных плошчаў, бо сядзібы размяшчаліся на тэрыторыі, абмежаванай умацаваннямі.

Да пераправы ад рынку выводзіла вуліца «Вялікая да маста на Падоле». Размяшчэнне маста на рэканструкцыі А. Д. Квітніцкай выклікае пярэчанні. На планах

[159] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 27.
[160] Прэнт — сярэднявечная адзінка вымярэння плошчы, роўная прыблізна 23,7 кв. м.
[161] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 36—37, 46.

18 ст. мост паказаны не насупраць Новага замка (як на рэканструкцыі), а трохі вышэй па цячэнню ў тым месцы, дзе да берага выходзіла вуліца Вялікая, гэтак жа, як і на гравюры 1568 г.

Паўночна-ўсходнюю частку Старога горада ад вусця Гараднічанкі і ўверх па цячэнню займала яўрэйскае насельніцтва. Яно засяляла вуліцы Замкавую, Школьную, Цесную, «над равом Гарадніцы», і вуліцу з Нямецкага рынку да рэчкі Гарадніцы. У гэтай частцы горада знаходзіўся так званы Нямецкі рынак. Да часу складання памеры ён ужо не выкарыстоўваўся і таму яго ўчасткі прыпісваліся да бліжэйшых вуліц [162]. Плошча рынку, мяркуючы па апісанню, складала 16 прэнтаў (384 кв. м).

У занёманскай частцы горада было чатыры вуліцы: Горніцкая, Навадворская, Лабеньская і Рабіёўская. На левым беразе Нёмана размяшчаўся звярынец [163]. Тут жа быў рынак квадратнай формы памерам прыблізна 120×120 м. На думку А. Д. Квітніцкай, на ім адбываўся аптовы гандаль. У апісанні гэтай часткі горада сустракаюцца звесткі аб дарогах, што выходзяць з месца, і ўказваецца нават іх шырыня. Так, дарога да Адэльска, да Новага двара, была шырынёй каля 10 м, Кузніцкая — каля 15 м. Пры сядзібах левабярэжнай часткі горада меліся самыя вялікія агароды.

У матэрыялах па валочнай памеры адсутнічаюць звесткі аб уладаннях святароў, так як яны не абкладваліся падаткамі. Няма ў апісанні інфармацыі і аб культавых збудаваннях, акрамя царквы Праўдзівага крыжа. Указваецца, што царквой занята 1,5 прэнта зямлі, ці ўсяго 35,5 кв. м. З апісання, прыкладзенага да гравюры выдання 1572 г., вядома, што храм быў круглым, як і паказана на гравюры. А. Д. Квітніцкая выказала меркаванне, што царква была збудавана з вертыкальных брусоў, абшытых дошкамі [164]. Валочная памера сведчыць, што пяці гродзенскім праваслаўным цэрквам у вёсцы Альшанка належалі па дзве валокі (42, 47 га) зямлі (Васкрасенскай, Праўдзівага крыжа, св. Мікулы, Сямёнаўскай, Прачысценскай). У апісанні 1572 г. гаворыцца, што ў горадзе было тры мураваныя царквы, каменны касцёл і некалькі драўля-

162 Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 44.
163 Там жа. С. 62.
164 Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно. С. 22.

ных храмаў. Месцазнаходжанне іх вызначана А. Д. Квітніцкай. Да пачатку 16 ст. належаць звесткі аб рамонце Барысаглебскай царквы, якая да гэтага некалькі дзесяткаў гадоў стаяла ў запусценні [165]. Па археалагічных даных, яшчэ раней у 15 ст. рамантавалася Прачысценская царква [166].

Усяго ў Гродне ў 16 ст. вядома шэсць мураваных праваслаўных храмаў: Прачысценская царква — саборная, Барысаглебская, так званая Верхняя, Васкрасенская, так званая Малая, капліца на могілках, а таксама два мураваныя касцёлы (фарны і Святога Духа). Не вызначана Сямёнаўская царква. Такую назву маглі насіць Малая царква або капліца, а магчыма, гаворка ідзе аб асобным храме. Акрамя названых, у горадзе былі і драўляныя цэрквы — Праўдзівага крыжа і Мікалаеўская, а таксама Траецкая царква, аб якой невядома, была яна драўлянай ці мураванай. З дрэва была збудавана і гродзенская сінагога.

Царкоўныя ўладанні ў горадзе пастаянна раслі за кошт дараванняў, куплі, атрымання тэстаментных земляў і г. д. Зямельныя ўчасткі, што належалі святарам, размяшчаліся ва ўсіх частках горада. Разам з зямлёй у валоданне царквы пераходзіла і насельніцтва, якое на іх жыло. Напрыклад, у прывілеі 1633 г. Уладзіслава IV смаленскаму епіскапу на гродзенскі манастыр Барыса і Глеба гаворыцца аб пераходзе да епіскапа «... таксама і мяшчан Каложанскіх пры манастыры будучых з цагельнямі і з усім грунтам...» [167] З гэтага ўрыўка мы можам вызначыць, што печы для абпалу цэглы ў 17 ст. размяшчаліся на правым беразе Гараднічанкі, на каложскім пасадзе. І зараз у гэтым раёне маецца вуліца Цагельная. Упамінанне аб цагельнях сустракаецца і ў апісанні занёманскага пасада. Вуліца Рабіёўская праходзіла «над ракой Нёманам» насупраць цагельняў [168]. Гэта азначае, што вытворчасць цэглы вялася і на Падоле.

У гарадскіх актах 17 ст. часта ўпамінаюцца таксама царкоўныя ўчасткі і на Падоле. На іх было многа «... уся-

[165] Археографический сборник документов, относящихся к истории северо-западной Руси. Т. 9. С. 419.
[166] Чарняўскі І. М., Жаровіна Г. П. Нечаканае адкрыццё. С. 35.
[167] АВАК. Т. 1. С. 59.
[168] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 63.

лякіх будынкаў з комінамі мураванымі, з печамі, вокнамі, усялякімі жалезамі і ўсялякім начыннем ... з парканам»[169].

На гравюры ва ўсходняй частцы горада відны каралеўскія канюшні. Аднак ёсць падставы меркаваць, што на самой справе яны размяшчаліся далей, чым паказаны на гравюры. Важным збудаваннем дзяржаўнага значэння быў мост праз Нёман. У апісанні да гравюры ўпамінаюцца неўмацаваныя гарадскія брамы.

Пад час праўлення Стэфана Баторыя (1576—1586) на месцы замка Вітаўта быў збудаваны новы, ад якога да нашых дзён захаваўся неаднаразова перабудаваны палац. Дакладных звестак аб планіроўцы замкавых пабудоў у нас няма. Рэканструкцыя, прапанаваная Я. Вайцэхоўскім, заснавана на вывучэнні планаў 18 ст. і інвентарных вопісаў 17 ст. Ужо ў 17 ст. знешні воблік замка моцна адрозніваўся ад першапачатковага. На месцы Ніжняга замка быў збудаваны каралеўскі дом, які бачны на гравюры. У апісанні гравюры гаворыцца, што горад не абнесены сцяной і што ён не мае перад сабой умацаванняў. У ім мала цагляных дамоў.

Участкі гараджан звычайна мелі ў плане форму, блізкую да прамавугольніка або выцягнутай трапецыі. На вуліцу выходзіў вузкі бок участка. Зямельны надзел складаўся з дзвюх частак: сядзібнай і агароднай. Паводле валочнай памеры можна прасачыць плошчу гарадскіх сядзіб 16 ст. (мал. 18) і зрабіць пэўныя высновы аб маёмасным стане іх уладальнікаў. Каля 11,7 працэнта жыхароў Старога горада мелі сядзібы плошчай у 0,5 прэнта (каля 12 кв. м). На такім участку магло змясціцца толькі невялікае аднакамернае збудаванне. Драўляныя жылыя дамы 16 ст. такой жа плошчы адкрыты А. А. Трусавым і М. А. Ткачовым на Старым замку. Па аналагах з імі можна меркаваць, што гарадскія пабудовы плошчай 0,5 прэнта мелі памеры прыблізна 3×4 м. Драўляныя аднакамерныя збудаванні сярэдзіны 16 ст. з Ноўгарада (Нераўскі раскоп) блізкія па памерах гродзенскім. Чатыры пабудовы з Нераўскага раскопа маюць памеры 4×3,2; 3,4×3,1; 4×3,2; 3,5×4 м[170].

---

169 АВАК. Т. 1. С. 354.

170 Колчин Б. А. Топография, стратиграфия и хронология Неревского раскопа // МИА. № 55. С. 50.




18. Памеры сядзіб правабярэжнай часткі г. Гродна ў 1560 г. (у прэнтах): *1*—0,5 (11,8 кв. м); *2*—1 (23,7 кв. м); *3*—1,5 (35,55 кв. м); *4*—2 (47,4 кв. м); *5*—2,5 (59,25 кв. м); *6*—3 (71,1 кв. м); *7*—3,5 (82,95 кв. м); *8*—4 (94,8 кв. м); *9*—4,5 (106,65 кв. м); *10*—5 (118,5 кв. м); *11*—5,5 (130,35 кв. м); *12*—6 (142,2 кв. м); *13*—6,5 (154,05 кв. м); *14*—7 (165,9 кв. м); *15*—8 (189,6 кв. м); *16*—9 (213,3 кв. м); *17*—10 (237 кв. м); *18*—11 (260,7 кв. м); *19*—12 (284,4 кв. м)

Значную частку сядзіб складалі надзелы плошчай у 1—1,5 прэнта (23,7 і 35,5 кв. м). На такой плошчы маглі змясціцца два невялікія збудаванні па 12 кв. м і маленечкі дворык або жылы дом з прыбудовамі. На гравюры 1568 г. бачны таксама двухпавярховыя дамы. Па апісанню ў дакументах валочнай памеры нельга вызначыць, з якой колькасці пабудоў складаліся сядзібы гараджан. Звычайна ўказвалася імя, прозвішча ўладальніка і колькасць прэнтаў сядзібных і агародных. У другіх выпадках гаворыцца аб двары, доме або пляцы, напрыклад, «дом Мадэста Немца» і г. д. Мяркуючы па гравюры, жылыя будынкі гараджан мелі разнастайныя прыбудовы, а значыць, па вопісу маглі праходзіць як адзін дом. Большасць збудаванняў былі драўлянымі, у той жа час на гравюры выразна вылучаюцца таксама дамы фахверкавай канструкцыі. Добра прыкметны круглыя шыбы ў вокнах; па малюнку можна вывучыць канструкцыю пад'ёмніка вады ў студні, павозкі і г. д.

У 17 ст. значных змен у планіроўцы горада не адбылося. Як выключэнне трэба разглядаць збудаванне рускімі войскамі земляных умацаванняў вакол правабярэжнай часткі горада, пасля заняцця імі Гродна ў 1655 г.

Пэўны ўплыў на фарміраванне вобліку горада мела будаўніцтва касцёлаў і кляштараў каталіцкіх ордэнаў, якое разгарнулася пасля Брэсцкай царкоўнай уніі (мал. 19). У 1621 г. закладзены мураваны касцёл і кляштар бернардзінак [171]. Мужчынскі бернардзінскі касцёл заснаваны яшчэ раней, у 1595 г. 1633 г.— дата заснавання дамініканскага касцёла і кляштара, 1635 г.— францысканскага касцёла і кляштара за Нёманам, 1634 г.— касцёла і кляштара св. Брыгіты. У 1647 г. заснаваны езуіцкі касцёл, буйнейшы па памерах у Заходняй Беларусі [172]. Амаль усе яны захаваліся да нашых дзён, за выключэннем дамініканскага і жаночага бернардзінскага. Усе названыя касцёлы і кляштары былі збудаваны ў месцах, найбольш зручных у камунікацыйных адносінах, каля галоўных вуліц. Дамініканскі касцёл збудаваны каля Віленскай вуліцы, брыгіцкі — каля Азёрскай, бернардзінскі — каля вуліцы «з рынку на Падол», езуіцкі — каля рынку. Так як гэтыя месцы былі даўно заселеныя, то іх выкупілі магнаты

[171] Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI — XVIII вв. С. 29.
[172] Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. С. 279.




19. Размяшчэнне будынкаў каталіцкіх ордэнаў у г. Гродне ў 2-й палове 17 ст.: *1* — бернардзінскі кляштар; *2* — кляштар бернардзінак; *3* — дамініканскі кляштар; *4* — кляштар брыгітак; *5* — езуіцкі касцёл і калегіум; *6* — кляштар францысканцаў

і перадалі манахам. Такім чынам, з-пад ведама магістрата выйшла значная колькасць гарадской тэрыторыі. Размешчаныя на асноўных пад'ездах да цэнтра горада, новыя касцёлы выдзяляліся сваімі формамі і памерамі на фоне радавой забудовы. Пры езуіцкім касцёле былі збудаваны калегіум і школы, пры дамініканскім — шпіталь (багадзельня).

Наўрад ці можна пераацэньваць ваеннае значэнне кляштараў і разглядаць іх як крэпасці, якія кантралявалі вузлавыя пункты горада [173]. Акружаныя мураванымі сце-

[173] Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI — XVIII вв. С. 29; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. С. 279.

намі гродзенскія манастыры маглі вытрымаць кароткачасовую аблогу з ужываннем ручной агнястрэльнай зброі, але не супрацьстаяць артылеры.

Пад час вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай у 1654—1667 гг. горад моцна пацярпеў. Частка яго згарэла, разбурана ратуша, і магістрат быў вымушаны збірацца на пасяджэнні ў прыватных дамах.

Трэба адзначыць, што ў 17 ст. вялося таксама будаўніцтва грамадзянскіх мураваных будынкаў. Па матэрыялах камісарскай рэвізіі 1675 г. дакументаў, пляцаў і прыбыткаў Гродна вядома 19 мураваных будынкаў (не культавых), размешчаных у Старым горадзе. З іх 14 размяшчаліся на вуліцы Замкавай, 3 на рынку, па аднаму на Бернардзінскай (былая Дзям'янаўская) і Азёрскай вуліцах [174].

У 17 ст. страціў ранейшае ваеннае значэнне і знаходзіўся ў занядбаным стане гродзенскі каралеўскі замак. Інвентарныя вопісы ў спалучэнні з археалагічнымі матэрыяламі дазваляюць скласці ўяўленне аб яго планіроўцы. З боку горада да замка вялі два масты. Па першаму можна было трапіць з пасада на пляцоўку былога Ніжняга замка. Мост гэты быў драўляны, падтрымліваўся пяццю мураванымі апорамі і заканчваўся брамай. За брамай (злева пры ўваходзе) знаходзілася мураваная турма з дубовымі дзвярыма. Праход ад брамы да другога моста быў абнесены агароджай. Другі мост, які выводзіў непасрэдна да замка, быў мураваным, з 16 вежкамі па баках. Брама-вежа, закрытая вялікімі драўлянымі варотамі з весніцамі, замыкалася вялікім унутраным замком. З апісання памяшканняў вежы можна вывесці, што тут раней быў пад'ёмнік [175]. Магчыма, гаворка ідзе пра механізм пад'ёмнага моста. З аднаго боку да вежы прымыкала мураваная сцяна, з другога — драўляная агароджа. З апісання замкавага двара відаць, што ён быў шчыльна забудаваны драўлянымі жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. Яны займалі заходнюю палову і цэнтр замкавага двара. Ва ўсходняй і паўднёваўсходняй частцы размяшчаўся каралеўскі палац. Да яго вёў ганак, крыты гонтам, з лесвіцай з чэсанага каменя. Той факт, што ганак пачынаўся адразу ад дзвярэй адной з драўляных пабудоў, сведчыць аб шчыльнасці забудовы:

[174] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 185—197.
[175] Там жа. С. 12.

«Выйшаўшы назад з таго памяшкання па правую руку каля самых дзвярэй пачынаецца ганак, абабіты гонтам, які ідзе наверх»[176]. Драўляныя пабудовы абносіліся агароджамі. Некаторыя збудаванні былі двухпавярховымі. Частка будынкаў мела печы з зялёнай паліванай кафлі. Даныя археалогіі цалкам супадаюць з інвентарным апісаннем. З раскопак 1986—1987 гг. А. А. Трусава і М. А. Ткачова вядома, што пабудовы на замкавым двары размяшчаліся вельмі шчыльна. Памеры двух ускрытых збудаванняў прыкладна 3×4 м. Агароджы рабіліся з тоўстых колатых бярвенняў, якія ставіліся вертыкальна ўпрытык адно да другога. Яны захаваліся на вышыню да 0,7 м. Бярвенні паміж сабой не злучаны. Відавочна, яны проста забіваліся ў глебу. Праходы паміж будынкамі вымошчваліся абрэзкамі дошак. Двары насцілаліся дошкамі на брусах чатырохвугольнага сячэння. Па знаходках бытавых рэчаў можна меркаваць, што ў гэтых пабудовах жыла замкавая абслуга.

З інвентарнага вопісу 1650 г. магчыма вызначыць наяўнасць у замку больш за два дзесяткі пабудоў (дакладна палічыць іх не дазваляе неакрэсленасць у апісанні). Вядома прызначэнне некаторых з іх. У паўночнай частцы замка знаходзілася ядальня. Тут жа ў адной з камер размяшчаўся ваенны рыштунак. Усяго па вопісу са зброі і даспехаў у замку было шэсць вялікіх гармат, 902 цэлыя і дзве паламаныя мушкетныя рулі, ложамент для гарматы і 2 старыя колы, 420 пярэдніх палавін панцыра і 698 задніх, 1994 накаленнікі, 193 рукаяткі ад шпаг, 54 абломкі шпаг з фардыментамі, 92 абломкі шпаг, 27 фардыментаў і 230 пар нашыйнікаў да панцыра, 88 розных сталёвых штучак, 34 пярэднія рэйтарскія бляхі, 3048 шышакоў, 4 алебарды, 1800 бандалетаў, 400 паясоў да бандалетаў і 2 пары вялікіх абцугоў[177].

У паўночнай частцы замка знаходзіўся архіў. У будынках, узведзеных на мысе пры ўпадзенні Гараднічанкі ў Нёман і прымыкаўшых да замкавай сцяны, размяшчаліся кухня і жыллё кухараў. Упамінаецца ў дакуменце знесеная старая вежа (відавочна, вежа на мысе). Перад названымі пабудовамі было чатыры хлявы для дроў, адзін для захавання дахоўкі і адзін карэтны. Памяшканні былі пры-

[176] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 3.
[177] Там жа. С. 12.

будаваны да замкавай сцяны з боку Нёмана. У адным з іх знаходзіліся дзве мерніцы і лазня. Каля заходняй сцяны размяшчаўся «вялікі стары дом» (магчыма, на месцы княскага церама 12 ст.). Па вопісу ён таксама быў драўляным. З поўдня ад дома да замкавай сцяны прымыкала стайня на 32 кані. Яна была выцягнутая па лініі захад — усход. Відавочна, усходняя яе частка адкрыта А. А. Трусавым і М. А. Ткачовым. З вопісу відаць, што замак знаходзіўся ў занядбаным стане. Часта пад час апісання пабудоў, дзвярэй, вакон, рознага рыштунку складальнікі дакумента гаварылі аб неабходнасці рамонту. З іншых дакументаў вядома, што ў 17 ст. у замак вазілі ваду. Па Нёману дастаўлялася дрэва для патрэбаў замка[178].

У крыніцах 17—18 стст. сустракаецца ўпамінанне кургана, «у канцы горада Гродны размешчанага»[179]. Курганская вуліца абазначана на планах горада канца 18 — пачатку 19 ст. Можна пагадзіцца з меркаваннем М. М. Вароніна аб існаванні ў гэтым месцы прыгараднага курганнага могільніка. Прыблізнае месцазнаходжанне гэтага ўрочышча паказана на плане-рэканструкцыі А. Д. Квітніцкай. У літаратуры маецца апісанне храналогіі тапаграфічнага развіцця Гродна, прапанаванай польскім даследчыкам С. Шыманьскім[180]. Грунтуючыся на плане горада 1753 г., ён прапанаваў падзяліць перыяд развіцця Гродна з 14 па 18 ст. уключна на тры фазы. Першая — ад Крэўскай уніі 1385 г. і атрымання горадам магдэбургскіх правоў да ўключэння яго ў склад Рэчы Паспалітай. Яна характарызуецца пераўтварэннем гарадскога цэнтра Гродна ў заходнееўрапейскі горад. Другая фаза пачынаецца з канца 16 ст. і працягваецца да 1673 г. (прыняцце рашэння аб правядзенні ў Гродне сеймаў). Яна звязана з пранікненнем у горад каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Трэцяя прыходзіцца на 18 ст. і звязваецца з правядзеннем у Гродне дзяржаўных сеймаў. На наш погляд, такое дзяленне на фазы мае грунтоўнасць, хоць і з'яўляецца даволі штучным. Так, можна пагадзіцца ў агульных рысах з вызначэннем пачатку першай фазы — канцом 14 — пачаткам

---

178 Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 171.
179 Там жа. С. 195, 287.
180 Szymański S. Urbanistyczno-architektoniczne formowanie się Grodna w okresie od XIV do XVIII wieku // Rocznik Bialostocki. Bialostok, 1970. T. 9. S. 237—263.

15 ст., аднак болей дакладна звязваць яго не з Крэўскай уніяй, а з Грунвальдскай бітвай. Другая, выдзеленая С. Шыманьскім фаза характарызуецца актыўным будаўніцтвам каталіцкіх касцёлаў і кляштараў. Аднак іх збудаванне ўвязвалася з існуючай планіроўкай горада і не прывяло да кардынальных змен гарадской планіровачнай структуры. Тое ж можна сказаць і аб будаўніцтве 18 ст., калі ўзводзяцца Новы замак, рэзідэнцыі феадалаў і вядуцца буйныя працы па ініцыятыве А. Тызенгаўза. Планіроўка горада засталася без змен, а будаўнічая дзейнасць Тызенгаўза разгортвалася ў прадмесці, за межамі асноўнай гарадской тэрыторыі. Такім чынам, выдзеленыя С. Шыманьскім фазы можна прыняць як этапы вялікага горадабудаўнічага перыяду, які працягваўся з пачатку 15 да канца 18 ст. Прычым калі першыя дзве фазы мелі месца ў развіцці і іншых гарадоў Беларускага Панямоння, то выдзеленая С. Шыманьскім трэцяя фаза — спецыфічна гродзенская.

Як адзначаюць даследчыкі, у дзяржаўных гарадах на тэрыторыі Беларускага Панямоння не праводзіліся буйныя горадабудаўнічыя мерапрыемствы. Гэта тлумачаць слабасцю цэнтральнай улады ў дзяржаве і ў сувязі з гэтым адсутнасцю адзінай улады ў гарадах [181]. Тым не менш у Гродне, як і ў іншых гарадах Беларускага Панямоння, мы знаходзім развітую планіровачную структуру,. якая склалася ў асноўным у 15—16 стст. Значную ролю ва ўтварэнні існуючай структуры горада адыграла якраз цэнтральная і мясцовая ўлада. Гэта добра ілюструецца дакументамі 16—17 стст. Уплыў на фарміраванне горада ажыццяўляўся шляхам рэгулявання гарадской забудовы, прычым яно праводзілася пастаянна і настойліва.

Вызначалася плошча зямельных участкаў гараджан, ажыццяўляўся кантроль за захаваннем межаў зямельных уладанняў, караліся пакушэнні на шырыню вуліц і г. д. Нягледзячы на адсутнасць акрэсленай мяжы, якой з'яўлялася, напрыклад, гарадская сцяна, горад рос не стыхійна. З земляў, прылягаючых да места, наразаліся новыя ўчасткі, і толькі потым іх засялялі. Вось, напрыклад, выпіска з актаў валочнай памеры: «...Вуліца наваўтвараная Месніцкая... ляжыць уздоўж з поўдня на поўнач, пер-

[181] Квитницкая Е. Д. Планировка Гродно в XVI — XVIII вв. С. 13.

шы бок ляжыць ад старой дарогі на Верцялішкі і ад вінакурняў яго каралеўскай мосці, другім бокам каля старых сядзібаў вуліцы Месніцкай. Пляцы па леваму боку тварам на заход сонца, а тылам на ўсход сонца... на ёй 12 пляцаў яшчэ не занятых» [182] (на рэканструкцыі А. Д. Квітніцкай гэтая вуліца адсутнічае, так як яе няма на пазнейшых планах). Асабліва прыкметна рэгуляванне гарадской забудовы праявілася на занёманскай частцы горада. Участкі зямлі, каторыя адводзіліся пад сядзібу, на ўсіх вуліцах аднолькавыя і складалі 2 або 2,5 **прэнта** (59,25 кв. м). Толькі некалькі ўчасткаў каля рынку мелі па 3 прэнты (71,1 кв. м), ды на вуліцы Рабіёўскай па 5,5 прэнта (130,35 кв. м).[183]

У прывілеі каралевы Боны 1541 г. гарадскім жыхарам загадвалася масціць камянямі рынак і вуліцы, кожнаму каля свайго дома, выбіраць штогод райцаў і лаўнікаў (магістрацкія пасады), якія павінны былі аглядаць дамы і ўказваць на неабходнасць рамонту і г. д. Перад кожным домам мусіла быць вада на выпадак пажару. Супрацьпажарнай бяспецы ў горадзе надавалася вялікае значэнне. Па дакументу 1675 г. магістрат абавязваўся прасачыць, каб былі разабраныя ўсе дахі з саломы, а дамы пакрыты гонтам або дранкай. У кожным дзесятым доме на рынку і на вуліцы павінен мецца крук. Коміны ва ўсіх дамах павінны быць з цэглы, пры іх каб былі лесвіцы, а перад дамамі стаялі бочкі з вадой. Аб выкананні ўсяго вышэйсказанага належала дакладаць магістрату кожны месяц. За невыкананне правілаў браўся штраф на карысць горада. У выпадку пажару ўсе гарадскія вадавозы абавязаны прыбыць да месца здарэння. За ўхіленне таксама накладваўся штраф. Бровары прадпісвалася перанесці за межы горада [184].

У памянёным ужо прывілеі 1541 г. загадвалася правесці да рынку водапravод і знайсці майстра для рамонту гарадскога гадзінніка [185]. Адпаведна каралеўскаму прывілею 1627 г. гараджане павінны былі зрабіць у горадзе маставую, браць мыта за праезд, а грошы пускаць на рамонт гэтай маставой [186].

---

[182] Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 2. С. 54—55.
[183] Там жа. С. 58—64.
[184] Там жа. С. 181—182.
[185] АВАК. Т. 7. С. 76—77.
[186] Там жа. С. 109.

## ПЛАНІРОЎКА НАВАГРУДКА, ВАЎКАВЫСКА, СЛОНІМА, ЛІДЫ І ІНШЫХ ГАРАДОЎ

**Навагрудак** (мал. 4, 20) — адзін з найстаражытных гарадоў Панямоння, упершыню ў летапісе ўпамінаецца пад 1252 г. Па археалагічных даных, самае ранняе паселішча на тэрыторыі сучаснага горада ўзнікла на ўзвышшы Малы замак не пазней канца 10 ст.[187] Затым прыблізна ў пачатку 11 ст. засяляецца суседняя Замкавая гара. У 12—13 стст. Навагрудак — развіты ўсходнеславянскі горад з багатай і арыгінальнай культурай [188]. Дзядзінец размяшчаўся на Замкавай гары, вакольны горад — на Малым замку. На пасадзе побач з вакольным горадам у 12 ст. будуецца Барысаглебская царква. Сляды горада эпохі Кіеўскай Русі знойдзены ля падэшвы Замкавай гары [189], на невялікім пагорку, дзе стаіць фарны касцёл 16 ст., і на пагорках на паўднёвы ўсход ад вакольнага горада [190].

У 13—14 стст. Навагрудак у якасці першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага быў важнейшым цэнтрам у сістэме абароны Панямоння, якое супрацьстаяла экспансіі спачатку галіцка-валынскіх князёў, а пазней крыжакоў. У 14 ст. горад па памерах, відавочна, быў ненамнога большым ці нават меншым, чым раней. Як і ў Гродне, маюцца вуліцы, якія дугой ахопліваюць тэрыторыю каля Замкавай гары і Малога замка. Магчыма, тут у 14 ст. праходзіла лінія ўмацаванняў. У познім сярэднявеччы галоўнай гарадской артэрыяй быў гандлёвы шлях з Вільні, які ўваходзіў з поўначы і каля замка падзяляўся на дзве галіны. Адна ішла праз Карэлічы, Мір на Мінск і Нясвіж, другая вяла на Палессе. Гарадскі кірмаш знаходзіўся якраз на гэтым разгалінаванні. Як і ў Гродне, ён утварыўся за межамі самай старажытнай тэрыторыі, што прылягае да замка. У плане кірмаш меў форму няправільнага трохвугольніка.

Акрамя вуліцы Віленскай праз дакументы 16 ст. вядомы вуліцы Падляшская, Кавальская, Дубатоўская,

---

[187] Гуревич Ф. Д. Древние города Белорусского Понеманья. Мн., 1982. С. 6.
[188] Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок. С. 5.
[189] Там жа.
[190] Даследаванні аўтара ў 1987—1988 гг.




20. г. Навагрудак. План канца 18 ст. (ЦДВГА, ВВА, с. 21528, ч. 6, л. 7). *1* — пустая базылянская царква; *2* — бастыёны каменныя; *3* — земская канцылярыя; *4* — другая земская канцылярыя (на плане неразборліва); *5, 6* — манастыр базылянскі; *7* — царква Уваскрэсення; *8* — царква св. Міколы; *9* — касцёл францысканскі; *10* — касцёл езуіцкі; *11* — аптэка; *12, 13* — касцёл і манастыр дамініканскі; *14* — манастыр і касцёл францысканскі; *15* — ратуша; *16* — лаўкі; *17* — дом князя Радзівіла; *18* — кавярны дом; *19* — дом купецкі; *20* — дамы шляхецкія; *21* — жыдоўская школа; *22* — мячэць татарская; *23* — корчмы з шынкамі для прыезжых; *24* — могілкі хрысціянскія; *25* — могілкі жыдоўскія; *26* — гарадская цагельня; *27* — каналы, праведзеныя з гары для калодзежаў (на плане неразборліва); вуліцы: *28* — Гродзенская і Пінская, *29* — Слонімская, *30* — Нясвіжская, *31* — Віленская, *32* — Валоўская (на плане неразборліва), *33* — Папоўская (на плане неразборліва), *34* — Кавальская, *35* — Васкрасенская, *36* — Рацаўланская

Больчыцкая і інш.[191] Да канца 18 ст. у горадзе сфарміравалася барочная планіроўка, якая захоўваецца і зараз (мал. 20).

Навагрудскі замак у познім сярэднявеччы быў у ліку самых магутных на Беларусі. Яго пастаянна прыстасоўвалі для супрацьстаяння новай абложнай тэхніцы і тактыцы [192].

**Ваўкавыск** (мал. 7, 21), як і Навагрудак, упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 1252 г. Археалагічныя даследаванні паказалі, што першапачатковае паселішча ўзнікла на ўзвышшы Шведская гара (паўднёва-ўсходняя ўскраіна сучаснага горада) у сярэдзіне — 2-й палове або ў канцы 10 ст. Шматгадовыя археалагічныя раскопкі даволі акрэслена вызначылі тапаграфію горада эпохі Кіеўскай Русі. Яго асноўная тэрыторыя размяшчалася на трох пагорках: Шведскай гары, Муравельніку, Замчышчы. Планіроўка Ваўкавыска 14—18 стст. не вывучалася і раскопкі нідзе, акрамя названых узвышшаў, не праводзіліся. Вядома, што да пачатку 14 ст. жыццё горада сканцэнтравалася на Замчышчы, на пасадах каля падножжа Шведскай гары і Замчышча [193]. Кераміка, якая бытавала ў 14 ст., знойдзена і на ўзвышшах, што прылягаюць да Замчышча з поўдня і паўночнага ўсходу [194]. У 15—16 стст. горад разрастаецца на берагах р. Ваўкавыі. На правым беразе ўзнікае галоўная плошча. Пагранічнымі пунктамі сярэднявечнага горада з паўночнага ўсходу і паўднёвага ўсходу служылі могілкі, якія існуюць і зараз. Для высвятлення часу засялення раёнаў каля Ваўкавыі неабходны археалагічныя даследаванні. Мы не маем прамых звестак аб існаванні ў Ваўкавыску замка ў 15—17 стст., але ёсць факты, якія сведчаць на карысць такога меркавання. Так, назва аднаго з узвышшаў — Замчышча знаходзіць шмат аналагаў па гарадах Беларусі, дзе так называюцца мясціны, у якіх існавалі замкі. У інвентары Ваўкавыска 1775 г. названы шэраг пабудоў, якія належалі да замкавых [195]. Магчыма, у 14—17 стст. у горадзе існаваў замак з драўляна-землянымі ўмацаваннямі.

---

[191] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии. Мн., 1848. С. 22, 90.
[192] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні... С. 50.
[193] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. С. 135.
[194] Там жа. С. 18.
[195] Jodkowski J. Grodzisko Wolkowyskie. Grodno, 1925. S. 36—39.

**Слонім** (мал. 6, 22). Упершыню ў летапісе ўпамінаецца разам з Навагрудкам і Ваўкавыскам. Горад размешчаны на краях тэрасы па абодвух берагах р. Шчары. Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Слонімскага замчышча ўстанавілі час яго засялення —11 ст. Слонімскі вакольны горад невядомы. Відавочна, ужо ў 12—13 стст. вызначыўся асноўны накірунак развіцця паселішча ўздоўж рэчышча Шчары. Кераміка гэтага часу знойдзена на адлегласці 200 і 500 м ад Замчышча вышэй па плыні ракі. Існуе два пункты гледжання на тапаграфію старажытнага Слоніма. Большасць даследчыкаў лічыць, што дзядзінец размяшчаўся на месцы пазнейшага замка на левым беразе Шчары. Прыхільнікі правабярэжнага месцазнаходжання найстаражытнага цэнтра (І. Стаброўскі, Г. Гольдберг, В. Р. Супрун) выказалі меркаванне аб наяўнасці дзядзінца-замка ў раёне касцёла св. Андрэя [196]. Пад час пракладкі чыгункі пляцоўка, дзе быццам знаходзіўся дзядзінец, была знішчана. Перанос замка на левы бераг названыя даследчыкі адносяць да пачатку 16 ст. У якасці аргументаў на карысць правабярэжнага размяшчэння замка высоўваюцца: збудаванне тут першага ў горадзе каталіцкага касцёла, наяўнасць могільнікаў.

21. г. Ваўкавыск. План канца 18 ст. (ЦДВГА, ВВА, с. 21529, ч. 3, л. 48). *1* — дом шляхціца Чарташэўскага; *2* — лаўкі (на плане неразборліва); *3* — дом шляхціца Булгарына (на плане неразборліва); *4* — земская канцылярыя; *5* — дом суддзі Калупайлы; *6* — дом падкаморжыны Сухадольскай; *7* — кляштар езуіцкі; *8* — касцёл езуіцкі; *9* — дом суддзі Быкоўскага; *10* — дом хірурга Берка; *11* — дом шляхціца Петрашэўскага; *12* — царква уніяцкая, якая развалілася; *13* — дом шляхціца Сечаня; *14* — жыдоўская школа; *15* — ратуша; *16* — дом шляхціца Быхаўца; *17* — дом судоў земскіх і гродскіх; *18* — канцылярыя гродская; *19* — дом замкавы; *20* — млын (на плане неразборліва); *21* — дом шляхціца Немчыновіча; *22* — млын (на плане неразборліва); *23* — дом святара; *24* — касцёл фарны; *25* — млын (на плане неразборліва); *26* — капліца уніяцкая (на плане неразборліва); *a* — вуліца Гродзенская; *b* — вуліца Віленская; *e* — мост; *f* — плошча; *g* — рынак; *h* — плошча; *i* — плошча; *k* — ставы; *l* — мост; *m* — брод; *n* — мост (на плане неразборліва); *o* — мост; *p* — мост (на плане неразборліва); *q* — вуліца Брэсцкая; *r* — могілкі; *s* — гара Замкавая; *t* — мост (на плане неразборліва)

[196] Супрун В. Р. Загадкі слонімскіх замкаў//ПГКБ. 1986. № 2. С. 18—20.




22. План г. Слоніма канца 17 ст. (рэканструкцыя А. Д. Квітніцкай): *1* — замак; *2* — мураваны фарны касцёл (1595); *3* — касцёл бернардзінцаў (1639); *4* — касцёл бенедыкцінак (1669); *5* — касцёл дамініканцаў (1680), каменны з 1747 г.; *6* — касцёл бернардзінак (1670); *7* — касцёл канонікаў латэранскіх (1650); 8 — Спаская уніяцкая царква; *9* — сінагога; *10* — рынак

Усё ж на існуючы момант мы маем больш доказаў для высновы аб знаходжанні дзядзінца на левым беразе Шчары. Гэта, па-першае, даныя археалагічных раскопак: акрамя наслаенняў 11—13 стст. на Замчышчы, такія ж ёсць і на пасадах. Па-другое, аналагі з іншымі беларускімі гарадамі сведчаць, што замкі 14—17 стст. размяшчаліся на месцы дзядзінцаў. Што датычыць наяўнасці на правым беразе могільнікаў, то гэта гаворыць не аб цэнтры горада, а, наадварот, паказвае на ўскраіну. Першы касцёл у горадзе таксама будаваўся не абавязкова ў цэнтры. Пад час археалагічнай разведкі слою ў раёне касцёла св. Андрэя на мацерыку знойдзены фрагменты керамікі 16 ст. З 16 ст. тут вядома прадмесце Замосце [197]. Магчыма,

[197] Караткевіч В. Б., Кулагін Я. М. Помнікі Слоніма. Мн., 1983. С. 14.

што правабярэжжа заселена раней. Гэта павінны высветліць далейшыя раскопкі.

У 15—16 стст. горад разрастаецца на левым беразе. Кераміка 16 ст. знойдзена на мацерыку ў раёне плошчы Леніна. Мяркуючы па плану-рэканструкцыі А. Д. Квітніцкай, у 17 ст. Слонім быў кампактным горадам з развітой планіровачнай структурай [198]. У адрозненне ад Гродна і Навагрудка гандлёвая плошча з ратушай размяшчалася ў непасрэднай блізкасці ад замка. Цэнтр горада паўкальцом абступалі культавыя пабудовы, якія былі галоўнымі архітэктурнымі дамінантамі. Асновай вулічнай планіроўкі з'яўляецца дарога, што ўваходзіла ў горад з усходу, цераз мост з правага берага Шчары. На правым беразе да моста сыходзіліся два важныя гандлёвыя шляхі: паўночна-ўсходні з Вільні і Навагрудка і ўсходні з Ляхавіч. У цэнтры горада дарога раздзялялася на дзве галіны, адна — на паўночны захад, на Гродна, другая — на поўдзень, на Палессе. Барочная планіроўка захавалася да нашых дзён.

**Ліда** (мал. 5, 23). Датай заснавання горада лічыцца 1380 г. Т. Нарбут назваў больш раннюю — 1180 г.[199] Ліда ўпамінаецца ў «Спісе гарадоў рускіх...», складзеным паміж 1387 і 1406 гг.[200] Відавочна, бліжэй да праўды першая дата — 1380 г. Няма ні летапісных, ні археалагічных матэрыялаў, якія б сведчылі аб заснаванні горада ў 12 ст.

Гістарычная частка Ліды размешчана паміж рэчкамі Лідзеяй і Каменкай (яны зліваюцца каля замкаў, а рэчышча Каменкі засыпана ў 70-я гады 20 ст.). На планах 18—19 стст. відаць, што горад амаль цалкам змяшчаўся паміж гэтымі рачулкамі. Па свайму тапаграфічнаму становішчу Ліда адрозніваецца ад іншых гарадоў Беларускага Панямоння. Балоцістая мясцовасць, нізкія шчыльныя берагі невялікіх рэчак былі не самымі зручнымі месцамі для паселішча. Відавочна, штуршком для развіцця горада з'явілася збудаванне ў 20-х гадах 14 ст. на невялікім пясчаным узвышшы каля месца супадзення дзвюх рэчак мураванага замка. Магчыма, да яго ўзвядзення ў наваколлі было невялікае вясковае пасяленне. Пад

198 Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6. С. 470.
199 Брокгауз Ф. А., Эфрон И. А. Энциклопедический словарь. Спб., 1896. Т. 17. С. 662—663.
200 ПСРЛ. Спб., 1856. Т. 7. С. 240.

час раскопак на тэрыторыі сярэдневечнага горада матэрыялы (кераміка) 14 ст. выяўлены толькі ў бліжэйшым наваколлі замка, у 100 м на паўночны захад.

У 15—17 стст. структура горада тыповая для таго перыяду: замак, на некаторай адлегласці ад яго — плошча з ратушай. У цэнтры сыходзіліся чатыры вуліцы, галоўная з іх — Віленская, якая ішла ў паўночным кірунку. Для лакалізацыі плямы культурнага слою найстаражытнага паселішча, высвятлення часу засялення розных раёнаў горада патрэбна правесці грунтоўныя археалагічныя раскопкі.

**Ашмяны** (мал. 24). У сярэднія вякі былі невялікім дзяржаўным горадам, які атрымаў самакіраванне толькі ў 1792 г. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 14 ст., дакладней з 1384 г.[201] Прынята лічыць, што першапачатковае паселішча ўзнікла ў Старых Ашмянах (раён касцёла францысканцаў). Тут пад час археалагічных даследаванняў намі выяўлена невялікая колькасць керамікі 14 ст. і наканечнік стралы 13—14 стст. У раёне сучаснага цэнтра знаходак раней за 15 ст. няма. У якасці рабочай гіпотэзы можна прапанаваць наступную спрошчаную схему развіцця планіроўкі горада: першапачатковае невялікае паселішча ў Старых Ашмянах існавала на вузкім участку тэрасы паміж пагоркамі і ракой, а ў 15—16 стст. горад разрастаецца на левым беразе Ашмянкі ў месцы, больш зручным для камунікацыі. Тут узнікае гандлё-

23. г. Ліда. План канца 18 ст. (ЦДВГА, ВВА, с. 21529, ч. 3, л. 49). A — вуліца Віленская; B — касцёл рымскі; C — манастыр піяраў; D — рынак; E — вуліца Дваравая; F — вуліца Замкавая; G — царква прыходская з 2 шпіталямі (на плане неразборліва); H — замак; I — касцёл і манастыр кармелітаў (на плане неразборліва); K — вуліца Крывая; L — школа жыдоўская; M — вуліца Каміёнская; N — прадмесце Зарэчча; O — рымска-уніяцкая царква са шпіталем (на плане неразборліва); P — двор старасты Лідскага; Q — млын; R — сяленне Зарэчнае; S — корчмы; T — фальварак Кураўшчызна; U — вёсачка, якая належыць да прыходскай царквы; V — ратуша; X — дом лідскага маршалка, дзе пошта; Y — вуліца, на якой земская канцылярыя

[201] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska... T. 3. S. 218.




24. г. Ашмяны. План 19 ст. (ЦДГА Літ. ССР, ф. 526, с. 7, а. з. 1664). *1* — праваслаўная царква; *2* — касцёл; *3* — праваслаўныя могілкі; *4* — каталіцкія могілкі; *5* — павятовае казначэйства; *6* — турэмны замак; *7* — гарадская плошча; *8* — вайсковая пякарня; *9* — парахавы склеп; *10* — млын

вая плошча (у Старых Ашмянах няма дзе яе размясціць). У аснове планіроўкі горада ляжыць дарога Вільня — Мінск.

**Нясвіж** (мал. 10, 25). Аб часе ўзнікнення горада маецца вельмі мала даных. Пасля раскопак на тэрыторыі




25. г. Нясвіж. План канца 18 ст. (Дзяржаўная Публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, аддз. рукапісаў). *1* — дом князя Радзівіла; *2* — стайня і карэтная; *3* — верхняя гаць і разбураны шлюз; *4* — рэдант, які прыкрывае гаць і замак; *5* — упускны шлюз для вады; *6* — выпускны шлюз; *7* — гаць для ўезда ў замак; *8* — каталіцкі парафіяльны касцёл; *9* — езуіцкі калегіум; *10* — бернардзінскі касцёл і кляштар; *11* — дамініканскі касцёл і кляштар; *12* — бенедыкцінскі касцёл і кляштар; *13* — уніяцкая царква; *14* — жыдоўскія школы; *15* — ратуша з гандлёвымі лаўкамі; *16* — Віленская брама; *17* — Замкавая брама; *18* — Слуцкая брама; *19* — Клецкая брама; *20* — лядашчы дом князя Радзівіла; *21* — мяшчанскія дамы і гароды; *22* — земляныя ўмацаванні; *23* — ніжняя гаць і млын; *24* — Новае места; *25* — Казіміраў; *26* — Міхалішкі

Нясвіжа І. М. Чарняўскі не прыйшоў да адназначнага вываду аб месцы і часе існавання першапачатковага паселішча. Ён піша аб невялікіх памерах пасялення ў 15 ст. і не настойвае на існаванні яго ў 14 ст.[202]

У канцы 16 — пачатку 17 ст. былі праведзены інтэнсіўныя працы па рэканструкцыі горада. У 1584 г. уладальнік Нясвіжа Мікалай Крыштаф Радзівіл (Сіротка) вярнуўся з паломніцтва ў Ерусалім. Паміж гэтым годам і 1616 (год смерці князя) і былі праведзены буйныя горадабудаўнічыя мерапрыемствы [203]. Сетка вуліц разбіта з арыенціроўкай на замак, які быў акружаны штучнымі ставамі на р. Уша. Ад замка вёў мост да замкавай брамы места. Ад яе варот прамая вуліца выводзіла на гандлёвую плошчу. У 1586 г. Нясвіж атрымаў Магдэбургскае права. У цэнтры на плошчы была збудавана ратуша з гандлёвымі радамі, вакол горада насыпаныя земляныя валы і збудаваныя дзве мураваныя брамы (усяго брамаў было чатыры). Нясвіж — яскравы прыклад прыватнаўласніцкага горада з рэгулярнай планіроўкай, што добра відаць на гравюры пачатку 17 ст. і планах 18—19 стст.

**Мір.** Таксама быў невялікім прыватнаўласніцкім горадам. Аднак такіх грунтоўных планіровачных прац, як у Нясвіжы, тут не праводзілася. Упершыню ў летапісе пасяленне ўпамінаецца пад 1395 г. у сувязі з набегам крыжакоў. Дакументы 16—17 стст. паведамляюць, што горад быў абнесены валамі і меў чатыры мураваныя брамы. Брамы не захаваліся на паверхні, але пад час земляных прац у 1987 г. выяўлены дзве з іх — Віленская і Слонімская. У 1988 г. намі даследавана Віленская і знойдзена Мінская брама. У выніку раскопак і назірання за землянымі працамі выдзелена найбольш даўняя частка паселішча каля перакрыжавання галоўных вуліц: Чырвонаармейскай (былая Віленская) і Першамайскай (былая Слонімская). Тут зафіксаваны слой найбольшай магутнасці і знаходкі канца 14 — пачатку 15 ст. Архітэктарам Д. С. Бубноўскім выяўлены сляды абарончых валоў. Вал вакол пасада быў насыпаны, як і ў Нясвіжы, відавочна, у канцы 16 ст., калі горад атрымаў Магдэ-

[202] Чарняўская Л., Чарняўскі І. Нясвіж. З мінулага // ПГКБ. 1988. № 1. С. 21—24.

[203] Квитницкая Е. Д. Центры городов Белоруссии в XVI — первой половине XIX в. С. 28—50.

бургскае права (1597). У 17 ст. паселішча разраслося і было акружана новай сістэмай умацаванняў[204]. Рэшткі землянога вала месцамі прыкметныя і зараз. Паселішча ўзнікла на перасячэнні дарог Мінск — Вільня і Слонім — Слуцк. У межах горада дарогі станавіліся вуліцамі з такімі ж назвамі. У месцы іх перакрыжавання знаходзілася гандлёвая плошча з ратушай. Ратуша да нашых дзён не захавалася. У 1982 г. на краі плошчы пасярэдзіне паміж касцёлам і царквой адкрыты рэшткі вялікага мураванага будынка 17 ст.[205], магчыма, ратушы. У канцы 15 — пачатку 16 ст. побач з паселішчам збудаваны магутны пяцівежавы замак — рэзідэнцыя беларускага магната Ільініча. Прычым узведзены замак на месцы паселішча 15 ст., якое загінула ад пажару. У адрозненне ад Нясвіжа Мір не мае яўнай сувязі з замкам у пляніровачным плане.

**Крэва.** Характарызуецца складанай тапаграфічнай сітуацыяй. Наша абследаванне ў 1985 г. паказала, што сярэднявечнае паселішча размяшчалася на месцы сучаснай вёскі побач з замкам. Відавочна, сядзібы былі раскіданыя па пагорках, раздзеленых балоцістымі лагчынамі. Венца гаршка 14 ст. знойдзена ў цэнтры вёскі ў шурфе каля крамы.

Крэва, як і Ліда, Ашмяны, Мір, Нясвіж, належыць да паселішчаў, якія вядомы з 14—15 стст., а невялікімі гарадамі сталі ў 15—16 стст. У адрозненне ад старажытнейшых гарадоў Беларускага Панямоння ў названых паселішчах вельмі цяжка выявіць месца першапачатковага пасялення, бо яно было неўмацаваным і зараз не прасочваецца візуальна.

Нашыя раскопкі ў названых гарадах і мястэчках дазволілі выявіць пэўныя заканамернасці іх тапаграфічнага развіцця. Першапачатковыя паселішчы ўзніклі пры перасячэннях гандлёвых шляхоў з рэчкамі. Сляды найбольш ранняга пасялення трэба шукаць каля гэтага перакрыжавання на краі рачной тэрасы. Гандлёвая плошча — больш позні элемент планіроўкі. Яна размяшчалася побач, звычайна цераз дарогу, але за межамі першага паселішча, там, дзе было досыць роўнае месца

---

[204] Бубноўскі Д. С. Гісторыя горадабудаўнічага развіцця г. п. Мір // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., С. 136—141.

[205] Кравцевич А. К. Исследования в г. п. Мир Гродненской области. С. 141.



26. г. п. Любча. З карты сярэдзіны 17 ст. Ю. Нарановіча-Наронскага: вуліцы: *1* — Капольская (Капыльская? — *А. К.*), *2* — Хачыкоўская, *3* — Навагрудская, *4* — Дзелячыцкая, *5* — Рыбацкая

са зручнымі пад'ездамі. У Ашмянах такая пляцоўка знайшлася толькі ў 1,5 км вышэй па плыні на другім беразе ракі.

Далейшае фарміраванне паселішчаў адбывалася вакол плошчы.

**Гальшаны** (мал. 11), **Любча** (мал. 12, 26) з'яўляюцца прыкладам тыповых беларускіх мястэчак, размешчаных на перасячэнні гандлёвых шляхоў. Самыя раннія матэрыя-

лы, знойдзеныя ў працэсе археалагічных раскопак на іх тэрыторыі, належаць да канца 15—16 ст. У 2,5 км ад Гальшан па дарозе на Баруны знаходзіцца гарадзішча «Карабель», якое лічыцца першапачатковым гальшанскім замкам, вядомым з 13 ст. У 16 ст. ён быў перанесены на бераг р. Лусты.

Любча на Нёмане вядомая з 13 ст.[206] Аднак месца паселішча гэтага часу не знойдзена. У сярэдзіне 17 ст. Любча, як і Гальшаны, была буйным мястэчкам (144 сядзібы; у Гальшанах 143 на 1690 г.).

Па малюнку Нарановіча-Наронскага сярэдзіны 17 ст. (мал. 26) відаць, што планіроўка мястэчка была такой жа, як зараз[207]. Вуліцы паралельныя або перпендыкулярныя рацэ. На выездах з мястэчка стаялі брамы (усяго шэсць). У адным месцы на малюнку паміж дзвюма брамамі прыкметны рэшткі сцяны або частаколу.

---

[206] Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі... С. 70.

[207] Aleksandrowicz S. Opis zabudowy miasteczka Lubcza nad Niemnem z 1644 r. S. 625—636.

## АСНОЎНЫЯ КАТЭГОРЫІ ЗНАХОДАК, ІХ ХРАНАЛОГІЯ І ТЫПАЛОГІЯ

Матэрыяльная культура Беларускага Панямоння 14—17 стст. у параўнанні з папярэднім перыядам (11—13 стст.) выдзяляецца большым багаццем і разнастайнасцю. Гэта выразна прасочваецца археалагічна. Разам з колькасным ростам знаходак у познесярэднявечных культурных наслаеннях з'яўляюцца новыя, раней невядомыя катэгорыі матэрыяльнай культуры, такія, як кафля, дахоўка, вялікапамерная цэгла, абутковыя падкоўкі, люлькі. Значна пашыраецца асартымент керамічнага і шклянога посуду. Трэба адзначыць, што колькасны і якасны рост адбываўся паступова і не заўжды раўнамерна. Так, у 14 ст. назіраецца з аднаго боку пэўнае збядненне матэрыяльнай культуры, і ў той жа час з'яўляюцца новыя катэгорыі рэчаў (кафля, дахоўка).

Матэрыяльная культура 14—17 стст. Беларускага Панямоння, як і ўсёй Беларусі, вывучана горш за 11—13 стст. Амаль не распрацавана тыпалогія і храналогія познесярэднявечнага матэрыялу, за выключэннем кафлі і будаўнічых матэрыялаў.

Археалагічнае вывучэнне гарадоў і замкаў Беларускага Панямоння 14—17 стст. пачалося нядаўна, не ўсе кампаненты матэрыяльнай культуры, якія даступныя археалагічнаму вывучэнню, прадстаўлены аднолькава поўна. Вядомыя пакуль толькі нешматлікія знаходкі вырабаў з косці, каменю (за выключэннем ядраў), каляровых металаў (выключэнне — медныя манеты). У слаях 14—17 стст. звычайна дрэнна захоўваюцца арганічныя рэчывы і ў нас амаль няма вырабаў з дрэва і скуры. У Гродне і Слоніме, дзе захаванасць арганічных матэрыялаў дастаткова добрая, археолагі не заўсёды звярталі належную ўвагу да познесярэднявечнага матэрыялу.

Асноўная задача гэтай часткі працы — самы агульны тыпалагічны і храналагічны аналіз рэчаў, атрыманых пад час археалагічных даследаванняў. Выкарыстаныя матэрыялы нашых раскопак, даныя іншых даследчыкаў, стратыграфічныя назіранні і аналагі з суседніх тэрыторый. Для большай дакладнасці датыровак вывучаліся галоўным чынам матэрыялы з «класічных» познесярэднявечных пом-

нікаў, на якіх няма слаёў раней за 14 ст. Гэта — Лідскі, Крэўскі, Мірскі, Гальшанскі замкі, г. п. Мір і інш.

## КЕРАМІКА

Керамічныя вырабы — самы масавы матэрыял культурнага слою 14—18 стст. У гэты час значна пашыраецца асартымент вырабаў, паляпшаецца іх якасць. Побач з новымі формамі традыцыйнага віду посуду — кухоннага гаршка, а таксама міскамі, патэльнямі з'яўляюцца рынкі, кубкі, талеркі, збаны і інш.

З 14 ст. пачынае вырабляцца кафля, дахоўка, з канца 16 — пачатку 17 ст.— люлькі. Распаўсюджваецца паліваны (з канца 15—16 ст.— у гэты ж час з'яўляецца паліваная дахоўка) і мораны (дымлёны) посуд (з канца 16 ст.). З другой паловы 16 — пачатку 17 ст. вядомая беларуская маёліка (кафля, пазней і посуд), з канца 16— 1-й паловы 17 ст.— распісны посуд. З іншых керамічных вырабаў варта назваць рыбалоўныя грузікі, цэглу, пліткі, падлогі, падсвечнікі. Масавасць керамічных знаходак дае магчымасць выкарыстоўваць іх у якасці асноўнага датуючага матэрыялу.

Посуд 14—18 стст. з Беларускага Панямоння з'яўляецца аб'ектам спецыяльнага вывучэння [208]. Таму мы абмяжуемся агульнай яго характарыстыкай. Па характару фармовачнай масы, тэхналогіі абпалу і апрацоўкі паверхні побытавую кераміку можна падзяліць на тры асноўныя групы: непаліваная, паліваная і мораная (дымлёная).

У асартымент непаліванага посуду (мал. 27) уваходзяць гаршкі, макацёры (глыбокія міскі), рынкі, накрыўкі, міскі, талеркі, збаны, стопкі, латкі. Асноўнай формай непаліванай керамікі застаецца гаршчок. Гаршкі 14—16 і 17— 18 стст. адрозніваюцца складам фармовачнай масы, якасцю апрацоўкі паверхні. Першыя зроблены з тлустай гліны з дамешкамі жарствы або пяску, чарапок у разломе шэры. Паверхні загладжаныя, але маюцца шурпатасці. Гаршкі 14 ст. (мал. 27, *1, 2*) напамінаюць ранейшыя 13 ст. У гаршкоў 14—15 ст. плаўна адагнутае венца на высокай шыйцы, але ў пазнейшых (15 ст.) у адрозненне ад пачынення 14 ст. пакатыя і шырокія плечыкі (мал. 27, *3, 4*).

---

[208] Керамічным посудам Беларускага Панямоння займаецца Н. І. Здановіч. Яе працы змешчаны ў спісе літаратуры.

27. Непаліваны керамічны посуд: *1—2* — гаршкі 14 ст. (Ашмяны); ***3—4*** — гаршкі 14—15 стст. (Лідскі замак); *5—6* — гаршкі 16 ст. (Лідскі замак); *7—8* — гаршкі 17—18 стст. (Мір); *9* — макотра 16—17 стст. (Ашмяны); *10* — макотра 15—17 стст. (Лідскі замак); *11* — макотра 16—17 стст. (Любча); *12* — накрыўка 15—16 стст. (Гродна, кляштар базылянак); *13* — накрыўка 16—17 стст. (Лідскі замак); *14* — накрыўка 17—18 стст. (Мір); *15* — міска 14—15 стст. (Ашмяны); *16* — кубак 17—18 стст. (Ліда); *17* — латка 16—17 стст. (Гродна, кляштар брыгітак); *18* — буйное начынне 16—17 стст. (Лідскі замак); *1—5, 7—18* — раскопкі А. К. Краўцэвіча, *6* — раскопкі А. А. Трусава

Бытаванне з 15 ст. «пузатых» гаршкоў з пакатымі і шырокімі плячамі, відавочна, звязана з распаўсюджваннем у гэты час «глыбокіх» закрытых печаў. Каб ставіць у іх гаршкі, патрэбны былі вілы, а найбольш аптымальнай, устойлівай на вілах было начынне з шырокай верхняй часткай тулава. Гаршкі 16 ст. маюць вельмі маленькую (да 0,5 см) шыйку або яна ўвогуле адсутнічае (мал. 27, *5, 6*). Плечыкі таксама пакатыя і шырокія. Начынне 17—18 стст. характарызуецца амаль прамым простым ці складанапрафіляваным венцам (форма тулавая такая ж, як і ў 15—16 стст.) (мал. 27, *7, 8*).

У 18 ст. бытавалі таксама гаршкі з венцамі, падобнымі да начыння 15 ст. У 17 ст. у паўночна-ўсходняй частцы Беларускага Панямоння быў распаўсюджаны мясцовы тып гаршка без венца.

Большая частка гаршкоў неарнаментавана. Астатнія ўпрыгожаныя галоўным чынам трыма відамі арнаменту: лінейным, хвалістым і камбінаваным лінейна-хвалістым.

Адзін з відаў кухоннага посуду — макацёры (макотры, цёрлы) (мал. 27, *9—11*). Яны служылі ёмкасцю для прыгатавання расліннай ежы, замешвання цеста, захоўвання сыпучых рэчываў. Таўшчыня сценак дасягае 0,8—1 см, дыяметр — 32 см. У некаторых выпадках па вонкавай паверхні наносіўся паглыблены лінейны арнамент або наляпны валік з зашчыпамі.

Накрыўкі (мал. 27, *12—14*) прызначаліся для гаршкоў і патэльняў — рынак на трох ножках і з ручкай у выглядзе ўтулкі, куды ўстаўлялася

драўлянае дзяржальна. Радзей за гаршкі і макацёры сустракаюцца непаліваныя міскі (мал. 27, *15*), талеркі, збаны, кубкі (мал. 27, *16*), латкі (мал. 27, *17*).

Частка непаліванага посуду праходзіла дадатковую хіміка-тэрмічную апрацоўку: адразу пасля абпалу гарачы посуд апускалі ў спецыяльны раствор-«абвару» («пажогу»). Паводле аднаго з рэцэптаў «абварай» з'яўляецца водны раствор жытнай мукі. Пасля апрацоўкі посуд пакрываўся цёмнымі плямамі, ці налётам.

Паліваны керамічны посуд зноў увайшоў ва ўжытак з канца 15 ст. Ён трапляецца радзей за непаліваны. Гэта галоўным чынам міскі (мал. 28, *1—5*), гаршкі (мал. 28, *6—8*), талеркі (мал. 28, *9—14*), кубкі (мал. 28, *15—16*), рынкі (мал. 28, *17*), збаны (мал. 28, *18*), куфлі. Росквіт паліванага посуду прыйшоўся на канец 16—18 ст. Ужывалася palіва двух колераў: зялёнага і карычневага са шматлікімі адценнямі. Цеста паліванага посуду добра прамешанае, абпал раўнамерны, сценкі тонкія і добра адгладжаныя. Арнамент галоўным чынам хвалісты і сетчаты штампаваны. З канца 16—17 ст. вядомы маёлікавы і распісны посуд (мал. 28, *2—4, 13, 18, 19*) з раслінным арнаментам, з 18 ст.— мясцовы фаянс [209].

Кераміка акісляльна-аднаўленчага абпалу (мораная, дымлёная) бытавала ў канцы 16 — пачатку 20 ст. Яна прадстаўленая гаршкамі (мал. 29, *2*), макотрамі (мал. 29, *1, 3*), міскамі (мал. 29, *4, 5*), талеркамі (мал. 29, *6*), збанамі (мал. 29, *7*), глякамі (мал. 29, *8*). Часта па вонкавай і ўнутранай паверхні моранага посуду наносіўся лашчоны арнамент. Сценкі начыння тонкія.

У г. п. Мір побач з жылым будынкам 2-й паловы 17 ст. адкрыты рэшткі круглага ў плане горана для абпалу вырабаў з керамікі (мал. 32, *1*).

У познесярэднявечным культурным слоі гарадоў і замкаў Беларускага Панямоння сустракаюцца фрагменты заходнееўрапейскага посуду. Гэта ў асноўным рэйнская кераміка (так званы каменны тавар), пакрытая салянай палівай: куфлі, глякі з ручкай, бутэлькі з вушкам (мал. 28, *20*). Датуецца рэйнская кераміка 16—19 стст. Трапляецца белагліняная паліваная кераміка 2-й паловы 16—17 ст.

---

[209] Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988. № 6. С. 58—61.

Яна прывозілася з Сілезіі (Польшча). Акрамя посуду ў калекцыю бытавой керамікі ўваходзяць грузікі ад рыбалоўных сетак (авальнай, біканічнай і цыліндрычнай формы) (мал. 29, *9—11*), падсвечнікі (мал. 29, *12—14*), люлькі (мал. 29, *15—19*). Люлькі рабіліся непаліванымі, паліванымі і моранымі, пазней парцэлянавымі, яны сустракаюцца ў слоі 17—18 стст. Такія люлькі характэрны для ўсёй Беларусі [210]. У слаях 17—18 стст. сустракаюцца белагліняныя галандскія люлькі.

Кафля — абавязковы атрыбут познесярэднявечнага культурнага слою. Кафліны добра датуюцца і, акрамя таго, маюць каштоўнасць як творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Найверагодным месцам вынаходства кафлі лічацца Альпы. За кароткі час кафляныя печы распаўсюдзіліся па тых рэгіёнах Еўропы, дзе кліматычныя ўмовы змушаюць да інтэнсіўнага ацяплення памяшканняў. Беларусь прыняла новае вынаходства адной з першых, творча апрацавала яго і перадала далей на ўсход. Самыя раннія кафліны з Беларускага Панямоння адносяцца да пачатку — першай паловы 14 ст. Яны зроблены ў выглядзе цыліндрычных пасудзін вышынёй 24—26 см. Цеста грубае, з дамешкам буйной жарствы. Такія кафлі знойдзеныя ў Навагрудскім і Лідскім замках. Бліжэйшыя добра датаваныя аналагі вядомыя ў Полацку [211] — пачатак 14 ст. Развіццё кафлі Беларускага Панямоння добра ілюструецца дэталёвай схемай эвалюцыі кафлі з Лідскага замка, складзенай А. А. Трусавым і У. В. Угрыновічам [212]. Замкавыя пабудовы і печы ў іх пасля кожнага пажару і разбурэння аднаўляліся на ранейшых месцах. Разбітыя кафліны ўжываліся для вымошчвання поду. Такім чынам, у даследчыкаў з'явілася магчымасць для стратыграфічнага аналізу кафлін і датавання іх па спадарожным матэрыяле. Аб інтэнсіўнасці працэсу развіцця сведчыць разнастайнасць варыянтаў, якія з'явіліся ўжо ў 14 ст. [213]

---

[210] Угрыновіч У., Собаль В. Сувеніры стагоддзяў // Мастацтва Беларусі. 1984. № 10. С. 67—71.

[211] Паничева Л. Г. Хронология белорусских изразцов XIV — XVII вв. С. 72.

[212] Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии. С. 131; Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі. С. 195.

[213] Гаршковая кафля з круглым вусцем, больш дасканала вырабленая, трапляецца ў слаях 16—17 стст.

З сярэдзіны 14 ст. пачынаецца змяненне кафлі ў шматпялёсткавую форму (бытавалі ў 14—15 стст.) (мал. 30, *3, 4, 6*). У канцы 14 ст. з'яўляюцца кафліны з прамавугольным вусцем: вусце 15×15,5 см, вышыня —8—10 см (мал. 30, *5, 7*). У 2-й палове 15 ст. узнік варыянт так званай міскападобнай кафлі [214] (апошні з гаршковых), які папярэднічаў першым варыянтам новага тыпу — карабковай кафлі і існаваў разам з апошняй да канца 16 ст. З кафлі, меўшай прамавугольнае вусце, можна было выкласці амаль суцэльнае цеплавое люстэрка печы, большае па плошчы, чым са звычайнай гаршковай [215].

Першыя варыянты гаршковай кафлі выконвалі толькі ўтылітарную функцыю, а пазней дабавілася яшчэ і эстэтычная. Знаменнем гэтага было з'яўленне кафлі з вусцем, аформленым у выглядзе разеткі. Адзін са сродкаў упрыгожвання гаршковай кафлі — шматпялёсткавыя разеткі, прачэрчаныя пальцамі па сырой гліне на донцы знутры начыння (мал. 34, *3*).

28. Паліваны керамічны посуд: *1* — міска 17 ст. зялёнай палівы (Мір); *2* — міска 18 ст. светла-зялёнай палівы (Ашмяны), *3—4* — міскі 18 ст. маёлікавыя, з роспісам (Слонім), эмаль ружовая; *5* — міска 18 ст. маёлікавая (Слонім), белай палівы; *6, 8* — гаршкі 16—17 стст. зялёнай палівы (Лідскі замак); *7* — гаршчок 16—17 стст. зялёнай палівы (Крэўскі замак); *9, 11* — талеркі 17—18 стст. зялёнай палівы (Гродна, кляштар базылянак); *10* — талерка 17 ст. зялёнай палівы (Мір); *12* — талерка 17 ст. зялёнай палівы (Лідскі замак); *13* — распісная талерка 17—18 стст. зялёна-жоўтай палівы (Мір); *14* — паўмісак 18 ст., маёлікавы (Слонім); *15* — кубак 16—17 стст. зялёнай палівы (Гродна, пасад); *16* — кубак 16—17 стст. зялёнай палівы (Мір); *17* — рынка 16—17 стст. зялёнай палівы (Крэўскі замак); *18* — распісны збан 2-й паловы 17 ст. (Гродна, кляштар базылянак); *19* — памадны слоік 18 ст., маёлікавы (Слонім); *20* — рэйнская кераміка. Бутэлька 18—19 стст. (Гродна, пасад); *1, 2, 6, 8—13, 15, 16, 18—20* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *3, 4, 5, 14, 19* — раскопкі А. К. Краўцэвіча, Н. І. Здановіч; *7, 17* — раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова

[214] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 91 (знізу).

[215] Смирнов Г. Д. Производство красноглиняных печных изразцов и опыт реконструкции печей по материалам Старого Орхея // Изв. Молд. фил. АН СССР. 1956. № 4 (31). С. 83.




29. Керамічныя вырабы: *1* — мораная макотра 18—19 стст. (Навагрудак); *2* — мораны гаршчок 17 ст. (Лідскі замак); *3* — мораная макотра 18 — пачатку 19 ст. (Мір); *4—5* — мораныя міскі з лашчоным арнаментам 17—18 стст. (Ашмяны); *6* — мораная талерка 17 ст. (Мір); *7* — мораны збан 17 ст. (Гродна, Стары замак); *8* — мораны глёк 17—18 стст. (Мір); *9—11* — рыбалоўныя грузікі (Лідскі замак); *12* — падсвечнік 17—18 стст. (Гродна); *13—14* — падсвечнікі 16—17 стст. (Мір); *15—16* — белагліняныя люлькі 17—18 стст. (Мір); *17—18* — люлькі зялёнай палівы 17—18 стст. (Мір, Гродна, пасад); *19* — парцэлянавая люлька (Ліда); *1, 2, 4—6, 8—19* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *3* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча; *7* — раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова




30. Гаршковая і карабковая тэракотавая кафля: *1—2* — кафля 14—15 стст. з круглым вусцем (Лідскі замак); *3* — кафля 14—15 стст. з фігурным вусцем (Лідскі замак); *4* — кафля 15—16 стст. з фігурным вусцем (Гальшаны); *5* — паліваная кафля 15—16 стст. з прамавугольным вусцем (Лідскі замак); *6* — кафля 14—15 стст. з фігурным вусцем (Крэўскі замак); *7* — кафля 14—15 стст. з прамавугольным вусцем (Крэўскі замак); *8* — каронка 17 ст. (Мір); *9* — фрагмент формы для вырабу вонкавай пласціны кафлі 17 ст. (Гальшаны); *10* — дывановая кафля 2-й паловы 17 ст. (Мір); *11* — фрагмент кафлі канца 17 — пачатку 18 ст. (Ашмяны); *12* — гзымсавая кафля 17 ст. (Гродна, кляштар базылянак); *13—14* — фрагмент кафлі 17 ст. з выявай птушак (Лідскі замак); *1—3, 5, 6, 8—14* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *4* — раскопкі А. К. Краўцэвіча, І. М. Чарняўскага; *7* — раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова

Акрамя Беларускага Панямоння (Стары замак у Гродне), такая кафля знойдзена ў Полацку [216]. Кафляры вынайшлі вонкавую пласціну для размяшчэння на ёй дэкаратыўнага малюнка. Першыя каробкавыя кафліны, на думку спецыяліста па кафлі Л. Р. Панічавай, з'явіліся ў Беларусі на мяжы 14 і 15 стст.[217] Знаходкі ранніх варыянтаў гэтага тыпу на Беларускім Панямонні датуюцца 15 ст. і сярэдзінай 2-й паловы 16 ст. (мал. 34, *1, 7;* 31, *6*). У 16 ст. акрэсліваецца некалькі відаў арнаментальных матываў, якія атрымалі развіццё ў 17 ст. Кафля 16 ст. мае часцей за ўсё квадратную вонкавую пласціну (бок квадрата 16—17 см) з высокай адзінарнай або двайной рамкай. Румпа квадратная або круглая, вышынёй да 10 см. Распаўсюджваецца раслінны і геаметрычны арнамент (мал. 34, *4*). У 16 ст. пашыраецца арнамент «ваза з кветкамі» (мал. 31, *4*). Выява на кафлі вазы з кветкамі вядома ў Літве, Расіі, Польшчы [218].

З першай паловы 16 ст. у вытворчасці беларускай кафлі пачынае выкарыстоўвацца зялёная паліва [219]. У «Пісцовай кнізе Гродзенскай эканоміі» пры апісанні Старога замка шмат разоў называецца «печ кафлі зялёнай» [220]. Устаноўлена, што паліхромная маёлікавая кафля на Беларускім Панямонні была ва ўжыванні ўжо ў 80-х гадах 16 ст. У Мірскім замку знойдзены фрагменты, пакрытыя рознакаляровай палівай, на якіх стаіць дата: 1583 г.[221] Паліхромная кафля часоў Стэфана Баторыя знойдзена таксама на Старым замку ў Гродне.

У 17 ст. у гарадах і замках Беларускага Панямоння бытавала кафля з шасцю відамі арнаменту: раслінным, геаметрычным, зааморфным, геральдычным, рэлігійным (міфалагічным), партрэтным (мал. 30, 31, 34).

Самым распаўсюджаным быў раслінны арнамент,

---

216 Паничева Л. Г. Хронология белорусских изразцов. Рис. 1:2.

217 Там жа. С. 73.

218 Volkaitė-Kulikauskienė R. Punios Piliakalnis. Vilnius, 1974. Pav. 36; Розенфельдт Р. Л. Московское керамическое производство XII — XVIII вв.// САИ Е1—29. Табл. 20:7; 21:24; Беленькая Д. А. Красные изразцы из Китай-города // КСИА. Вып. 135. Рис. 37:1,6; Gwiechowska A. Kafle warszawskie staromejske. Warszawa, 1955. S. 169.

219 Паничева Л. Г. Хронология белорусских изразцов. С. 74.

220 Писцовая книга Гродненской экономии. С. 2—22.

221 Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Паліхромная кафля Мірскага замка. С. 38—39.




31. Паліваная і паліхромная (маёлікавая) кафля: *1* — паліхромная кафля з гербам П. Сапегі: белы фон, лічбы і літары жоўтыя, часам карычневыя, герб «Ліс» карычневы, шчыт зялёны, фігурныя элементы сінія, рамка зялёная, унутраная частка яе жоўтая (Гальшанскі замак); *2* — кафля 17 ст. з сіметрычным раслінным арнаментам (Лідскі замак); *3* — кафля 17 ст. з сіметрычным арнаментам (Навагрудак); *4* — кафля канца 16 — пачатку 17 ст. з выявай букета ў вазе (Крэўскі замак); *5* — кафля 17 ст. (Гродна, пасад); *6* — кафля 16 ст. з паглыбленай разеткай (Гродна, кляштар базылянак); *7* — кафля 17 ст. з выявай гронкі вінаграду (Навагрудак); *8* — кафля 17 ст. з геаметрычным арнаментам (Навагрудак); *9* — гзымсавая кафля 17 ст. з зааморфна-раслінным арнаментам (Гродна, кляштар базылянак); *10* — фрагмент кафлі 17 ст. з геаметрычным арнаментам (Навагрудак); *11* — фрагмент кафлі 17 ст. з выявай анёла (Слонім); *12* — гзымсавая кафля 17 ст. (Лідскі замак); *13* — кафля-балясіна 17 ст. (Гальшаны); *14* — кафля-каронка 17 ст. (Навагрудак); *15* — кафля-каронка 17 ст. (Гродна, падвал дома № 16 па вуліцы Замкавай); *16* — кутняя гзымсавая кафля 17 ст. (Гродна, пасады); фрагменты: *17* — дывановай кафлі 17 ст. (Навагрудак), *18* — кафлі 17 ст. са сцэнай «паляванне на аленя» (Навагрудак), *19* — кафлі 17 ст. (Навагрудак), *20* — кафлі 17 ст. з геральдычным арнаментам (Навагрудак), *21* — каронкі 17 ст. (Гродна, кляштар базылянак); *22* — паліхромная кафля-каронка 17 ст. (сіні роспіс па белай паліве); *1* — раскопкі І. М. Чарняўскага; *2, 3, 5—12, 16—22* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *4* — раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова; *13, 14* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча; *15* — перададзена мастаком У. Н. Кіслым

у першую чаргу кампазіцыя, пабудаваная па прынцыпу чатырохчленнай сіметрыі (мал. 31, *2, 3*). Гэты від арнаменту ў 17 ст. шырока ўжываўся ў Расіі[222]. Кампаненты расліннага арнаменту сустракаюцца на кафлі з зааморфным і геральдычным арнаментам. Геральдычны арнамент у адных выпадках даволі дакладна перадае шляхецкі герб (мал. 31, *1;* 34, *2, 5, 8, 9*), у іншых уяўляе сабой яго стылізаваную выяву. Даволі часта на кафлі з геральдычным арнаментам сустракаюцца лацінскія літары (мал. 31, *1;* 34, *2, 5, 8, 9*). Гэта пачатковыя літары тытула і ініцыялы ўладальніка кафлянай печы. У Гальшанскім замку знойдзена кафля з надпісам «Anna dni(domini.— *А. К.*) 1627» (лета гасподня 1627) і літарамі, якія абазначалі тытул і ініцыялы ўладальніка замка — магната Паўла Сапегі (мал. 31, *1*). Кафлі з падобным надпісам толькі з іншымі датамі выяўлены і ў іншых паселішчах Беларускага Панямоння. Выява крылатага анёла — звычаёвы матыў беларускага кафлярства 17 ст. З сярэдзіны — другой паловы 17 ст. з'яўляюцца кафліны без рамкі, з так званым «дывановым арнаментам». Адзін экземпляр такой кафлі ўтрымліваў толькі частку ўзору, а закончаная кампазіцыя складалася з чатырох кафлін (мал. 30, *10;* 31, *17*). Па месцы размяшчэння на вонкавай паверхні печы кафля падзяляецца на сцянную, сцянную палавінную, гзымсавую (мал. 30, *12;* 31, *5, 9, 12, 16, 19*), кутнюю (мал. 31, *16*; 34, *5*), паясковую, каронкі (мал. 30, *8*; 31, *14, 15, 21, 22*; 34, *6*), перамычкі, балясіны (мал. 31, *13*), кафлю-дахоўку, кафлю-медальён. Апошняя, на думку даследчыкаў, мацавалася ў цэнтры печы, магчыма, вешалася на сцяне. З'яўленне гзымсавых і кутніх кафлін Л. Р. Панічава адносіць да сярэдзіны — другой паловы 16 ст., а каронак — 14—15 стст.[223]

У 17 ст. вонкавая пласціна сцяннoй кафлі становіцца прамавугольнай[224], рамачка па баках яе нізкая, вышыня румпы — 5—7 см.

У Мірскім замку знойдзены фрагменты паліхромнай кафлі з лусковым арнаментам. Такая кафля ўжывалася для пакрыцця верха печы. Кафля выраблялася з добра

---

[222] Розенфельдт Р. Л. Московское керамическое производство. Табл. 20:20, 21:2, 5, 8—11.

[223] Паничева Л. Г. Хронология белорусских изразцов. С. 73.

[224] Розенфельдт Р. Л. Белорусские изразцы. С. 182.




32. *I* — горан 2-й паловы 17 — пачатку 18 ст. з г. п. Мір для абпалу керамічных вырабаў; *II* — рэшткі дома 2-й паловы 17 ст. з кафлянай печкай: *1* — мацярык, *2* — вуглі, *3* — пясок, *4* — гліна, *5* — цагляны мур, *6* — вапна

прамешанага чырвонага пасля абпалу цеста. Вонкавая пласціна адціскалася ў драўлянай або глінянай форме. Затым прымацоўвалася румпа, зробленая на ганчарным коле. У ёй рабіліся адтуліны для замацавання кафлі ў тулаве печы. Кафля часта пакрывалася зялёнай палівай, што павялічвала кошт. Яшчэ даражэй каштавала паліхромная кафля. Для яе вырабу ўжывалася зялёная, белая, жоўтая, сіняя, карычневая палівы. Толькі заможны чалавек мог дазволіць сабе раскошу мець паліхромную кафляную печку. Невыпадкова ў Лідскім замку, які быў на скарбовым забеспячэнні, не выяўлена паліхромная кафля. І наадварот, у Мірскім замку — уладанні Радзівілаў — знаходкі такой кафлі лічацца сотнямі. Зноў жа, у самым Міры знойдзены толькі лічаныя фрагменты.



33. Г. п. Мір. Раскопкі дома 2-й паловы 17 ст. з кафлянай печкай

У канцы 17—1-й палове 18 ст. распаўсюджваецца зялёнапаліваная (часам пакрытая карычневай палівай) гладкая кафля без арнаменту. Затым у 1-й палове 18 ст. прыходзіць мода на распісную («галандскую») кафлю. У гэты ж час вядома кафля з буйнарэльефным дэкорам.

Пад час даследаванняў Мірскага замка пад слоем падсыпкі выяўлены развал кафлянай печы 2-й паловы 15 ст. з гаршковай кафлі [225]. У Лідскім замку знойдзены поды дзвюх печак: каля заходняй сцяны і побач з малым уваходам. Першая печ (14 ст.) была збудавана ўшчыльную да сцяны; под яе мае памеры 0,8×0,8 м. Другая, ля ўвахода (відавочна, тут была вартоўня), датуецца 16 ст; под яе памерам 1,5×1,4 м складзены з камянёў і цэглы-пальчаткі. Выяўлена ямка ад слупа даяметрам 0,2 і глыбінёй 0,5 м.

Рэшткі печы найлепшай захаванасці выяўлены ў г. п. Мір (мал. 32:*2*; 33). Яна датуецца 2-й паловай 17 ст. (у развале «in sito» знойдзена цэлая кутняя гзымсавая кафля гэтага часу) і захавалася на вышыню 1,1 м.

Будаўнічая кераміка з'яўляецца адным з датуючых матэрыялаў культурнага слою 14—17 стст. Асноўныя пытанні храналогіі беларускіх сярэднявечных будаўнічых матэрыялаў, у тым ліку і панямонскіх, распрацаваны

[225] Трусаў А. А. Археалагічнае даследаванне Мірскага замка. С. 33.




34. Кафля з паселішча ля в. Берагаўцы Шчучынскага р-на (перададзена І. М. Слушко), пад'ёмны матэрыял. *1, 7* — зялёнапаліваная і тэракотавая кафля канца 15—1-й паловы 16 ст. з выявай анёла; *2, 5, 8, 9* — геральдычная кафля (2, 8 — тэракотавая, 5, 9 — зялёнай палівы); *3* — гаршковая тэракотавая кафля 15 ст.; *4* — зялёнапаліваная кафля канца 16—1-й паловы 17 ст.; *6* — тэракотавая каронка канца 16—17 ст.

А. А. Трусавым [226]. Самыя старажытныя формы дахоўкі знойдзены ў Лідскім, Навагрудскім, Крэўскім замках. Яны датуюцца канцом 14 — пачаткам 15 ст. і маюць форму паўцыліндрычнага жолаба з высокім (да 6 см) маца-

[226] Гл. бібліяграфію

вальным шыпам. У 15 ст. на змену жалобчатай прыходзіць пляскатая дахоўка. Жалобчатую працягвалі выкарыстоўваць для пакрыцця стыкаў і вуглоў даху. Плоская дахоўка 15 ст. знойдзена ў Гродне [227]. Адна з яе разнавіднасцяў называецца «бабровы хвост». У 16 ст. разам з пашырэннем мураванага будаўніцтва вытворчасць дахоўкі павялічваецца, сустракаюцца экземпляры, пакрытыя зялёнай палівай. Плоскія формы 15—17 стст. розняцца галоўным чынам формай мацавальнага шыпа. На мяжы 17 і 18 стст. з'явілася хвалістая дахоўка.

Вялікапамерная цэгла, якая была шырока распаўсюджана ў сярэднявеччы, з'явілася на Беларусі ў 13 ст. Адна з характэрных прыкметаў цэглы да 17 ст. уключна — барозны на адной з шырокіх плоскасцяў, праведзеныя ўздоўж. Шырока ўжывалася фігурная цэгла ў скляпеннях, парталах, вокнах і г. д. Адна з асноўных датуючых характарыстык цэглы — яе фармат. З 16 ст. для машчэння падлогі выкарыстоўваюцца керамічныя пліткі, галоўным чынам непаліваныя [228]. У Гальшанскім, Любчанскім замках, Навагрудку знойдзены як тэракотавыя, так і паліваныя зялёныя і жоўтыя пліткі розных формаў: чатырохвугольныя, квадратныя, крыжападобныя і зоркападобныя [229]. Прамавугольныя пліткі, пакрытыя зялёнай і карычневай палівай, выяўлены ў Любчанскім замку [230], Старым замку ў Гродне.

## МЕТАЛІЧНЫЯ ВЫРАБЫ

Металічныя вырабы 14—18 стст. вывучаны горш за керамічныя і шкляныя. Гэта характэрна не толькі для Панямоння, але і ўсёй Беларусі. Спецыяльных прац, прысвечаных вырабам з чорнага металу, налічваюцца адзінкі [231].

---

227 Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 186. Мал. 102:1.

228 Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии. С. 120.

229 Чарняўскі І. М. Замак у Гальшанах. С. 42.

230 Чарняўскі І. М., Саітгарэева С. Замак у Любчы. С. 32.

231 Трусаў А. А. Зброя Лідскага замка // ПГКБ. 1980. № 2. С. 26—27; Левко О. Н. Витебск XIV — XVIII вв. Мн., 1984. С. 43—49; Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 4. С. 73—83; Трусов О. А. Двери и их атрибуты // Строительство и архитектура Белоруссии. 1988. № 3. С. 34.




35. Металічныя вырабы: *1—8* — цвікі 14—17 стст. (*1, 4* — Гродна; *2, 3, 5—8* — Лідскі замак); *9* — дзвярная завеса 17 ст. (Навагрудак); *10, 11* — ключы 14—15 стст. (Лідскі замак); *12—13* — замкі 16—17 стст. (Лідскі і Крэўскі замкі); *14—17* — ключы 17 ст. са звязкі (Крэўскі замак); *18* — ключ 15—17 стст. (Ашмяны); *19—25* — нажы (Лідскі замак, *19—21* — 14—15 стст., *22—25* — 14—17 стст.); *26* — нажніцы 14—17 стст. (Лідскі замак); *27* — спражка 14—17 стст. (Лідскі замак); *28—29* — рыбалоўныя кручкі (Лідскі замак, Гродна, кляштар базылянак); *30* — варган 16 ст. (Лідскі замак); *31* — падсвечнік 15—17 стст. (Лідскі замак); *32* — скрабніца 16—17 стст. (Крэўскі замак); *33* — вагі 12—15 стст. (Лідскі замак); *34* — цуглі 16—17 стст. (Лідскі замак); *35* — восьці 16—17 стст. (Лідскі замак); *36* — выраб 17—18 стст. неакрэсленага прызначэння (Мір); *37* — інструмент для пускання крыві 14—17 стст. (Лідскі замак); *38* — срэбная бляшка-упрыгажэнне 14(?) ст. (Лідскі замак); *1—12, 18—29, 33—36, 38* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *13—17, 32* — раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова; *30, 31, 37* — раскопкі А. А. Трусава

У публікацыях часта прыводзіцца шырокае датаванне металічных рэчаў — 14—18 стст. Калекцыя вырабаў з чорнага металу ўключае прылады працы і бытавыя рэчы, узбраенне, рыштунак вершніка і каня: замкі, ключы, нажніцы, спражкі, крэсівы, нажы, відэльцы, наканечнікі стрэл, падковы, абутковыя падкоўкі, шпоры і інш.

Нашы даследаванні паказалі магчымасць распрацоўкі з дапамогай аналагаў і даных стратыграфіі больш дэталёвай храналагічнай шкалы вырабаў з металу. Найбольш шматлікія калекцыі з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў апублікаваныя [232].

Самыя масавыя металічныя вырабы — цвікі (мал. 35, *1—8*). У залежнасці ад прызначэння іх прынята падзяляць на будаўнічыя, мацавальныя, шпалерныя, шавецкія і падкоўныя[233]. Асноўная маса знаходак цвікоў належыць да будаўніча-мацавальных. Усе цвікі ў сячэнні квадратныя або прамавугольныя, памеры іх моцна вагаюцца, асабліва даўжыня. Будаўніча-мацавальныя могуць мець даўжыню ад 4 да 12—13 см, сячэнне стрыжня — 0,3—1 см. Памеры шпалерных, з дапамогай якіх мацавалася фурнітура, скураныя ўпрыгожанні і г. д., значна меншыя. Яны маюць раскляпаную плешку. Падкоўныя цвікі (мал. 35,*7*) часта знаходзяць разам з падковамі. Цвікі 14—17 стст. і 11—12 стст. вельмі блізкія па форме і памерах. Такая аднастайнасць перашкаджае датаванню. Знаходкі металічных дэталей дзвярэй часцей належаць да 17—18 стст. (мал. 35, *9*), радзей да 15—16 стст.

Замкі. Падзяляюцца на дзве групы: здымныя (вісячыя, навясныя) і нерухомыя (унутраныя). Для часткі іх падыходзіць класіфікацыя наўгародскіх знаходак, распрацаваная Б. А. Колчыным[234].

У 14—15 стст. бытавалі замкі і ключы тыпаў В, Г, Д [235] (мал. 35, *10, 11*). Яны датуюцца ў асноўным па наўгародскіх аналагах. Ніжняя храналагічная мяжа бытавання

---

[232] Гл. спасылку 231.

[233] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого // МИА. 1959. № 65. С. 110.

[234] Там жа. Рис. 70.

[235] Трусаў А. А., Краўцэвіч А. К., Сагановіч Г. М. Металічныя вырабы з раскопак Лідскага і Мірскага замкаў (далей — Металічныя вырабы...). С. 78. Мал. 1:18—20; Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 96:13, 14, 19.

(14 ст.) надзейна забяспечана праз знаходкі ў Лідскім замку, дзе культурны слой пачаў фарміравацца з 14 ст. Невялікія вісячыя замкі з паўкруглай дужкай і корпусам у выглядзе конуса (мал. 35, *12*), шара, прызмы ці цыліндра (мал. 35, *13*) па форме і канструкцыі адрозніваюцца ад наўгародскіх. У Літве такія замкі бытавалі ў 15—16 стст.[236], у Германіі — у 16 ст.[237], на тэрыторыі Латвіі — у 16—17 стст. [238] Аналагічныя замкі з Тушына і Белгарада, а таксама Пскова датуюцца 16—17 стст. [239] Ключы ад іх падобны на сучасныя. Экземпляры ключоў такога ж тыпу, але большых памераў, відавочна, належалі да ўразных замкоў. У Крэўскім замку знойдзена звязка з 13 вялікіх і малых ключоў 17 ст. [240] (мал. 35, *14—17*). Усе яны трубчатыя, як і падобныя знаходкі з Ашмянаў (мал. 35, *18*). У Лідскім і Мірскім замках знойдзены некалькі ключоў-адмычак ад засовак. Падобныя ключы-адмычкі выяўлены на тэрыторыі Латвіі ў верхнім гарызонце Селпілскага замка, а таксама ў Віцебску[241].

Нажы, знойдзеныя пад час раскопак у Беларускім Панямонні, дзеляцца на дзве групы: нажы з чаранком і нажы з прыкляпанымі тронкамі[242]. Першыя былі распаўсюджаны ў побыце на працягу ўсяго сярэднявечча. Найбольш даўнія з іх (14—15 стст.) блізкія да нажоў эпохі Кіеўскай Русі. Яны характарызуюцца больш рэзкім звужэннем ляза ад асновы да верха (мал. 35, *19—21*).

Нажы з прамой спінкай (абодвух тыпаў) маюць амаль сіметрычны клінок з вострым або плаўна закругленым з абодвух бакоў лязом (мал. 35, *22*). Падоб-

---

236 Volkaitė-Kulikauskienė R. Nauji duomenus apie žemdirbyster ir gyvulininkystęs rytu Lietuvoje XIII—XV amžiais//MAD, A. Vilnius, 1974. № 3. Pav. 22:5—8.

237 Schultz A. Deutsches Leben im XIV und XV. Jahrhundert. Prag — Wien — Leipzig, 1892. Abb. 218.

238 Šnore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. Rīga, 1980. 77 att.: 8; 81 att.: 17, 18, 20; 116 att.: 57, 58.

239 Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI — XVII вв. М., 1971. С. 71. Табл. 8:7—12; Сергина Т. В. Раскопки в Окольном городе в 1978—1979 гг.// Археологическое изучение Пскова. М., 1983. С. 94.

240 Трусов О. А. Двери и их атрибуты. С. 34.

241 Šnore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 81 att.: 10; Ткачоў М. А., Калядзінскі Л. У. Раскопкі на Верхнім замку//ПГКБ. 1984. № 1. С. 35—37.

242 Металічныя вырабы... С. 76. Мал. 1:24—31.

ныя рэчы знойдзены ў Латвіі ў Алтэнскім замку 14—15 стст., Локсцене (у слаях 14—16 стст.), у Літве, Белгарадзе (16—17 стст.)[243]. Шырока былі распаўсюджаны нажы з прамой спінкай і закругленым з боку ляза канцом (мал. 35, *23—25*).

Аналагі ім вядомы на Селпілскім селішчы 14—16 стст. (Латвійская ССР), у Ноўгарадзе (бытуюць з 12 ст.) і ў заходніх славян[244].

Найбольш позняя разнавіднасць, якая з'явілася ў 17—18 стст., характарызуецца шырокім клінком з тупым акругленым канцом. Нажы з тронкамі ў познім сярэднявеччы на тэрыторыі Беларускага Панямоння мелі большае распаўсюджанне, чым нажы першай групы. Аб гэтым сведчаць у першую чаргу знаходкі з Лідскага замка. У Літве нажы з тронкамі сустракаюцца з 14 ст., у Маскве з 13—14 стст.[245] У лівонскіх замках, напрыклад, Саласпілскім — у слаях 15—16 стст.[246], Алтэнскім — канца 14—15 ст.[247] яны пераважаюць над нажамі з чаранком. У большасці нажоў з тронкамі зграбны падоўжаны клінок закруглены на вастрыі з боку ляза (мал. 35, *23—25*). Тронкі амаль аднолькавай шырыні з лязом, верх іх прамы, часам скошаны або закруглены. Сустракаюцца нажы, у каторых ніжняя частка ляза шырэй за верхнюю і сярэднюю, канец скруглены. У Лідскім замку знойдзены два вялікія нажы (даўжыня з ручкай 36 і 48 см.). Мяркуючы па рыбнай лусцэ, што прыклеілася да аднаго з іх, гэтыя нажы ўжываліся для трыбушэння рыбы.

---

[243] Graudonis J. Altene // AE. 1983. № 14. 18 att.: 13; Mugurēvičs Ē. Oliņkalna un Lokstenes pilsmowadi. Riga, 1977. T. 22:30; Urbanavičius V. Rumšiskenai XIV — XVI amžiais // Acta Historica Lituanica. 1970. Vol. 6. 83 p. Pav. 6:5; Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI—XVII вв. Табл. 5:2.

[244] Snore E., Zarina A. Senā Sēlpils. 152 att.: 54; Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. Рис. 34; Geisler H. Neue slawische Gräber aus Stolpe., kr. Angemüde // AF. 1960. S. 148—151. Abb. 4.

[245] Urbanavičius V. Rumšiskénai... Pav. 54; Дубынин А. Ф. //Археологические исследования 1955 г. в Зарядье (Москва)//КСИА. 1959. Вып. 77. Рис. 41:4—6.

[246] Стубавс А. Я. Археологические находки из древнего Саласпилса и хронология памятника//Studia archeologica in memoriam Harri Moora. Tallin, 1970 P. 181—188. P. 1:10.

[247] Graudonis J. Mūkukalna depozīti // AE. 1964. № 6. 75—84 lpp.

Форма рыбалоўных кручкоў вызначалася доўгатэрміновай стабільнасцю (мал. 35; *28,29*).

У слаях канца 16—17 ст. выяўленыя чаранковыя відэльцы з двума зубамі[248].

Крэсівы. З двух крэсіваў, знойдзеных у Лідскім замку, адно авальнае, датуецца па аналагах, у першую чаргу наўгародскіх, 14—16 стст.[249] Крэсівы авальнай формы знойдзены і ў Ваўкавыску[250], дзе бытавалі ў 13—14 стст. Другі экземпляр — адналязовы з фігурнай ручкай — адносіцца да крэсіваў індывідуальнай формы[251].

Нажніцы. Па прынцыпу дзеяння падзяляюцца на пружынныя і рычажныя (шарнірныя). Пружынныя маюць устойлівую форму, якая амаль не змянілася да нашых дзён. Нажніцы з дугавой пружынай і дугападобным пераходам ад рэжучай пласціны да ручак знойдзены ў слаях 13—14 стст. у Гродзенскім замку[252]. У шарнірных нажніц рукаяткавыя стрыжні, круглыя або квадратныя ў папярэчным сячэнні, заканчваюцца кольцам. Характэрная асаблівасць больш ранніх — канструкцыя ручак. Кольца ў іх не суцэльнае, а ўяўляе сабой дугу[253]. Нажніцы з суцэльным зварным кольцам у Ноўгарадзе з'яўляюцца ў 14 ст. Відавочна, 14—15 стст. можна датаваць падобныя знаходкі з Лідскага замка[254] (мал. 35, *26*). Аналагі ім, акрамя Ноўгарада, вядомыя ў Селпілсе, Локсцене (Латвія, канец 14—15 ст.)[255].

Спражкі дзеляцца на два тыпы: прамавугольныя і з акруглай дужкай. Прамавугольная форма найбольш распаўсюджаная і цяжка паддаецца датаванню. Памеры прамавугольных спражак розныя: вышыня ад 3,3 да 7,5 см, шырыня 2,3—4,5 см. Падобныя спражкі з Беларускага Панямоння датуюцца шырока — 14—17 стст. Другі тып характарызуецца наяўнасцю прамога стрыжня — асновы, да якой мацуецца язычок, і акруглай дужкай (мал. 35, *27*). Спражкі з паўкруглай дужкай маюць аналагі сярод добра

---

[248] Металічныя вырабы... Мал. 1:32—34.
[249] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. Рис. 84:9, 11.
[250] Зверуго Я. Г. Древний Волковыск. Рис. 9:15.
[251] Металічныя вырабы... Мал. 3:11.
[252] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 96:1, 7.
[253] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. С. 60.
[254] Металічныя вырабы... С. 78. Мал. 1:36—38.
[255] Snore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 82 att.: 26—27; Mugurēvičs Ē. Oliņkalna... T. 21:29.

датаванага матэрыялу з Латвіі. Такія спражкі знойдзены ў адным з пахаванняў 15 ст. у Селпілсе, у слаях 14—15 стст. Локсценскага замка[256]. Падобная па форме і памерах знаходка з Тушына датуецца 16—17 стст.[257] Некаторыя спражкі адрозніваюцца па канструкцыі ад вышэй апісаных. Яны зробленыя не з аднаго кавалка дроту, а ўяўляюць сабой сагнутую дужку, надзетую пяцелькамі на стрыжань. Прычым язычок мацуецца да дужкі[258]. Аналагічныя спражкі знойдзены ў Латвіі (15—16 стст.) і Маскоўскай Русі[259] (16—17 стст.). Акрамя прыведзеных тыпаў сустракаюцца спражкі індывідуальнай формы.

Нярэдкая знаходка ў познесярэднявечным слоі—абутковыя падкоўкі. Лічыцца, што ў Ноўгарадзе яны ўваходзяць у побыт у 14 ст., калі з'яўляюцца там боты з абцасамі[260]. На Беларускім Панямонні ўжываліся галоўным чынам падкоўкі, якія мацаваліся да абцаса з дапамогай шыпоў. Яны знойдзены ў Гродне, Лідзе, Слоніме, Навагрудку, Міры, Гальшанах, Ашмянах[261]. Прычым мацавальныя шыпы характэрныя і для падковак на вузкі абцас. Самыя старажытныя падкоўкі ўяўляюць сабой сагнутую дугой вузкую і высокую пласцінку (да 2,5 см) з трыма шыпамі (мал. 36, *1, 2*). У Ноўгарадзе яны бытуюць у 14—15 стст., у Літве і Латвіі знойдзены ў слаях 15 і 16 стст.[262] На тэрыторыі Беларускага Панямоння высокія падкоўкі сустракаюцца ў слаях 15—16 стст. Відавочна, далейшае развіццё падковак ішло ў бок памяншэння вышыні і павелічэння шырыні. Магчыма, адначасова маглі ўжывацца некалькі іх разнавіднасцей. Пастулова падкоўкі становяцца плоскімі, прычым працэс гэты прыходзіцца на 16—17 стст. (мал. 36, *3—6*). Нарэшце, у слаях канца 17—18 ст. з'яўляюцца пляскатыя, якія мацаваліся да абцаса цвікамі. Падэшва бота з такой падкоўкай знойдзена ў Гальшанах

---

[256] Snore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 168 att.: 1, 2; Mugurēvičs Ē. Oliņkalna... T. 20:6; T. 21:20.
[257] Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI—XVII вв. Табл. 6:14.
[258] Металічныя вырабы... Мал. 2:33.
[259] Snore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 79 att.: 6; Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI—XVII вв. Табл. 6:15, 16.
[260] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. С. 108.
[261] Металічныя вырабы... С. 74—76. Мал. 1:1—10.
[262] Volkaitė-Kulikauskienė R. Punios Piliakalnis. Pav. 23:5; Snore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 76 att.: 16; 77 att.: 11.




36. Металічныя вырабы: *1—6* — абутковыя падкоўкі (*1* — Навагрудак, *2—5* — Лідскі замак, *6* — Мір; *1—2* — 15—16 стст., *3—6* — 16—17 стст.); *7—10* — наканечнікі стрэл 15—17 стст. (*7—9* — Лідскі замак, *10* — Ашмяны); *11—14* — шпоры (*11, 13* — Лідскі замак, *12* — Гродна, кляштар базылянак, *14* — Крэўскі замак; *11* — 14 ст.,*12, 13*—16—17 стст., *14* — 14—15 стст.); *15—18* — падковы (*15, 16, 18* — Лідскі замак, *17* — Ашмяны; *15—17*—16—17 стст., *18*—17—18 стст.); *19* — парахаўніца 17 ст. (Лідскі замак); *20* — крук для нацягвання арбалета 14 ст. (Лідскі замак); *21—22* — кулялейкі 16—17 стст. (Ліда, гарадзішча ля в. Бярозавец Карэліцкага р-на); *23* — алебарда 2-й паловы 16 ст. (Гродна); *24* — сякера 16—17 стст. (Мір); *25* — уток ад кап'я 16—17 стст. (Лідскі замак); *1—11, 13, 15—18, 21, 23—25* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *12* — раскопкі І. М. Чарняўскага; *19—20* — раскопкі А. А. Трусава; *22* — раскопкі А. А. Трусава, А. К. Краўцэвіча

у слоі 18—19 стст. Невялікія падкоўкі для вузкіх абцасаў, якія мацаваліся цвікамі і вядомыя ў Ноўгарадзе з 15 ст.[263], у Беларускім Панямонні не выяўлены.

Наканечнікі арбалетных стрэл у замках Беларускага Панямоння сустракаюцца ў слаях 14—15 стст.[264] У Мірскім замку, які збудаваны ў пачатку 16 ст., не знойдзена ні аднаго такога наканечніка. Па спосабу мацавання да дрэўка яны падзяляюцца на ўтульчатыя і чаранковыя. Утульчатыя маюць пірамідальную, квадратную ў сячэнні галоўку. Утулку з бранябойнай галоўкай злучае зграбная шыйка. Найбольшае патаўшчэнне прыходзіцца на яе сярэдзіну або бліжэй да вастрыя[265]. Шырыня ўпора да даўжыні галоўкі суадносіцца як 1:4. Гэта 4-ы тып арбалетных наканечнікаў па класіфікацыі А. Ф. Мядзведзева[266]. Час іх ужывання —13—14 стст. Знойдзеныя такія наканечнікі ў Гродзенскім і Лідскім замках. Для наканечнікаў з Лідскага замка бытаванне абмяжоўваецца 1-й чвэрцю 14 ст. (збудаванне замка) — канцом 14 ст. Аналагі ім сустрэты акрамя Русі на тэрыторыі Латвіі[267]. У Лідскім замку знойдзены ўтульчаты лаўраліставы наканечнік рамбічнага сячэння. Найбольшае пашырэнне баявой галоўкі знаходзіцца бліжэй да вастрыя. Гэта другая разнавіднасць 8-га тыпу па класіфікацыі А. Ф. Мядзведзева, датаваная 14—15 стст.[268]

З чаранковых найбольш распаўсюджаны наканечнікі квадратнага сячэння з ромбападобнымі кантамі — 14-ы тып[269]. Акрамя ўсходнеславянскіх зямель яны сустракаюцца на суседніх тэрыторыях, напрыклад у Латвіі, і датуюцца 13—15 стст.[270] Знойдзены таксама наканечнікі квадратнага сячэння з ромбападобным кантам і зрэзанымі вугламі (15-ы тып).

---

[263] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. С. 111.

[264] Металічныя вырабы... С. 81—82. Мал. 2:1, 3—12, 15, 16.

[265] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 88:8.

[266] Медведев А. Ф. Ручное метательное оружие (лук и стрелы, самострел) VIII—XIV вв. М., 1966. С. 94.

[267] Graudonis J. Altene. 34 att.: 17, 27; Šnore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 76 att.: 2.

[268] Медведев А. Ф. Ручное метательное оружие. С. 94—95.

[269] Там жа. С. 95; Воронин Н. Н. Древнее Гродно. Рис. 88:2,6.

[270] Mugurēvičs Ē. Oliņkalna... T. 31:6.

У Беларускім Панямонні чаранковыя наканечнікі ад арбалетных стрэл знойдзены ў Ваўкавыску, Лідскім і Гродзенскім замках. Верхняй мяжой бытавання баявога арбалета можна лічыць пачатак 16 ст. (ужо ўпамінаўся Мірскі замак пачатку 16 ст., дзе не знойдзена ні аднаго арбалетнага наканечніка). Пазней самастрэл выкарыстоўвалі галоўным чынам на паляванні. Наканечнікі стрэл для лука ўсе чаранковыя[271], у сячэнні маюць выгляд тонкай лінзы (мал. 36, *7—10*). Падобныя наканечнікі выяўлены ў Мсціславе[272]. Сярод знаходак трапляюцца ромбападобныя, блізкія да тыпу 44 (па А. Ф. Мядзведзеву), якія стратыграфічна датуюцца 15—16 стст.

Шпоры 14—17 стст. з Беларускага Панямоння блізкія да распаўсюджаных у Еўропе формаў[273]. У аднаго тыпу шпораў дуга ў выглядзе літары «V» (V тып па класіфікацыі А. М. Кірпічнікава) плаўна выгнутая і заканчваецца прамавугольнымі петлямі з дзвюма адтулінамі. Датуюцца яны пачаткам 14—15 ст. У шпораў 16—17 стст. з Гродна дзяржальца колца знаходзіцца ў адной плоскасці з дугой шпоры (мал. 36, *12*). Дуга ў выглядзе літары «U». Падобныя шпоры знойдзены на тэрыторыі Латвіі (Кокнесе, Селпілс) у слаях 16—17 стст., Маскоўскай Русі (16—17 стст.), Германіі[274] (з'яўляюцца ў 14 ст.). Шпоры такога тыпу выяўлены ў Мінскім замку ў добра датаваным слоі 2-й паловы 15— пачатку 16 ст.

У частккі шпораў дуга ў выглядзе «U» злучана з дзяржальцам колца пад вуглом (мал. 36, *11, 13, 14*).

Незвычайны экземпляр з Лідскага замка з дугой у выглядзе літары «U» і доўгім (15,5 см) злёгку загнутым шыпам, канец якога абламаны[275]. Такія шпоры насілі гусары ў 16 ст.[276]

---

271 Металічныя вырабы... Мал. 2:2, 13, 14.

272 Алексеев Л. В. Городище Девичья гора в г. Мстиславе//КСИА. 1963. Вып. 94. С. 73—79.

273 Металічныя вырабы... С. 82. Мал. 2:35—41; Кирпичников А. Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси. IX—XIII вв. Л., 1973. С. 139. Рис. 37.

274 Snore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 76 att.: 10; Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI—XVII вв. Табл. 4:1—3; Schultz A. Deutsches Leben... S. 660.

275 Металічныя вырабы... Мал. 2:38.

276 Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1981. S. 128—129.

Падковы маюць авальную форму, шырыня дугі памяншаецца да канцоў[277]. Даўжыня — ад 10 да 19, шырыня — ад 8 да 15 см.

Яны адрозніваюцца памерамі, наяўнасцю розных дэталей, колькасцю дзірак пад цвікі. Да найбольш старажытных (14—15 стст.) належаць экземпляры з выступамі на канцах і злучанымі канаўкай адтулінамі пад цвікі. Відавочна, падобныя падковы бытавалі і ў 16—17 стст. (мал. 36, *15—17*). Сустракаюцца падковы з круглымі адтулінамі на канцах, а сярод апошніх — з шырокім выступам (адгорткай) па цэнтры дугі (мал. 36, *18*). Яны датуюцца 17—18 стст. Сярод знаходак ёсць падковы без выступаў, адгортак, адтулін на канцах, толькі з дзіркамі для цвікоў.

Нярэдкімі знаходкамі ў познесярэднявечным культурным слоі з'яўляюцца манеты. Найчасцей сустракаюцца медныя солiды Яна Казіміра, масавая эмісія якіх пачалася ў канцы 1659 г.[278] Праз сваю шматлікасць (было запланавана выпусціць 180 млн. экземпляраў, а выбіта значна больш) [279] медныя солiды служаць цудоўным датуючым матэрыялам. Некаторае ўяўленне аб наміналах, быўшых у абарачэнні на Беларусі, даюць клады манет і адзінкавыя экземпляры, знойдзеныя пад час раскопак. Так, у Лідскім замку выяўлены скарб з пяці срэбных манет 16 ст., у г. п. Мір — два скарбы: адзін з 93 медных солідаў Яна Казіміра, другі складаўся з чатырох срэбных манет таксама 17 ст. Варта адзначыць дзве рэдкія манеты 14 ст. з Лідскага замка: дэнарый Кейстута і дэнарый Вітаўта.

Некалькі цікавых рэчаў знойдзены ў адным-двух экземплярах Варган з Лідскага замка — колбападобны выгнуты стрыжань з язычком пасярэдзіне (мал. 35, *30*). Аналагічная знаходка з Ноўгарада датуецца 16 ст.[280] Падобны ж інструмент выяўлены ў Арэшку (Петракрэпасць) у слаях 16 ст.[281]

Аднаражковы падсвечнік са спіральным канцом

[277] Металічныя вырабы... С. 82—83. Мал. 2:18—25.
[278] Рябцевич В. Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977. С. 139.
[279] Там жа. С. 141.
[280] Колчин Б. А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого. Рис. 103.
[281] Кирпичников А. Н. Древний Орешек. Л., 1980. Рис. 28:2.

(мал. 35, *31*) з Лідскага замка аналагічны знаходцы 16—17 стст. з Ладагі[282]. Да гэтага ж часу належаць і скрабніцы з Лідскага і Крэўскага замкаў (мал. 35, *32*). Сякера з Лідскага замка блізкая па форме і памерах да знаходкі ў Цэсіскім замку (Латвія), датаванай 2-й паловай 16 ст.[283] У адной з ніш паўночна-ўсходняй вежы Лідскага замка знойдзены невялікі металічны посуд з накрыўкай (мал. 36, *19*). Мяркуючы па заходнееўрапейскіх аналагах, гэта парахаўніца 17 ст.[284] З таго ж замка паходзіць крук з раздвоенай асновай. Ён выкарыстоўваўся для нацягвання цецівы арбалета (мал. 36, *20*); па аналагах датуецца 14 ст.[285] Кручок-блясна з двума колцамі па баках падобны па форме на кручок 2-й паловы 14—15 ст. з замка Локсцене (Латвія)[286]. Праўда, у локсценскага экземпляра няма колцаў і ён трохі вузейшы за лідскі. Фрагмент алавянага блюда з Мірскага замка з гербам Радзівілаў датуецца сярэдзінай 17 — пачаткам 18 ст. Да гэтага ж часу належыць чыгуннае ядро і мушкетная куля.

У ваколіцах Лідскага замка знойдзены два ўзоры халоднай зброі. Каваны кінжал датуецца, відавочна, 14 ст.[287] Другая знаходка — корд (назва кароткага мяча ў сярэднявечнай Беларусі).

Даўжыня кінжала — 43 см, шырыня — 2,5 см, даўжыня дзяржальна — 12 см, шырыня — 2,5 см. У верхняй частцы дзяржальна маецца адтуліна дыяметрам 0,3 см, відавочна, для раменьчыка.

Даўжыня корда — 99 см, таўшчыня — 1 см. У рукаятцы (даўжыня — 13 см, шырыня — 3,4 см) маюцца адтуліны, куды ўстаўляліся заклёпкі тронак. На шырокай частцы ляза недалёка ад перакрыжавання ёсць два кляймы. Адзін знак — разнавіднасць «пасаўскага ваў-

---

282 Никитин А. В. Русское кузнечное ремесло XVI — XVII вв. Табл. 7:6.

283 Металічныя вырабы... Мал. 2:26; Apala Z. Daži uz Livonijas kara laiku attiecināmi atradumi Cēsu pilī // AE. 1984. № 14. 14—23 lpp. 7 att.:15.

284 Металічныя вырабы... Мал. 3:7; Müller H. Historische Waffen. Berlin, 1957. S. 127. B. 187.

285 Там жа. S. 112. B. 172.

286 Металічныя вырабы... Мал. 3:1; Mugurēvičs Ē. Oliņkalna... T. 19:4.

287 Трусаў А. А. Зброя Лідскага замка. С. 26—27.

чка». Падобны адбітак стаіць на мячы пскоўскага князя Доўманта, які быў родам з Панямоння [288]. Другі знак складаецца з крыжыка на паўкруглай аснове. А. А. Трусаў датуе гэтую зброю 15 ст.[289]

Да 16—17 стст. належаць: баявая сякера з Міра (мал. 36, *24*), кулялейкі з Ліды і гарадзішча ля вёскі Бярозавец Карэліцкага раёна (мал. 36, *21, 22*), два ўтокі ад дзідаў (мал. 36, *25*), цуглі (мал. 35, *34*), фрагмент восцяў (мал. 35, *35*) з Лідскага замка. Медыцынскі інструмент для пускання крыві з Лідскага замка (мал. 35, *37*), мяркуючы па аналагах, меў шырокія храналагічныя межы бытавання (14—17 стст.) [290].

Адна з цікавейшых знаходак — ювелірныя вагі 12—15 стст. (датаваныя па аналагах) маюць форму і канструкцыю традыцыйную для ўсяго сярэднявечча (мал. 35, *33*). Варта адзначыць яшчэ выпадковую знаходку ў ваколіцах Гродна алебарды, якая па заходнееўрапейскіх аналагах датуецца 2-й паловай 16 ст. (мал. 36, *23*) [291].

Сярод рэчаў з Лідскага замка выдзяляецца срэбная бляшка-ўпрыгажэнне з выбітай выявай птушкі (мал. 35, *38*). У гэтай выяве выразна адчуваюцца традыцыі эпохі Кіеўскай Русі.

## ВЫРАБЫ СА ШКЛА, КОСЦІ, КАМЕНЮ, ДРЭВА, СКУРЫ

У асартымент шкляных вырабаў, знойдзеных пад час раскопак, уваходзяць розныя віды бытавога і аптэчнага посуду: шкляніцы, шклянкі, чаркі, бакалы, кілішкі, бутлі, бутэлькі, кварты, біклагі і г. д., а таксама ўпрыгажэнні, галоўным чынам пацеркі і бранзалеты са слаёў 14 ст.

У часы позняга сярэднявечча вытворчасць шкла вялася ў некалькіх гарадах Беларускага Панямоння. Першыя пісьмовыя звесткі аб існаванні такой вытворчасці належаць да 16 ст. Вядома інфармацыя аб гутах у Гродне і ў Іўі [292]. У 1524 г. у Гродне жыў шкляроб

---

[288] Кирпичников А. Н. Военное дело на Руси в XIII — XV вв. Л., 1976. С. 105. Рис. 2.

[289] Трусаў А. А. Зброя Лідскага замка. С. 26—27.

[290] Металічныя вырабы... Мал. 3:2; Уртан Б. У. Средневековые медицинские инструменты для кровопускания // СА. 1966. № 2. С. 329.

[291] Müller H., Kölling H. Europäische Hieb-und Stichwaffen. Berlin, 1981. S. 82, 255.

[292] Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. С. 123.

Сцяпан, а ў 1599 г. каралеўскі прывілей на гуту атрымаў пісар Вялікага княства Літоўскага Валовіч[293].

У большасці выпадкаў познесярэднявечны шкляны посуд з Беларускага Панямоння выраблены з бясколернага або зеленаватага шкла (шкло набывае зеленаваты колер ад прысутнасці вокісу жалеза) [294]. Колер шкламасы і наяўнасць незашліфаванага следу ад понціі часта з'яўляецца дастаткова надзейнай прыкметай, каб аднесці выраб да позняга сярэднявечча. У аснове апрацоўкі знаходак шклянога посуду з Беларускага Панямоння ляжыць класіфікацыя калекцыі з Лідскага замка, распрацаваная М. М. Яніцкай, а таксама даследаванні мінскага і мсціслаўскага шкла [295]. Адзінае, што, на наш погляд, нельга прыняць адназначна,— гэта датыроўкі рэчаў. Няма падстаў сцвярджаць, што ўласны шкляны посуд бытаваў у нас з 13—14 стст. Даныя археалогіі паказваюць на яго з'яўленне ў 16 ст., магчыма, у канцы 15 ст.

Адным з найбольш распаўсюджаных відаў аптэчнага шклянога посуду, які выкарыстоўваўся і для піцця, былі шкляніцы. Яны сустракаюцца ў наслаеннях 16—18 стст.; маюць цыліндрычную або блізкую да цыліндра форму тулава. Дыяметры іх розныя і вагаюцца ад 4 да 13 см. Часцей за ўсё пад час раскопак трапляюцца цэлыя донцы або іх фрагменты. Віды шкляніц розняцца галоўным чынам па афармленню паддона. Найчасцей трапляюцца ўзоры, упрыгожаныя хвалістым пасам на донцы (мал. 37, *1, 2*). Донца ўвагнутае ў сярэдзіне. У Лідскім замку знойдзены шкляніцы гэтага тыпу з двайным і трайным пасам. Некаторае начынне абвіта па донцы простым пасам (мал. 37, *3*). Да 16—17 стст. належаць цыліндрычныя шкляніцы на цыліндрычным жа паддоне (мал. 37, *4*). Такое начынне выдувалася ў два прыёмы, і паміж донцам шкляніцы і паддонам відныя шчыліны. Часам

---

293 Jodkowski J. Huta szklana w Grodnie za Zugmunta III // Muzeum w Grodnie. Rocznik. Grodno, 1925. S. 39.

294 Щапова Ю. Л. Очерки истории древнего стеклоделия. М., 1983. С. 35.

295 Яніцкая М. М. Вытокі шклаpобства Беларусі. С. 111—121; Собаль В. Я., Яніцкая М. М. Шкляны посуд Мінска XII — XIX стст. // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984. С. 83—91; Яніцкая М. М., Сташкевіч А. Б. Мсціслаўскае шкло XVI — XIX стст. // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 83—93.




37. Вырабы са шкла: *1—4* — шкляніцы (*1, 3* — Ашмяны, *2* — Мір, *4* — Лідскі замак; *1, 3*—17—18 стст., *2*—17 ст., *4*—14—17 стст.); *5—9* — келіхі і кілішкі (*5* — Лідскі замак, *6, 9* — Ліда, *7, 8* — Мір; *5, 6, 9*—18—19 стст., *7, 8*—17—18 стст.), *10—12* — чаркі (*10, 11* — Ліда, *12* — Мір; *10*—18—19 стст., *11, 12*—17—18 стст.); *13—17* — звонападобныя кубкі 17—18 стст. (*13—16* — Мір, *17* — Навагрудак); *18—19* — кварты (Мір — 17—18 стст., Навагрудак — 16—17 стст.); *20—25* — бутэлькі і бутлікі 17—18 стст. (*20* — Навагрудак, *21, 22, 24, 25* — Слонім, *23* — в. Залессе Смаргонскага р-на); *26—27* — біклагі 17—18 стст. (Навагрудак, Любча); *28* — флакон 17—18 стст. (Мір); *29* — ручка 17—18 стст. (Ліда); *30—31* — шклянкі 18—19 стст. (Слонім); *32* — склянка 18—19 стст. (Слонім); *33—35* — клеймы 17—18 стст. (*33* — Гродна, пасады, *34* — Ашмяны, *35* — Навагрудак); *36—37* — фрагменты начыння 18 ст. з гравіроўкай (Лідскі замак); *39—40* — пацеркі 14—18 стст. (Гродна, Мір); *1—12, 17, 18, 20, 26—29, 33—40* — раскопкі А. К. Краўцэвіча; *13—16* — раскопкі А. М. Кушнярэвіча; *19* — раскопкі А. А. Трусава; *21, 22, 24, 25, 30—32* — раскопкі А. К. Краўцэвіча, Н. І. Здановіч; *23* — перададзена архітэктарам А. В. Бандарэнка

месца іх злучэння замацавана пасам. У большасці шкляніц дыяметр паддона трохі большы за дыяметр тулава. Край паддона адагнуты вонкі. Адна з разнавіднасцей мае вузкае тулава на цыліндрычным паддоне з петлепадобна загнутым краем. Аналагі такому начынню вядомыя ў калекцыі князёў Чартарыйскіх [296]. У 17—18 стст. частка шкляніц упрыгожвалася шматколерным роспісам.

Келіхі і кілішкі (мал. 37, *5—9*) выраблялісся з бясколернага шкла з зеленаватым адценнем. Выдзяляецца некалькі разнавіднасцяў келіхаў, якія розняцца галоўным чынам формай ножак і стопаў. Іх тулава звычайна бывае варонкападобным. Бакалы з масіўнай ножкай, утворанай з двух-трох авальных дыскаў, або «яблыкаў», датуюцца 16—17 стст. Да таго ж часу належыць начынне, у якога тулава абапіраецца на шырокі канічны паддон і аддзяляецца ад яго адным-двума «яблыкамі» [297]. У 17 ст. з'яўляюцца бакалы з доўгай ножкай. У Мірскім замку ў слоі канца 17 ст. знойдзены цікавыя ножкі бакалаў з выявай львінай галавы і крыжа [298]. У 18 ст. бакалы мелі балясападобныя, часам гранёныя ножкі і чашы (мал. 37, *5, 6*). Такія ж формы мелі і кілішкі (мал. 37, *9*).

Чаркі характарызуюцца тоўстымі сценкамі і масіўнымі донцамі дыяметрам 3—5,5 см. Тулава іх цыліндрычнае або злёгку звужанае да донца (мал. 37, *10—12*). Аналагі вядомыя ў Германіі [299]. Найбольшае распаўсюджанне яны атрымалі ў 17 ст. Сустракаюцца чаркі, у якіх сценкі дэкарыраваныя вертыкальнымі рэбрамі (мал. 37, *11—12*). Адна з разнавіднасцей чарак мае плаўна ўвагнутае і не такое масіўнае, як у астатніх, донца. Звычайна чаркі выраблялісся з зеленаватага або бясколернага шкла, але ў Лідскім замку знойдзены экземпляр 17 ст., выраблены з жоўтага шкла [300].

Да 17—18 стст. належаць звонападобныя кубкі (мал. 37, *13—17*). Частка з іх, на думку спецыялістаў, можа разглядацца як паўфабрыкат для келіхаў [301]. Яны

[296] Polskie szkło do połowy 19 wieku. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk, 1974. M. 15.
[297] Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. С. 116—117.
[298] Трусаў А., Ляшкевіч А. Шкло Мірскага замка. С. 43.
[299] Kampfer F. Vier tausend Jahre Glas. Dresden, 1966. Abb. 109.
[300] Яніцкая М. М. Вытокі шкларобства Беларусі. С. 117.
[301] Яніцкая М. М., Сташкевіч А. Б. Мсціслаўскае шкло XVI — XIX стст. С. 89.

зроблены са светла-зялёнага або светла-карычневага шкла.

Кварты — аптэчнае начынне, што ўжывалася і для захавання напіткаў,— па форме, матэрыялу падзяляюцца на два віды. Агульным для іх з'яўляецца форма корпуса. Прамавугольны ў плане (памеры розныя: 6,5 × 6; 6 × 5,5; 8,5 × 8; 9 × 10; 13 × 11,5 см), ён завяршаецца пакатымі акруглымі плечыкамі і пераходзіць у горла з кароткай шыйкай і неакуратна апрацаваным вусцем (мал. 37, *18, 19*). Кварты першага віду вырабляліся з тоўстага зялёнага неасветленага шкла, вуглы сценак у іх вострыя. У кварт другога віду, зробленых з тонкага асветленага шкла зеленаватага і жаўтаватага адценняў, дно злёгку ўвагнутае ў сярэдзіну, а вуглы сценак скругленыя. Абодва віды бытавалі прыблізна ў адзін і той жа час — канец 16—18 ст. Аналагі познесярэднявечным квартам Беларускага Панямоння вядомы сярод матэрыялаў з вёскі Збораў Рагачоўскага раёна Гомельскай вобл., а таксама матэрыялаў 15—16 стст. з Мінска, Лагойска, Мсціслава.

Бутэлькі маюць цыліндрычную форму, донцы глыбока ўвагнуты ў сярэдзіну тулава. Шыйкі ў іх высокія, рыльцы аздоблены адзінарнымі і двайнымі жгутамі ці стужкамі (мал. 37, *20—23*). Зроблены яны з зялёнага шкла розных адценняў.

Для захавання вадкасці ўжываліся бутлі, біклагі і бутлікі (мал. 37, *24—27*) — начынне з цыліндрычным ці шарападобным тулавам. Бутлікі былі меншых памераў, чым бутлі. Біклагі мелі суцэльнае тулава, авальныя ў плане донцы са стужкавымі паддонамі (мал. 37, *26, 27*).

Аб наяўнасці ў побыце гараджан збаноў і куфляў сведчаць знаходкі ручак (мал. 37, *29*) і фрагментаў сценак.

Шклянкі мелі цыліндрычную форму ці трохі звужаліся да донца або мелі крыху адагнутую вонкі верхнюю частку (мал. 37, *30, 31*). Яны вырабляліся з празрыстага бясколернага шкла, гэтак жа як аптэчныя склянкі (мал. 37, *32*), і датуюцца 17—18 стст. Існаванне шклянак у 17 ст. пацвярджаецца выявай на абразе «Святая сям'я» (напісаны ў 1620—30-я гады) мастака з Гродзеншчыны Г. С. Хаецкага [302]. Там жа маецца выява кілішка. Да

[302] Jodkowski J. Dwa obrazy polskie w Muzeum grodzieńskiem // Muzeum w Grodne. Rocznik 2 za rok 1924. Grodno, 1925. S. 34—35.

18 ст. адносіцца шкляное начынне з шліфоўкай і гравіроўкай (мал. 37, *36—37*).

Сярод знаходак ёсць фрагменты посуду з клеймамі (мал. 37, *33—35*).

Фрагменты ваконнага шкла — характэрная рэч для слаёў 17—18 стст. Шыбы былі двух відаў: прамавугольныя і круглыя, дыяметрам 10—11 см. У Мірскім замку знойдзены фрагмент вітражнага шкла канца 16 ст. Шкляныя пацеркі даволі рэдка сустракаюцца ў познесярэднявечным слоі (мал. 37, *38—40*).

Вырабы з каменю. Каменныя тачыльныя брускі — звычайная знаходка ў слаях 14—17 стст. Часцей за ўсё яны маюць прамавугольную форму, часам абодва канцы скругленыя. Выяўлены і экземпляры з дзіркамі для падвешвання (мал. 38, *1, 2*). Аналагічныя брускі вядомы з раскопак Віцебска [303]. Сярод знаходак некалькі праселак, відавочна, з каменю мясцовых парод (мал. 38, *3*).

Каменныя ядры — знаходкі, характэрныя для дзяржаўных замкаў Беларускага Панямоння. Іх паверхня добра апрацаваная, памеры розныя. У Гродзенскім замку адкапаны ядры 12—15 см у дыяметры, якія датуюцца канцом 14 ст. У верхніх слаях Навагрудскага замка выяўлены 24 каменныя ядры дыяметрам ад 5 да 27 см [304]. У Лідскім замку каля 40 вапняковых і гранітных ядраў маюць дыяметр ад 6 да 37 см. Тут знойдзены і экземпляры авальнай формы (10×7,5; 38×32 см). Датуюцца падобныя боепрыпасы, як і ядры з калекцыі Артылерыйскага гістарычнага музея, 14—15 стст.[305] Яны выяўлены ў замках, якія функцыяніравалі ў гэтыя часы. У замках жа, пабудаваных у 16 ст. і пазней (Гальшанскі, Любчанскі, Мірскі), каменных боепрыпасаў няма, толькі ў апошнім (збудаваны ў канцы 15 — пачатку 16 ст.) знойдзены два невялікія ядры. Адно з іх правільнай круглай формы дыяметрам 11,5 см, другое авальнае — 8×10,5 см. Каменныя ядры маглі выкарыстоўвацца для стральбы з каменекідальных машын і гармат (ядры малых памераў). У замках і палацах феадалаў з 16 і 17 стст. камень ужываўся для аблямоўкі ваконных, дзвярных праёмаў.

---

303 Ткачоў М., Калядзінскі Л. Раскоп на Верхнім замку. С. 35—37.
304 Gürtler R. Roboty konserwatorske... S. 187.
305 Кирпичников А. Н. Метательная артиллерия Древней Руси // МИА. № 7. С. 31.




38. Вырабы з косці і каменю: *1, 2* — тачыльныя каменныя брускі 14—17 стст. (Лідскі замак); *3* — праселка 14—17 стст. (Лідскі замак); *4* — грэбень 14 ст. (Лідскі замак); *5—10* — накладкі 14—17 стст. (*5* — Мір, *6—10* — Лідскі замак); *11* — тура (Лідскі замак); *12* — дэталь шахматнай фігуры (Лідскі замак); *13* — шашка (Лідскі замак); *14* — дэталь тронак 16—18 стст. (Мір); *15* — ручка (Гродна, пасады); *16* — выраб неакрэсленага прызначэння (Лідскі замак); *1, 2, 4, 6—13, 16* — раскопкі А. А. Трусава; *3, 5, 14, 15* — раскопкі А. К. Краўцэвіча




39. Скураны абутак 15—16 стст. са Старога замка ў Гродне: *1, 2* — поршні; *3* — чаравік. Раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова

Вырабы з косці. У невялікую калекцыю познесярэдневечных касцяных вырабаў з раскопак гарадоў і замкаў Беларускага Панямоння ўваходзяць накладкі, грабяні, іголкі, гузікі, тронкі, шахматныя і шашачныя фігуры. Частка іх апублікаваная [306].

Грабяні прамавугольнай формы з Лідскага замка датуюцца 14 ст. па аналагах у першую чаргу наўгародскіх [307] (мал. 38, *4*). У Гродне ў слоі 15 ст. знойдзены прамавугольны грэбень з доўгімі зубамі. Накладкі звычайна ўпрыгожаны цыркульным або раслінным арнаментам (мал. 38, *5—10*). Адна з дзвюх шахматных фігур (ладдзя — мал. 38, *11*) захавалася цалкам. Вышыня яе 4 см, дыяметр асновы — 3,5 см. Падобныя фігуры знойдзены ў Ноўгарадзе [308] і Селпілсе (Латвія) [309]. Аб другой фігуры можна меркаваць па ніжняй частцы дыяметрам 2 см (мал. 38, *12*). Магчыма, гэта аснова пешкі, так як дыяметр яе меншы, чым у ладдзі. Шашка (мал. 38, *13*) мае таўшчыню 0,5 см, дыяметр — 3 см. З косці выраблялiся тронкі для нажоў (мал. 38, *14—15*) і відэльцаў. Ужываліся тронкі з дзвюх пласцін, якія мацаваліся з дапамогай заклёпак, а таксама складаныя наборныя. Касцяныя іголкі, падобныя на лідскія, знойдзены ў Літве ў слаях 15 — першай паловы 16 ст.[310] У слаях 16—17 стст. сустракаюцца касцяныя гузікі.

У познесярэднявечных культурных наслаеннях часта трапляюцца скапленні рыбнай лускі, косці розных жывёл.

У слаях 15—17 стст., як правіла, дрэнна захоўваюцца дрэва і скура. Рэшткі драўляных маставых, жылых і гаспадарчых пабудоў 14—16 стст. выяўлены ў Гродне, Навагрудку, Слоніме. Невялікая колькасць вырабаў з дрэва і скуры 13—14 стст. апублікавана М. М. Вароніным [311].

Пад час раскопак на гродзенскім Старым замку М. А. Ткачовым і А. А. Трусавым у раскопе 2 пасярэдзіне двара ў пластах 14—17 стст. выяўлены вырабы са скуры

---

[306] Трусов О. А., Паничева Л. Г. Раскопки в Лидском замке // АО 1978 г. М., 1979. С. 446—447.

[307] Колчин Б. А. Хронология новгородских древностей // СА. 1958. № 2. С. 102.

[308] Рыбина Е. А. Готский раскоп // Археологическое изучение Новгорода. М., 1978. С. 219.

[309] Šnore E., Zariņa A. Senā Sēlpils. 82 att.: 19.

[310] Volkaitė-Kulikauskienė R. Punios piliakalnis. Pav. 24:12.

[311] Воронин Н. Н. Древнее Гродно. С. 149—195.



40. Бот 15—16 стст. са Старога замка ў Гродне. Раскопкі А. А. Трусава, М. А. Ткачова

і дрэва добрай захаванасці. Датыроўка іх застаецца шырокай, бо не ўдалося правесці поўных дэндрахраналагічных даследаванняў. У калекцыю скураных вырабаў уваходзяць: абутак (боты, чаравікі, поршні) (мал. 39, *40*), кашалёк, похвы, вялікая колькасць фрагментаў і абрэзкаў скуры.

Вырабы з дрэва прадстаўлены ў першую чаргу пабудовамі. У якасці будаўнічага матэрыялу ўжываліся ў асноўным сасновыя круглякі, а таксама дубовыя брусы (21×15 см). Тэхніка злучэння вуглоў — «у чашку» з астаткам. Памеры пабудоў: 3,68×3,54 м; 3,66×2,58 м; 3,5×3,37 м; размяшчэнне іх вызначаецца стабільнасцю на працягу доўгага часу. Сярод знаходак ёсць фрагменты вёдраў, кадак, бочак, місак, кубкаў, чарпакоў, лыжак, пралкі, верацяна і інш.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Матэрыяльная культура гарадоў і замкаў Беларускага Панямоння 14—18 стст. стала аб'ектам спецыяльнага вывучэння толькі ў 70-я гады 20 ст. Аднак цікавасць да познесярэднявечных старажытнасцяў узнікла яшчэ ў 18—19 стст. У гэты час актыўна ствараюцца прыватныя калекцыі сярэднявечных манет, дакументаў, рэчаў побыту, зброі і г. д.

У канцы 19 — пачатку 20 ст. праведзены першыя на Беларускім Панямонні археалагічныя раскопкі познесярэднявечнага паселішча. З. Глогер у мястэчку Крошын (зараз Баранавіцкі раён) адкрыў кафляную печку 14—15 стст. Найбольш буйныя археалагічныя даследаванні ў гарадах і замках Беларускага Панямоння вяліся пасля другой сусветнай вайны. Аднак даследчыкі цікавіліся галоўным чынам самым раннім перыядам існавання гарадоў і ігнаравалі познесярэднявечныя культурныя напластаванні. У працах археолагаў часам апісваліся рэчы 14 ст. і амаль няма звестак аб знаходках 15—18 стст. Таму можна казаць, што археалагічнае вывучэнне гарадоў і замкаў 15—18 стст. Беларускага Панямоння пачалося літаральна з нуля.

У наш час гістарычныя цэнтры гарадоў Беларускага Панямоння, як правіла, працягваюць выконваць функцыі агульнагарадскіх цэнтраў. Гэта стварае значныя цяжкасці пад час правядзення ў іх археалагічных раскопак. На першым этапе даследаванняў неабходна было правесці дасканалую разведку культурнага слою: межы распаўсюджвання, характарыстыка, перспектыўнасць для далейшага вывучэння, агульны аналіз катэгорый знаходак, распрацоўка іх храналогіі і г. д. Для выканання гэтых задач акрамя археалагічных раскопак былі выкарыстаны назіранні за землянымі працамі, планы гарадоў 18—19 стст., матэрыялы інжынерна-геалагічных даследаванняў — бурэнняў. Даныя бурэнняў утрымліваюць пэўную інфармацыю аб культурным слоі гарадскіх паселішчаў з развітым гістарычным цэнтрам. У першую чаргу гэта звесткі аб магутнасці культурных наслаенняў, часткова аб характары слою і рэльефе мясцовасці да яе засялення. Па матэрыялах бурэнняў, археалагічных раскопак, назіранняў за землянымі працамі складзены карты-схемы магутнасці культурнага слою сямі асноўных

